Генадзь Лапацін



# "Ікона звалась свячой..."



Абрад
"Свяча"
ў прасторы
традыцыйнай
культуры
Гомельшчыны

Гомель




2013

**УДК 392.9(476.2)**
**ББК 63.521(=411.3)-77(4Гом)**
**Л 77**

Рэцэнзенты:

**Валодзіна Т.В.**, доктар філалагічных навук, загадчык аддзела фалькларыстыкі і культуры славянскіх народаў ДНУ "Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры" НАН Беларусі;

**Лабачэўская В.А.**, дацэнт кафедры этналогіі і фальклору УА "Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў", кандыдат мастацтвазнаўства.

**Лапацін, Г.І.**

**Л77** "Ікона звалась Свячой..." Абрад "Свяча" ў прасторы традыцыйнай культуры Гомельшчыны /Генадзь Лапацін. – Гомель: Барк, 2013. – 116 с.

ISBN 978-985-6763-95-6

У кнізе ўпершыню ў беларускім нарадазнаўстве сабраны разам, класіфікаваны і інтэрпрэтаваны звесткі пра ўнікальны абрад "Свяча", распаўсюджаны на Гомельскім і Магілёўскім Падняпроўі. Ён мае глыбокія карані, узыходзіць да язычніцкіх культаў, аднак цягам свайго існавання арганічна ўключыў хрысціянскія ідэі і ў такім цэласным, багатым светапогляднымі алюзіямі выглядзе дажыў да нашых дзён.

Аўтар на падставе ўласных назіранняў кваліфікавана вылучае структуру абраду, аналізуе яго сучасны стан, воблік як свята, абгрунтоўвае яго значнасць і неабходнасць захавання.

Вялікую каштоўнасць маюць аўтэнтычныя запісы абраду, зробленыя падчас экспедыцый Г.І. Лапаціным і яго калегамі – супрацоўнікамі Веткаўскага музея стараабрадніцтва і беларускіх традыцый ім. Ф.Р. Шклярава.

**УДК 392.9(476.2)**
**ББК 63.521(=411.3)-77(4Гом)**

ISBN 978- 985-6763-95-6

# Жыць на сваёй зямлі так, каб не нашкодзіць сабе і сваім блізкім

## ЗАМЕСТ УВОДЗІН

Гомельшчына – зямля з багатай духоўнай спадчынай, у склад якой уваходзяць самыя розныя традыцыйныя для нашай зямлі абрады, рытуалы, звычаі, песні. Мы называем гэта спадчынай, таму што гэта належыць нам як прадстаўнікам свайго народа. Мы называем гэта традыцыяй, паколькі гэтыя песні і абрады перадаюцца з пакалення ў пакаленне і выконваюцца на працягу ўжо не аднаго стагоддзя. Аднак трэба мець на ўвазе, што разам з тым народная культура не з'яўляецца нечым нязменным і застылым. Яна чула рэагуе на эканамічныя, грамадскія, палітычныя працэсы ў нашым жыцці. І з цягам часу нешта адкідаецца, страчваецца, удасканальваецца, набываецца, запазычваецца. І ўжо шмат з таго, што ведалі нашы продкі, мы ведаем дзякуючы толькі руплівай і адмысловай працы этнографаў, фалькларыстаў, мовазнаўцаў, якія збіраюць, фіксуюць, вывучаюць традыцыю, жывую для іх часу.

Народная культура Гомельшчыны заўсёды прыцягвала ўвагу вучоных. Дастаткова ўзгадаць імёны Еўдакіма Раманавіча Раманава і Аляксандра Станіслававіча Дамбавецкага, якія праводзілі свае даследаванні ў гэтых мясцінах напрыканцы XIX–пачатку XX ст. У далейшым вялікая праца па вывучэнні нашай традыцыйнай культуры была працягнута і праводзіцца да нашага часу навукоўцамі Інстытута славяназнаўства і балканістыкі АН СССР (на дадзены час – Інстытут славяназнаўства РАН), Інстытута этналогіі і антрапалогіі РАН, Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі (на дадзены час – Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі),

Маскоўскай кансерваторыі, Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, Беларускага інстытута праблем культуры, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны.

З канца 1970-х − пачатку 1980-х гадоў у дадзеным накірунку працуе калектыў Веткаўскага музея народнай творчасці[1], супрацоўнікам якога з'яўляецца аўтар гэтай кнігі. Сваю даследчую дзейнасць супрацоўнікі музея не спынілі і пасля падзей 1986 года, калі ў выніку аварыі на ЧАЭС 58 населеных пунктаў Веткаўшчыны былі адселены, а іх жыхары перасялены ў іншыя гарады і вёскі Беларусі. Мы захоўваем сувязі з перасяленцамі, якія жывуць як у самой Ветцы, так і ў бліжэйшых вёсках. На дадзены момант архіў музея складае больш 140 сшыткаў па асобных населеных пунктах Веткаўскага, Гомельскага, Добрушскага, Кармянскага, Чачэрскага раёнаў Гомельскай вобласці, а таксама памежных вёсак Магілёўскай і Бранскай абласцей.

Трэба разумець, што ні адзін фальклорны тэкст не належыць нейкаму аднаму асобна ўзятаму чалавеку − а належыць яму як прадстаўніку традыцыі, у якога ёсць як папярэднікі, так і нашчадкі. Адна з маіх самых цікавых субяседніц, Варвара Аляксандраўна Грэцкая з вёскі Амяльное Веткаўскага раёна, многае пераняла ад сваёй бабулі, якая ў размовах з унучкай часта спасылалася на сваіх "бабу" і "прабабу". У сваю чаргу Варвара Аляксандраўна перадае свае веды сыну і ўнукам. І гэта дае нам магчымасць сказаць: у аглядным часе традыцыя існуе ўжо на працягу васьмі пакаленняў. Але ж зразумела, што яна намнога старажытней.

Першыя пісьмовыя этнаграфічныя звесткі пра ўсходнеславянскія плямёны, што жылі на тэрыторыі Беларусі, вядомы з "Аповесці мінулых гадоў", складзенай на пачатку XII стагоддзя. Адметна, што ў гэтым найстаражытнейшым дакуменце мы знаходзім тыя самыя, праўда, асобныя "культурныя" дэталі, якія ўзнікаюць у аповедах носьбітаў традыцыі, занатаваных намі напрыканцы XX − пачатку XXI стагоддзяў, напрыклад: уяўленні пра Перуна, валхвоў, пра людзей, якія "нарадзіліся ў сарочцы", ды інш.

[1] Са снежня 2012 г. ДУК "Веткаўскі музей стараабраднíцтва і беларускіх традыцый ім. Ф.Р. Шклярава".

У далейшым у гэтай кнізе будзе прыводзіцца шмат цытат, якія з'яўляюцца фрагментамі запісаў, зробленых падчас экспедыцый. У сваіх публікацыях мы імкнемся захаваць асаблівасці народнай гаворкі, як слоў, так і вымаўлення. "Записывать надобно не только не подменяя слов и выражений ни для полноты, ни для красоты фраз, но и вполне сообразно с выговором народным", − менавіта такія патрабаванні, як адныя з самых асноўных, да запісаў народных тэкстаў былі вызначаны яшчэ даследчыкамі XIX ст., прынамсі, І.І. Сразнеўскім у "Программе для собирания образцов народного языка и словесности", якая была апублікавана ў 1852 г. Выдатны беларускі мовазнаўца С.М. Некрашэвіч у артыкуле "Да пытання аб укладанні слоўніка жывой беларускай мовы" вызначае: "У мове, як у люстры, адбіваецца ўвесь народ, што гаворыць гэтаю мовай, з усёй сваёю псіхалогіяй, са сваёй этнаграфіяй, звычаямі, светапоглядамі".[2] І яшчэ адно меркаванне, на мой погляд, вельмі слушнае, выказанае паэтам Алесем Разанавым: "Кожны народ мае хоць адзін геніяльны твор. Гэты твор − мова". І, сапраўды, наш асабісты вопыт паказвае, што асаблівасці гаворкі інфармантаў самадастаткова дэманструюць і прыналежнасць чалавека да той ці іншай вёскі, і тое, у якой сям'і ён выхоўваўся, і яго стаўленне да мясцовых традыцый, і асаблівасці гэтых традыцый, і шмат іншага.

Якім чынам старажытнасць, увасобленая ў песні, абрады, вераванні ды іншае, вытрымала выпрабаванне часам і дайшла да нас? Нават калі мы будзем грунтавацца толькі на сваім асабістым вопыце вывучэння традыцыйнай культуры, то ўбачым, што ўсе гэтыя песні і абрады элементарна аказаліся запатрабаванымі жыццём чалавека, яго гаспадарчай дзейнасцю, сямейным і грамадскім побытам. За ўсім гэтым стаіць глыбокае перакананне: ад гэтых абрадаў, рытуалаў і песень залежаць адносіны чалавека з сіламі прыроды, а таксама з міфалагічнымі істотамі і хрысціянскімі святымі, сямейны лад, плённасць гаспадарчай дзейнасці. Народная практыка паказвае, што кожная песня, кожны абрад маюць сваё трывалае месца ў жыццёвых цыклах. Несвоечасовае альбо недакладнае іх выкананне ці невыкананне могуць, па ўяўленнях носьбітаў традыцыі, прывесці да самых непажаданых наступстваў.

[2]Некрашэвіч, С.М. Да пытання аб укладанні слоўніка жывой беларускай мовы / С.М. Некрашэвіч // Выбраныя навуковыя працы акадэміка С.М. Некрашэвіча: Да 120-годдзя з дня нараджэння. – Мінск: Беларуская навука, 2004. – С. 52.

У гэтым плане падаецца цікавым сведчанне жанчыны, удзельніцы мастацкай самадзейнасці − Марыі Ягораўны Дзеравяшкінай з вёскі Сівенка Веткаўскага раёна: “Мы ж самі не пяём, а якую загадаюць, тую пяём. Усякія пелі. Не глядзелі, ці эта − жніво, ці эта − Ражаство − пелі ўсякія. Маткі нашы... Усё ішло ў іх адно за адным. А ціперака во так: усё што ў народзі, то і ў прыродзі. Відзіця, якая прырода? Такі і народ: сёдня − вецер, заўтры − дожч, послізаўтры снег. Німа толку ніякага. І Бог так даець, штоб так як у народзі, так і ў прыродзі. Мы − народ, а Ён прыроду саздае такую”.[3]

Народная культура Гомельшчыны, захоўваючы традыцыйную беларускую аснову, вылучаецца мясцовымі асаблівасцямі. У гэтых кароткіх нататках мы не будзем пералічваць усе гомельскія адметнасці агульнавядомых абрадаў. У нас існуюць свае − якія займаюць трывалае месца ў беларускай традыцыі, прынамсі, гэта: “Ваджэнне сена”, “Ваджэнне і пахаванне Стралы”, “Свяча”.

Унікальным для беларускай традыцыі з’яўляецца абрад “Ваджэнне сена”, які выконваецца ў веткаўскіх вёсках Старое Сяло і Залаты Рог. На другі дзень Вялікадня ўдзельнікі абраду з граблямі і віламі, на якія нанізаны кавалачкі сена, здзяйсняюць абыход вёскі. Як распавядаюць мясцовыя жыхары, «“на сена” хадзілі, штоб на сенакосі быў уражай». Гэта вызначаецца і галоўнай песняй, якую выконваюць удзельнікі абраду:

*Мы на сена ідом, мы на новая,*
*Вох і ў й, лю-лі, мы на новая,*
*Мы на новая, на каралёвая,*
*Вох і ў й, лю-лі, на каралёвая...*[4]

[3]Больш падрабязна: Лапацін, Г.І. “У нас песні праз мяжу не ідуць...” Аб культуры выканання абрадавых тэкстаў/ Г.І. Лапацін // Палявая фалькларыстыка і этналогія. Даследаванне лакальных культур Беларусі. Уклад. І.Ю. Смірновай. – Мінск: БДУКіМ, 2008. – С. 143–149. Лапацін, Г.І. “Штоб вышэй угору...” Канцэпцыя падводу ў фальклорнай традыцыі /Г.І. Лапацін // Аўтэнтычны фальклор: праблемы захавання, вывучэння, успрымання: зборнік навуковых прац удзельнікаў VI Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі (Мінск, 27–29 красавіка 2012 г.) / БУДКМ; Рэдкал.: Мажэйка М.А. (адк. рэд.) [і інш.]. – Мінск: БУДКМ, 2012. – С. 179–192.

[4]Ад жыхаркі (ж-кі) в. Старое Сяло Веткаўскага р. Дзярбеевай Валянціны Міхайлаўны, 1939 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2007 г. Сш. 101. Ар. 30. Аўтэнтычныя тэксты атрыбутуюцца па фонду Матэрыялаў этнаграфічных экспедыцый Веткаўскага музея стараабраднііцтва і беларускіх традыцый ім. Ф.Р. Шклярава. Асаблівасці мовы інфармантаў захоўваюцца.

У цэнтры гадавога абрадавага цыкла на Веткаўшчыне знаходзіцца абрад “Ваджэнне і пахаванне Стралы”, у большасці вёсак ён выконваецца на Ўшэсце і з’яўляецца апошнім з абрадаў веснавога цыкла. У гэты дзень жанчыны пасля шматчасовага, з песнямі і карагодамі хаджэння па вёсцы выходзяць у жытняе поле, дзе закопваюць самыя розныя бліскучыя рэчы (манеткі, упрыгожванні ды інш.), якія сваім бляскам нагадваюць “стралу” − маланку. У выніку мэтанакіраванага апытання аб прызначэнні абраду мы атрымалі адказы, у якіх назіраецца відавочнае жаданне паўплываць на сілы прыроды, прынамсі: “штоб лён рос”, “водзяць Стралу маланнёй, штоб пажара не было”, “дзе Стралу паводзяць, там жыта вышэ мяне”, “штоб урадзіла, і штоб дожч не мясіў, бываюць жа заліўныя дажчы”, “еслі дажжу німа”. У некаторых веткаўскіх вёсках на Ўшэсце “хаваюць” не “Стралу”, а “Вясну”, увасобленую ў ляльку, зробленую з кавалкаў тканіны.[5]

Праз увесь каляндарны год праходзіць па нашых вёсках абрад “Свяча”, якому і прысвечана гэта кніга. Каранямі “Свяча” ўзыходзіць да найстаражытнейшага культу свяшчэннага агню: спачатку агню хатняга агменю, а потым агню хрысціянскаму, увасобленаму ў свечку. “Свячой” у большасці вёсак называюць ікону, што належыць усім жыхарам вёскі. Паводле абраду яна год знаходзіцца ў адным доме, каб праз год перайсці да іншага гаспадара. І такім чынам год за годам яна праходзіць усю вёску. У рытуальны комплекс “Свячы” ўваходзіць свечка, якая пераносіцца разам з іконай. А спачатку была толькі свечка, прысвечаная таму ці іншаму святому, якога лічылі апекуном вёскі.[6] Таму і назва абраду − “Свяча”.

Традыцыйна лічылася, што гэты абрад характэрны для Гомельскага і Магілёўскага Падняпроўя. Тым не менш, апошнім часам з’явіліся асобныя публікацыі, якія сведчаць аб існаванні “Свячы” на

---

[5] Лапацін, Г. Аб шлюбных матывах у землеробчых абрадах на Веткаўшчыне / Г. Лапацін // Міжнародная навуковая канферэнцыя “VIII Міжнародныя навуковыя чытанні, прысвечаныя Сцяпану Некрашэвічу”, 18 мая 2007 г. [Зборнік навуковых артыкулаў]: у дзвюх частках. Ч. 2. /Рэдкал.: А.А. Станкевіч [і інш]. Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2007. – С. 205–210.; Лопатин, Г.И. “Ты ляці, страла...” / Лопатин Г.И. // Голоса ушедших деревень / Г.Г. Нечаева [и др. ]; под общ. ред. Г.Г. Нечаевой. – Минск: Белорус. наука, 2008. – С. 236–244.

[6] Зеленин, Д.К. Восточнославянская этнография / Д.К. Зеленин. – Москва: Наука, 1991. – С. 386–387.

больш шырокай тэрыторыі: амаль уся Магілёўшчына, Міншчына. Трэба думаць, што сённяшняя ўсеагульная цікавасць да “Свячы” ў большай ступені ўзнікла дзякуючы публікацыям супрацоўнікаў Веткаўскага музея стараабрадніцтва і беларускіх традыцый ім. Ф.Р. Шклярава, якія звярнулі ўвагу на гэты абрад у пачатку 90-х гадоў ХХ ст. Можна спадзявацца, што нашы напрацоўкі стануць добрым падмуркам для тых, хто робіць першыя крокі ў вывучэнні абраду “Свяча” ў іншых мясцовасцях.

Пры ўсёй разнастайнасці абрадаў іх выканаўцы грунтуюцца на еднасці поглядаў на сусвет, чалавека, грамадскасць і сям’ю, на агульных міфалагічных уяўленнях і рэлігійных вераваннях. Гэтыя погляды і ўяўленні ўтвараюць трывалую і стройную сістэму, праз якую кожны народ узнаўляе сябе, сваю духоўную культуру, свой характар, псіхалогію ў шэрагу пакаленняў, якія змяняюць адно адное. Жыццё паўтараецца. Яно ставіць перад намі праблемы і пытанні, стварае сітуацыі, аналагічныя тым, што паўставалі перад нашымі продкамі. Традыцыйная культура вучыць нас жыць на сваёй зямлі так, каб не нашкодзіць сабе і сваім блізкім.

## На мове, зразумелай боству

### Аб кульце агню ў традыцыйнай культуры беларусаў

У паўсядзённым жыцці мы ўступаем паміж сабой у самыя розныя стасункі, працуем, адпачываем, адзначаем святы, маем справы з рознымі рэчамі і рэчывамі, з’явамі прыроды. І пры гэтым мы нават не ўяўляем сабе, што часта сваімі дзеяннямі паўтараем звычаі і рытуалы нашых старажытных продкаў. І справа нават не ў нас саміх, а ў тым, што і рэчы, якія нас акружаюць, і з’явы прыроды, якія ўплываюць на наша жыццё, захоўваюць свае першасныя ўласцівасці, свой міфалагічны змест і такім чынам абуджаюць у нас такія ж пачуцці, якія яны абуджалі ў нашых далёкіх папярэднікаў.

Адметнае месца ў нашым жыцці займае агонь, які разам з вадой, па ўяўленнях старажытнага чалавека, адна з асноўных крыніц жыцця, здароўя, дабрабыту. Так, запрашаючы каго-небудзь зайсці да нас “на агеньчык”, мы і не здагадваемся, што праяўляем да чалавека найвышэйшую ступень даверу, паколькі нашы продкі дапускалі да свайго агню (агмень, вогнішча) толькі самых блізкіх. І калі мы ў дзяцінстве вадзілі карагоды вакол навагодняй елкі і ўсе разам хорам заклікалі: “Елачка, запаліся!”, мы нават не задумваліся аб тым, што здзяйсняем падарожжа ў тыя далёкія часы, калі чалавек яшчэ не ўмеў сам здабываць агонь, а чакаў яго як цуд, які атаясамліваўся з прыходам самога Боства. А, магчыма, сваёй дзіцячай гульнёй мы ў пэўным сэнсе кожны раз паўтаралі старажытны рытуал здабывання новага агню, які запальваўся ў пэўныя дні, і затым ім карысталіся на працягу ўсяго года.

У гэтым плане вялікую цікавасць для нас уяўляе старажытны звычай, які, па дадзеных этнографа І.А. Сербава, існаваў на Палессі ў пачатку XX стагоддзя. На Купалу ва ўсіх хатах гасілі стары агонь, а затым адбываўся старажытны рытуал здабывання новага агню праз трэнне дрэва аб дрэва. Пакінуўшы за межамі гэтай публікацыі ўсе асаблівасці рытуалу, прывядзем тэкст, якім суправаджаліся дзеянні. Для нас, з нашай навагодняй елачкай, ён вельмі паказальны:

*У дрэве ясені-вярбе*
*Агонь жыве, агонь жыве.*
*Выйдзі, вогнік малады,*
*Каб не зналі мы бяды,*
*Каб шчаслівымі былі.*

Паказальным для нас з’яўляецца і той момант, што гэты агонь, здабыты ў прысутнасці ўсіх жыхароў вёскі, людзі на запаленых лучынках неслі дадому. І калі ён у каго-небудзь па дарозе тух, гэта прадвяшчала нядобрае.[7]

Літаральна ўсе этнографы прыходзяць да меркаванняў аб гуртуючай сіле агню ў дачыненні да чалавека. Хатні агмень як нашчадак вогнішча быў першым ахвярнікам славяніна-язычніка.

[7] Прыводзіцца па кнізе: Цярохін, С.С. Перунова цяпельца: Эсэ, ці некалькі згадак з гісторыі нашага народа / С.С. Цярохін. – Мінск: Юнацтва, 1993. – С. 18.

У этнаграфічнай літаратуры дастаткова падрабязна рэканструіруюцца карціны таго, як вакол яго збіраліся родзічы і вырашалі самыя надзённыя для ўсіх пытанні. Безумоўна, мы можам толькі гіпатэтычна ўяўляць, што хвалявала і яднала нашых продкаў. Але калі мы азірнемся на сябе, то ўзгадаем, што, незалежна ад нашых светапогляду і веравызнання, вогнішчы нашага дзяцінства заўсёды яднaлі нас сваёй урачыстасцю, святочнасцю, абуджаючы пачуццё самага добрага і светлага. Мы сапраўды адчувалі сябе адной сям’ёй. Такія меркаванні ўзнікаюць на падставе ўспамінаў нашых сучаснікаў.

Узгадвае веткаўчанін Васіль Міхайлавіч Бакаеў, 1952 г. н., мясцовы паэт: “Я люблю вогнішча, калі збіраюцца сябры і хлапчукі з нашай вуліцы, дзеляцца адзін з адным самым патаемным. Мы глядзелі на зорнае неба і адчувалі нейкую сувязь з тым светам, з нашымі продкамі. Мы збіраліся вакол вогнішча і абмяркоўвалі ўсякія свае пытанні. Мы любілі вогнішча. І любілі яго так, што да гэтага часу яно ўспамінаецца мне як нешта святое, нешта чыстае, блаславёнае, нешта такое, якое саграваe і цяпер у халодныя гады. Гэта былі нашы хлапечыя размовы, якія пераходзілі нібыта ў споведзь. Мы размаўлялі і пра дзяўчынак, якія ў той час нас маглі пакрыўдзіць. Мы казалі і пра тое, хто якую рыбіну злавіў, таму што вогнішчы палілі пасля рыбалкі, мы размаўлялі пра шчупакоў, якія сарваліся, якіх не змаглі злавіць. Размаўлялі пра ўсе нашыя дзіцячыя справы: нашых мам, казалі пра тое, які ў аднаго з нашых сяброў бацька п’яніца і як яму няпроста жывецца”.[8]

Успамінае веткаўчанка Ніна Васільеўна Радзівонава, чыё дзяцінства прайшло на Алтаі: “Для мяне піянерскае вогнішча − гэта рытуал, які заклікаў да чысціні, да ачышчэння, і, сапраўды, ён як Вялікдзень для праваслаўных хрысціян. Як гімн для піянерыі была песня:

*Взвейтесь кострами, синие ночи,*
*Мы − пионеры, дети рабочих...*

Я працавала два разы начальнікам піянерскага лагера, і мы выконвалі ўсе піянерскія рытуалы. Дзень нараджэння піянерыі

---

[8] Паводле аповеду жыхара (ж-ра) Веткі Бакаева Васіля Міхайлавіча, 1952 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2011 г. Асабісты архіў аўтара.

19 траўня, і абавязкова піянерскае вогнішча як атрыбут. Вогнішча аб’ядноўвала, вогнішча − гэта штосьці светлае, гэта − агонь, гэта − іскры ўгару ўзлятаюць. І нашы душы і сэрцы таксама так. Мы верылі ў добрае: сам памірай, а таварыша выбаўляй. І мы былі вельмі дружныя. Было ўсякае, сваркі нейкія былі, але аб’ядноўвала вогнішча. Кожнаму хацелася чагосьці светлага і добрага: і чалавек чалавеку сябар, таварыш і брат”.[9] Таксама адзінства. “Іскры ўгару...” − на ўзроўні архетыпу (старажытных уяўленняў) − туды, дзе Боства. На мове, зразумелай Боству.

Гэта і не дзіўна, калі ўлічваць боскае паходжанне агню. Паводле адной беларускай легенды, вядомай па запісах А.К. Сержпутоўскага і М. Федароўскага, калі Бог выгнаў першага чалавека з раю, то чалавек пачаў дрыжэць ад холаду. Тады Бог загадаў яму ўзяць два кавалкі дрэва і церці іх адзін аб другі. Чалавек так і зрабіў. Дрэва загарэлася і сагрэла чалавека.[10]

Паводле іншай легенды, таксама вядомай па запісах А.К. Сержпутоўскага і М. Федароўскага, агонь упершыню трапіў на зямлю разам з перуном (маланкай). Бог паслаў яго на зямлю, каб пакараць чорта, які спакусіў першых людзей свету − Адама і Еву. Чорт схаваўся за ясенем, і Бог запаліў яго.[11]

З прыняццем хрысціянства чалавек не адмовіўся ад уяўленняў аб агні як сімвале Боства. Але гэта ўжо агонь, увасоблены ў свечкі, лампадкі. І ў гэтай прасторы таксама ўзнікаюць падобныя цуды. Пра адзін з такіх цудаў расказала жыхарка в. Неглюбка Веткаўскага раёна Валянціна Аляксандраўна Халюкова: “Удзьвёх ідуць у цэрькву. Адна і кажа: “Наце вам капейку, пастаўце за мяне свечачку, а то мне некалі сёдня”. Узялі, ішлі да гаворяць: “Капейку дала!” Да шыбнулі за канаву. Ідуць адтуль, на том месці свечка гарыць. Нада была ў цэрькву ісціць, купіць і паставіць. Бедная, яна капейку адну дала. Багаты болей дасць. У ёй не было болей, капеечка адна была, яна тую і аддала. Адтуль ідуць − свечка гарыць. Ані давай Богу маліцца, да прышлі, ёй прызналісь”.[12]

[9] Паводле аповеду ж-кі Веткі Радзівонавай Ніны Васільеўны, 1946 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2011 г. Асабісты архіў аўтара.

[10] Легенды і паданні /Склад. М.Я. Грынблант і А.І. Гурскі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. – С. 109.

[11] Тамсама. – С. 108.

[12] Ад ж-кі в. Неглюбка Веткаўскага р. Халюковай Валянціны Аляксандраўны, 1931 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2005 г. Сш. 105. Ар. 83.

Адсюль і асаблівае шанаванне, амаль да абагаўлення агню, і стаўленне да яго як да самога Боства.

Гэта выпрацавала цэлы шэраг правілаў, як паводзіць сябе ў адносінах да агню. Агонь з надыходам прыцемкаў распальвалі абавязкова з малітваю, і калі агонь гарэў, катэгарычна забаранялася мацюкацца і сварыцца. Не дазвалялася пляваць на агонь. За гэта агонь мог адпомсціць "вогнікам" (скураная хвароба), або на языку маглі з'явіцца болькі. Адпаведна старым традыцыям, чалавек не мог кінуць у запаленую печку валасы, каб не балела галава, не мог спаліць у вогнішчы чалавечыя экскрэменты з-за боязі курчоў і сутаргі. Але разам з тым у печках спальвалі вымеценае смецце, бо лічылася, што калі яго выкінуць праз парог, то па яму, як па следу, ведзьмакі магуць наслаць псоту. Свае адносіны з агнём існавалі і існуюць да нашага часу ў цяжарных жанчын. Калі цяжарная жанчына прысутнічала на пажары, ёй нельга было дакранацца да свайго цела, бо будучае дзіця магло нарадзіцца з чырвонымі плямамі. Поўны глыбокага шанавання агню звычай, вядомы ў беларусаў, прыводзіць рускі этнограф канца XIX − пачатку XX ст. С.В. Максімаў: "Павага да агню ў шматлікіх мясцовасцях Велікароссіі, а на Беларусі паўсюдна, даведзена да таго, што лічаць вялікім грахом тушыць вогнішча на палях, "цяпліны" ў начным і т. п., даючы магчымасць самому агню знемагаць у бяссіллі і затухаць".[13]

Калі пагадзіцца з тым, што агонь атаясамлівалі непасрэдна з самім Боствам, то можна зрабіць меркаванне, што ў вачах старажытных людзей само Боства, увасобленае ў вогнішча, распаленае на стары Новы год, спальвала стары год. У вогнішчах, што раскладалі на Масленіцу, Боства спальвала саламянае пудзіла як увасабленне Зімы. Карагоды, што вадзілі на Дабравешчанне, атаясамліваліся з сонцам, якое саграваe зямлю апасля працяглай зімы. Скокі праз Купальскія вогнішчы атаясамліваліся з дакрананнем да Боства з мэтай ачышчэння ад грахоў. Попелам з гэтых вогнішчаў пасыпалі капусныя градкі і пры гэтым казалі: "Чэрві, чэрві, ня ешця капусту, а ешця горкі лешнік".[14]

---

[13]Максимов, С.В. Нечистая, неведомая и крестная сила / С.В. Максимов – СПб: ТОО Полисет, 1994. – С. 176–177.

[14]Ад ж-кі в. Чыстыя Лужы Веткаўскага р. Куляшовай Аўдоцці Раманаўны, 1924 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 1998 г. Сш. 8. Ар. 14.

Відавочна, што ўсе гэтыя вогнішчы, нібыта самі Боствы, аб'ядноўвалі вакол сябе людзей у адзінае цэлае. У гэтым іх старажытнасць і самадастатковасць.

На працягу года ў самых розных святах, якія шануюць беларусы, акрамя ўзгаданых вышэй, узнікае мноства іншых рытуалаў, у якіх таксама выкарыстоўваюцца вогнішчы, факелы, ліхтарыкі, вуголле і нават попел.

У шэрагу "вогненных" абрадаў, распаўсюджаных у культуры ўсходніх славян, вызначаюцца вядомыя толькі ў беларускай традыцыі "Жаніцьба коміна" і "Багач". Першы з іх выконваўся два разы на год: вясною на Фаміным тыдні і восенню ў дзень памяці Сымона Стоўпніка. Пад комінам на спецыяльным прыстасаванні вешалі пасвет − звычайную патэльню альбо металічную рашотку для асвятлення. Зверху гарэла лучына, што асвятляла хату ў доўгія асеннія і зімовыя вечары. Комін упрыгожвалі ручнікамі, кветкамі і стужкамі. Частавалі агонь на пасвеце гарэлкаю, салам, зернем, арэхамі.[15]

Абрад, вядомы як "Багач", прымяркоўваўся да дня Нараджэння Маці Божай, якая лічыцца заступніцай ураджаю. "Багач" сімвалізуецца сявенькай з жытам ці пшаніцай і ўстаўленай у яе васковай свечкай. Жыта зносілі па жменьцы з кожнага двара. З "Багачом" абыходзілі ўсе двары ў вёсцы, потым з ім абыходзілі статак. Пасля свята яго да наступнага ўраджаю пакідалі ў хаце аднаго з вяскоўцаў. Паводле павер'яў, "Багач" павінен быў забяспечыць дому дабрабыт, багацце і шчасце.[16]

Асаблівае месца ў гэтым шэрагу займаюць свечкі, якія запальваюць падчас набажэнстваў на Дабравешчанне, на Стрэчанне (Грамніцы), у Чысты Чацверг ("страсная" свечка), на Вялікдзень, на Макавея ("макаўская" свечка). Потым гэтыя свечкі прыносяць дадому і на працягу года выкарыстоўваюць у самых розных хатніх і гаспадарчых абрадах. Іх запальваюць у доме, калі ў небе навальніца,

---

[15]Лозка, А.Ю. Жаніцьба коміна / А.Ю. Лозка // Этнаграфія Беларусі: Энцыкл. (Беларус. Сав. Энцыкл.; Рэдкал.: І.П. Шамякін (гал. рэд. і інш.)). — Мінск: БелСЭ, 1989. – С. 272–273.

[16]Мінько, Л.І., Піліпенка, М.Ф. Багач / Л.І. Мінько, М.Ф. Піліпенка // Этнаграфія Беларусі: Энцыкл. (Беларус. Сав. Энцыкл.; Рэдкал.: І.П. Шамякін (гал. рэд. і інш.)). – Мінск: БелСЭ, 1989. – С. 268–270.

каб уратаваць свае дамы ад маланкі, з імі абыходзяць статак падчас першага выгану, каб уратаваць жывёлу: "і ад звера бягучага, і ад гада паўзучага, і ад змяі-папялухі, ад злога чылавека". Грамнічнымі свечкамі на столі выпальваюць крыжы, каб абараніць сваё жытло ад злых духаў. Пра цікавы звычай, звязаны са "страсной" свечкай, нам расказалі ў вёсцы Капань Рэчыцкага раёна: "То страсная свечка называіцца. І агонь этат прыносяць дамой, і еслі ў каго лампадка, гарыць да Ўшэсція агонь у лампадачкі. І агня самі спічкамі не палілі людзі раньшэ. А ўжэ агнём этым пользаваліся. Но ў нас ціпер этага нет , канешна".[17]

Гэтыя свечкі, запаленыя ў храме, трэба было абавязкова данесці да дому. Калі свечка па дарозе гасла, гэтую сям'ю чакала няшчасце. Гэта цалкам супадае з тым, што адбывалася, калі па дарозе дадому гасла лучына з жывым агнём. І пра гэта сучасныя носьбіты традыцыі ведаюць на сваім асабістым досведзе. Як, напрыклад, расказала жыхарка пасёлка Зялёная Хвоя Веткаўскага раёна Соф'я Сяргееўна Лебедзева: "І ў Чысты чэцвір тожы ў цэркву ходзюць, і тожы свечачкі палюць. Дак з той свечкай... Штоб яна з агнём прышла, і ў хату, на вікону. Нам далёка было, дак мы бралі з лампы сцяклінку. І бягіш дамоў.

[*А калі пагасне?*] (Пытанне збіральніка інфарманту. – Г.Л.)

Пагасня, ета ўжэ плоха будзя... У той хаце... Няшчасце бальшоя будзя. Мы хадзілі... Я ўжэ замужам была, свечку ні данісла, сын памёр, свякруха памерла... У хазяйстві ўбыткі..." [18]

Агонь "Свячы" падтрымлівае гэтую традыцыю: "Свеча при переносе гаснет − покойник в новом доме".[19]

Увасабленне свечкі як боскай прыналежнасці асэнсоўваецца і непасрэдна жыхарамі нашых вёсак. У гэтым плане цікавае вызначэнне зрабіла жыхарка в. Пералёўка Веткаўскага раёна Лідзія Ільінішна Малашанка: "Свечка − эта ж агонь. Агонь − эта Богу

---

[17]Ад ж-кі в. Капань Рэчыцкага р. Маеўскай Марыі Пятроўны, 1938 г. н., зап. Лапацін Г.І. Асабісты архіў аўтара.

[18]Ад ж-кі п. Зялёная Хвоя Веткаўскага р. Лебедзевай Соф'і Сяргееўны, 1933 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2012 г. Сш. 127. Ар. 41.

[19]Паводле аповеду ж-к в. Струкачоў Кармянскага р. Пудзярэнка Марыі Аляксандраўны, 1936 г. н., Гарлачовай Праскоўі Сцяпанаўны, 1915 г. н., зап. Крачкова Е.У. у 1999 г. Сш. 91. Ар. 4.

маліцца. Агонь − эта адкрываіш сваё серцэ, цяпло Богу аддаеш і молісся. На эты празнік з адкрытай душой ідуць людзі. Сабіраюцца і молюцца. Перад образам, перад іконай ставіцца".[20] Аддаваць цяпло Богу − у вышэйшай ступені вызначальна. *Цяплом* у нашых вёсках называюць вогнішча. *Раскласці цяпло* − тое самае, што і *распаліць вогнішча*. І такім чынам таксама ўступіць у дыялог з Богам. Гэта ідзе з самых старажытных часоў. Цяпельца вогнішча пераўвасабляецца ў агеньчык, які карануе свечку. Адсюль узнікаюць і ўяўленні пра душу, якая, як агеньчык, гарыць унутры кожнага чалавека. Адным з іх падзялілася з намі жыхарка вёскі Старое Закружжа Марыя Аляксееўна Раманоўская: "Гаворяць шчэ так, мая матка казала. Еслі чылавек ражаіцца, а Бог запалівае свечку. Нашы ўсе свечкі гаряць. Ё свечка − згарыць за поўгода − дзіцёнак умірае ж у поўгода, ё − за месяц, а ё − да дзевяноста і ста лет гарыць свечка. І вот еслі свечка патухла, чылавек не будзя жыць мінуты после этага. Усё! Умроць!"[21]

Абрад "Свяча" робіць у шэраг "вогненных" святаў свой адметны ўнёсак. На наш погляд, "Свяча" з'яўляецца прамым нашчадкам тых самых старажытных вогнішчаў і агменю, вакол якіх гуртаваліся нашы далёкія продкі. Пераняўшы ад язычнікаў традыцыю гуртавацца вакол свайго боства, увасобленага ў агонь, праваслаўныя вернікі ў самыя цяжкія і вызначальныя для сябе часы гуртуюцца вакол свайго святога апекуна, увасобленага ў "Свячу". Ніжэй мы разгледзім самыя розныя варыянты "свячных" комплексаў, якія былі зафіксаваны намі падчас экспедыцый.

Адзначым, што задача нашых разважанняў спрошчана тым, што ў дачыненні да абразоў дастаткова часта жыхары нашых вёсак выкарыстоўваюць вызначэнне "Бог". Паказальны ў гэтым плане наступны прыклад: "Усё баба казала: "К чыстаму чэцвяргу штоб у хаці памыта была і на Бога штоб рушнічкі былі надзеты".[22]

[20]Ад ж-кі в. Пералёўка Веткаўскага р. Малашанка Лідзіі Ільінічны, 1932 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 57. Ар. 42.

[21]Ад перасяленкі (п-кі) (маюцца на ўвазе жыхары вёсак, адселеных у сувязі з наступствамі аварыі на ЧАЭС) з в. Старое Закружжа Веткаўскага р. Раманоўскай Марыі Аляксееўны, 1937 г. н., зап. Лапацін Г.І. у в. Хальч Веткаўскага р. у 2006 г. Сш. 117. Ар. 1а.

[22]Ад п-кі з в. Амяльное Веткаўскага р. Грэцкай Варвары Аляксандраўны, 1925 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2009 г. Сш. 117. Ар.188.

Такім жа чынам вызначаецца і Свяча. "Спасіба, што пасяцілі нашага Бога", − менавіта так падзякавала нас жанчына, у доме якой мы былі падчас сняткавання Свячы.[23]

"Вот пастаяла ў Нікалая Нікалаівіча, бярэ саседка Маруся. У іе год пастаіць, патом возьме Тамара, а патом па той старане пойдзя... Па парадку ў нас ідзёт... Год прастаяла ў Нікалаівіча, ціперь возьмя Маруся, а тады ад Марусі возьмя Серыкава Тамара Міхайлаўна, а тады Лёня... І пайдзёт... Хвенька, Халяўкінка Танька... Ідзёт у нас па парадку. Ніхто ні атказываіцца ад нашава Бога".[24]

Тое самае аднойчы прагучала і адносна Мікольскай Свячы: "Мне веселей с "Николой". Что-то есть на свете".[25]

І цяпер жанчыны сталага ўзросту чакаюць гэтага дня, каб сабрацца разам, паразмаўляць, паспяваць, падзяліцца самым надзённым. Свяча захоўвае іх як калектыў.

У гэтым адвечная каштоўнасць і роля Свячы.

Захаваць у вёсцы Свячу − значыць, захаваць вёску як самадастатковую духоўную з'яву.

Аб гэтым красамоўна сведчыць аповед жанчыны, якая ўзгадала аб тым, як аднойчы ўзнікла меркаванне, што Свячу трэба аддаць у іншую вёску ў храм:

"Жылаюшчыя бралі. Хто первы скажа. Вот, напрымер, задумала я ўзяць ікону, я напірод гавару: "Я ікону забіраю!" Усё! Я, можна сказаць, заніла іе. Но ў нас такіх мала людзей. Вольга гаварыт: "Я тады здам у цэркаў ікону". Я гавару: "Ні ў коім случаі ікону з пасёлку ні аддавайця! Ні ў коім случаі! Вы ні бачылі, бедствія якоя ў нас было? А як ікону ўзялі, дзе што і дзелася. Нікакога бедствія німа".[26]

---

[23]Ад ж-кі в. Буда Жгунская Добрушскага р. Дударавай Вольгі Апанасаўны, 1929 г. н., зап. Лапацін Г.І., Скідан А.В. у 2009 г. Сш. 31. Ар.37.

[24]Ад ж-кі в. Матневічы Чачэрскага р. Малашанка Марыі Макараўны, 1920 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2009 г. Сш. 130. Ар. 26.

[25]Паводле аповеду ж-к в. Антонаўка Веткаўскага р. Раманавай Анастасіі Сцяпанаўны, 1936 г. н., і в. Вялікія Нямкі Цітушкінай Веры Пятроўны, зап. Лабацкая Г. А. у 1996 г. Сш. 59. Ар. 9.

[26]Ад ж-кі в. Залаты Рог Веткаўскага р. Нятылькінай Ніны Рыгораўны, 1937 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 123. Ар. 20–21.

Першыя грунтоўныя публікацыі, прысвечаныя абраду “Свяча”, падрыхтаваныя А. М. Дабравольскім і Ф. Жудро, з’яўляюцца ў друку напрыканцы XIX − пачатку XX ст.

Асобныя звесткі пра “Свячу” прыводзяцца ў працах А.Е. Грузінскага, П.В. Шэйна, А.С. Дамбавецкага, якія таксама з’яўляюцца ў друку напрыканцы XIX − пачатку XX ст.[27]

Пасля вялікага перапынку, у пачатку 1990-х гадоў, на гэты абрад звярнулі ўвагу супрацоўнікі Веткаўскага музея стараабрадніцтва і беларускіх традыцый ім. Ф.Р. Шклярава.

Вялікую працу па зборы матэрыялаў у дадзеным накірунку зрабілі супрацоўнікі музея Г.І. Лапацін, Г.А. Лабацкая, Л.Д. Раманава, А.В. Скідан.[28]

Сярод публікацый апошняга часу, прысвечаных “Свячы”, асаблівую цікавасць уяўляюць матэрыялы беларускай даследчыцы В.А. Лабачэўскай і даследчыкаў з Расіі Р.Ю. Фёдарава і Т.А. Лістовай.[29]

Супрацоўнікамі Веткаўскага музея падчас экспедыцый быў зафіксаваны матэрыял па 3 населеных пунктах Буда-Кашалёўскага р. (3 інфарманты (далей ін-ы)), 81 населенаму пункту Веткаўскага р. (217 ін-аў), 3 населеных пунктах Гомельскага р. (11 ін-аў), 6 населеных пунктах Добрушскага р. (9 ін-аў), 6 населеных пунктах Кармянскага р. (9 ін-аў), 9 населеных пунктах Чачэрскага р. (23 ін-ы), 2 населеных пунктах Рэчыцкага раёна (7 ін-аў) − на Гомельшчыне; па 6 населеных пунктах Хоцімскага р. (12 ін-аў), 2 населеных пунктах Касцюковіцкага р. (2 ін-ы) − Магілёўская вобл.; па 2 населеных пунктах Навазыбкаўскага р. (2 ін-ы), 2 населеных пунктах Краснагорскага р. (3 ін-ы) і 1 населенаму пункту Клімаўскага р. (1 і-т) − Бранская вобл; па 2 населеных пунктах Ершычскага р. Смаленскай вобл. (2 ін-ы).

Нашымі інфармантамі ў асноўным былі прадстаўнікі сярэдняга і старэйшага пакалення вяскоўцаў, у большасці − жанчыны. Часцей за ўсё яны ведаюць абрад не па чутках альбо ўспамінах

[27]Гл. Дадатак 4. 1.
[28]Гл. Дадатак 4.3.
[29]Гл. Дадатак 4.2.

людзей старэйшага пакалення. Яны самыя сапраўдныя ўдзельнікі абраду, а ў некаторых выпадках − яго заснавальнікі ў сваіх вёсках, і ў любым выпадку − яго захавальнікі. Мужчыны ставяцца да гэтага абраду больш абыякава.

Намі збіраліся звесткі пра структуру абраду, правілах яго правядзення, коле ўдзельнікаў, па магчымасці высвятлялася легенда яго ўзнікнення ў асобна ўзятай вёсцы.

Асаблівасці абраду “Свяча” запатрабавалі ад нас дадатковых звестак пра сямейна-побытавыя і гаспадарчыя абрады, звестак пра народную міфалогію, адзенне, кулінарыю.

Адначасова з апытаннем носьбітаў традыцыі намі вялася фота- і відэафіксацыя абраду, замалёўваліся выявы “свечак”.

Усе экспедыцыйныя матэрыялы захоўваюцца ў Фондах Веткаўскага музея стараабраднііцтва і беларускіх традыцый ім. Ф.Р. Шклярава. Абраду “Свяча” у музеі прысвечана асобная экспазіцыя.

Зафіксаваныя намі сведчанні дазваляюць выразна ўяўляць традыцыю абраду з усімі яго метамарфозамі і рэаліямі сённяшняга дня, яго структуру, траекторыю і склад удзельнікаў, ствараюць аснову для разумення яго каранёў, вобразнай сістэмы, міфалогіі і семантыкі.

Абрад “Свяча” з’яўляецца знакавым практычна для любой вёскі, належачы ўсім яе жыхарам, і для даследчыка ён своеасаблівы ўваход у традыцыю.

Зварот да абраду “Свяча” дазваляе вывучаць традыцыйную культуру як у вертыкальным (гістарычным) плане, паколькі абрад бярэ пачатак у глыбокай старажытнасці і разам з тым праяўляе сябе ў вераваннях і ўяўленнях нашага часу, так і вывучаць яе ў плане гарызантальным (сінхранічным), улічваючы сувязь “Свячы” з самымі living рознымі вераваннямі і абрадамі традыцыі.

# Абрад "Свяча": мінулае і сучаснасць

"Свяча" з'яўляецца адным з самых адметных абрадаў у традыцыйнай культуры беларускіх вёсак Гомельшчыны.[30] "Свячой" называюць як абрад, так і яго рытуальныя прыналежнасці. Паколькі гэты абрад стаў адной з асноўных тэм навуковай дзейнасці супрацоўнікаў Веткаўскага музея, мы цікавіліся ім падчас усіх экспедыцый апошняга часу і атрымалі, на наш погляд, вельмі цікавыя вынікі. У вёсках Ершычскага раёна на Смаленшчыне, а таксама ў вёсках Хоцімскага раёна Магілёўшчыны рытуальная атрыбутыка ўвасабляецца ў свечцы, дачыненне да вырабу якой маюць усе жыхары паселішча.[31] У населеных пунктах Касцюковіцкага раёна Магілёўшчыны, Краснагорскага раёна Браншчыны Свечамі называюць абразы, якія шануюцца ўсімі жыхарамі вёскі.[32]

---

[30]Мы свядома падкрэсліваем "у беларускіх вёсках", паколькі ў некаторых публікацыях апошняга часу, прысвечаных традыцыйнай культуры Веткаўшчыны, "Свяча" памылкова вызначаецца як прыналежнасць стараверскай традыцыі. Як беларускі гэты абрад вызначаецца не толькі намі, а і непасрэдна носьбітамі стараверскай традыцыі, напрыклад: "У маскалей Свечу не насили. А была Свеча в Барталамеевке. Очень красиво пели. Богу молились". (Ад былой ж-кі в. Лявонцьева Добрушскага р. Дубадзелавай Ганны Францаўны, 1923 г. н., зап. Лабацкая Г.А. у 1995 г. у Ветцы. Сш. 53. Ар. 15). У гэтым плане паказальны і прыклад Свячы, якая існавала непасрэдна на адной з вуліц Веткі, дзе на адным канцы жылі "крестьяне", а на другім – "мещане" (стараверы), і Свяча была прыналежнасцю першых. Такая ж сітуацыя існавала ў в. Тарасаўка, дзе жылі як беларусы, так і стараверы: "Атец мне расказывал, што, ни помню... Кагда... Осинью кагда-та... брали женщины, свищенник приизжал, и приходили, то в адин дом ставили... И ана стаяла цэлы год, патом апять перинасили у другой дом. Эта толька на этам краю. На две части падилили: в адном краю жили в аснавном беларусы, а в другом стараабрядцы". (Ад былой ж-кі в. Тарасаўка Веткаўскага р. Сінегрыбавай Марыі Дзянісаўны, 1957 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2010 г. Сш. 38. Ар. 38).

[31]Зафіксаванае намі на Смаленшчыне супадае з дадзенымі, зафіксаванымі ў сярэдзіне XIX ст. Так, у слоўніку У.І. Даля знаходзім: "Свеча (зап. смол.) – пирушка: созвав гостей, хозяин ставит свечу, поп благословляет дело; все гости прилепляют кусок воску к этой свече, и затем пьянствуют; свеча обходит поочередно всё селение, нарастая, и, наконец, поступает в церковь". Даль, В.И. Толковый словарь живого великорусского языка. / В.И. Даль. – Москва: Русский язык, 1993. Т. IV. – С. 15). Тое самае знаходзім і ў выданні: Смоленский областной словарь. Составил В.Н. Добровольский. – Смоленск: Типография П.А. Силина, 1914. – С. 820.

[32]Гэтыя вынікі мы атрымалі падчас экспедыцыі "Па шляхах старажытных радоў", якая адбылася ў 1998 г. і прайшла ўздоўж рэчкі Беседзь ад яе вытоку да вусця праз населеныя пункты Ершычскага раёна Смаленскай вобласці, Хоцімскага і Касцюковіцкага раёнаў на Магілёўшчыне, Краснагорскага раёна на Браншчыне і завяршылася ў в. Павожбар Веткаўскага раёна, дзе Бесядзь упадае ў Сож.

На Гомельшчыне ў даследаваных намі вёсках комплекс Свячы складаецца з абраза, які ўшаноўваюць (гэта можа быць самая любая выява Ісуса Хрыста, Маці Божай, таксама выява любога святога), і свечкі. Адзначым, што выявы свечак могуць быць розныя: як самыя звычайныя, так і, што для нас вельмі істотна, антрапаморфныя, апранутыя ў спецыяльна пашытае для іх адзенне.

Адметна, што назва "Свяча" вызначаецца непасрэдна носьбітамі традыцыі пры любым увасабленні атрыбутыкі абраду: "Па-народнаму называлась "Свяча", а па-цыркоўнаму "Ікона" называлась"[33]. "Па-дзеравенскі ана называецца "Свяча пераносная". У майго цесця была. "Троіца".[34] [*У некаторых вёсках кажуць, што ў іх была ікона, што называлася "Свяча".*] Свіча − у нас Міхайла. [*У Лозаве?* ] Да. [*Так і казалі, што гэта Свяча?*] Свіча − эта само сабой, но эта ікона".[35] "Называлась "Свіча", не ікона − а "Свіча". Ікона была дапалненіе к Свічэ. Но основа была − Свіча".[36]

Згодна традыцыі, Свяча па чарзе знаходзіцца ў дамах усіх жыхароў вёскі: год − у адным, год − у другім, і так − пакуль не абыйдзе ўсю вёску. Час знаходжання Свячы ў адным доме мог не абмяжоўвацца адным годам, калі чалавек, што прымаў яе, загадзя абракаўся ўзяць яе на некалькі гадоў. Звычайна гэта адбывалася ў выпадку вялікіх няшчасцяў. У некаторых вёсках па-за чаргой Свячу бралі ў дом, дзе быў нябожчык: калі мужчына − мужчынскую Свячу, калі жанчына − жаночую. Пераносілася "Свяча" *крёсным ходам* (вызначэнне інфарманта) у дзень памяці святога, якому яна прысвячалася. Па свайму асабістаму ўзору існаваў абрад у веткаўскіх вёсках Неглюбка і Хізы, дзе абраз бралі з храма, куды яго праз тыдзень вярталі. А пасля на працягу года за ім прыглядвалі: мянялі на ім рушнікі, запальвалі перад ім свечкі. Трэба адзначыць, што па адным населеным пункце магло хадзіць адразу некаль-

---

[33]Ад ж-кі в. Неглюбка Веткаўскага р. Дзямчыхінай Раісы Васільеўны, 1935 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2008 г. Сш. 105. Ар. 111.

[34]Ад ж-кі в. Фёдараўка Веткаўскага р. Шахоўскай Ніны Данілаўны, 1939 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2007 г. Сш. 69. Ар. 21.

[35]Ад ж-кі Веткі Чмыхавай Марыі Піліпаўны, 1938 г. н., родам з вёскі Лозаў Буда-Кашалёўскага р., зап. Лапацін Г.І. у 2008 г. Сш. 123. Ар. 39.

[36]Ад ж-кі в. Лапічы Буда-Кашалёўскага р. Барадзіной Маі Сцяпанаўны, 1944 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2009 г. Архіў аўтара.

кі Свечаў: напрыклад, у вёсцы Казацкія Балсуны іх налічвалася каля пятнаццаці, каля дванаццаці − у Неглюбцы, а па тры-чатыры Свячы ў адным населеным пункце і ўвогуле − самая звычайная для нашых вёсак справа.

У большасці варыянтаў абрад адбываецца на працягу двух дзён. У гэтыя дні, як і падчас іншых вялікіх свят, не выконваліся пэўныя гаспадарчыя працы. У першы дзень (звычайна гэта адбывалася ўвечары, напярэдадні пераносу) усе збіраліся ў доме, дзе знаходзілася Свяча. З сабой прыносілі ежу, рушнікі, іншыя тканіны, якія ахвяравалі на Свячу. У в. Навілаўка Веткаўскага раёна ўзгадваюць часы, калі сродкі для свячнога застолля загадзя збіралі спецыяльна вылучаныя людзі − “цытары”. Выглядала гэта наступным чынам: “Называліся цытары. Перад Міколай яны ездзілі па етай вуліцы і па той − падвода: хто дасць на абед. На Міколу − абед жа бальшы, уся дзярэўня сабіралась. Хто дзеньгі даваў, хто лён. Потым аб’явяць − прадаюць. Усе давалі”.[37] Каля Свячы адбывалася набажэнства, пасля чаго гаспадары запрашалі прысутных на вячэру. Наступнай раніцай Свячу пераносілі ў іншы дом, дзе таксама адбывалася набажэнства і абед. Стравы, як на абедзе, так і на вячэры, ужываюцца ў залежнасці ад таго, на якія дні прыпадала святкаванне Свячы: калі гэта адбывалася падчас посту альбо ў сераду ці пятніцу, ужывалася толькі посная ежа, найбольш строгія ў гэтым плане вернікі нават адмаўляліся ўжываць алкагольныя напоі, а ў астатні час ежа гатавалася з мясам і тлушчам.

Адносна набажэнстваў трэба адзначыць, што хаця служба на Свячы адбывалася па ўзору царкоўнай, удзельнікі абраду, як гэта вызначаюць самі яны, “не моляцца, як бацюшка, а як паложана міранам”[38], г. зн. богаслужэнне адпраўляецца міранскім чынам па “Апосталу”, “Часаслову”, “Цвятной” і “Поснай”, “Трыёдзях”, “Мінеях”, “Акафісніку” − без адмысловых свяшчэнніцкіх воклічаў. І як адзначаюць захавальнікі абраду, “бацюшкаў тады не было, тады цэрквы разагналі ўжэ, людзі, каторыя ўмелі чытаць кніжкі,

[37]Ад ж-кі в. Навілаўка Веткаўскага р. Дзеньдобрай Сцепаніды Рыгораўны, 1914 г. н., зап. Лапацін Г.І., Раманава Л. Д. у 2000 г. Сш. 70. Ар. 18.

[38]Ад ж-кі в. Пакалюбічы Гомельскага р. Літвінавай Тамары Васільеўны, 1938 г. н., зап. Раманава Л.Д. у 2002 г. Сш. 98. Ар. 51.

служылі службы”.[39] Многія выбраныя тэксты песнапенняў для зручнасці карыстання падчас набажэнстваў перапісваліся ў адмысловыя сшыткі. Пры наяўнасці святара богаслужэбныя тэксты выконваюцца ў поўным аб’ёме. У паўзах паміж малітвамі і за абедам выконваюцца духоўныя вершы і псалмы. Апроч таго, падчас свечачных набажэнстваў адбываецца асвячэнне вады, мёду, яблыкаў, яек. Асаблівасцю “Свячы” ў некаторых вёсках з’яўляюцца памінальныя і заздраўныя запіскі, якія падчас пераносу падаюць жыхары вёсак. У некаторых вёсках мы фіксавалі такую асаблівасць абраду, як выпечка “дарніка”, які па сутнасці з’яўляецца прасвіркай. “Дарнік” раздаецца ўсім прысутным, якія забіраюць яго з сабой і частуюць сваіх сямейных: “Пяком каравай − дарнік, разрызаіцца хлеб і вада... Ваду бацюшка свеця, людзі набіраяць, кажды сабе ў чашачку і кусочык дарніка бярэць. Патом дамашніх угашчая. Абычна, пакуда дарніка і ваду свяцёнаю не папробуюць, утрам ніхто нічога ні есць да этых пор. Тут жэншчына адна была, у іе дома троя мужыкоў − два брата і муж, ждуць, пакуль яна ні прыдзя ад іконы і ні прынясе ім эту ваду і дарнік... Яны эта пакушаюць, а патом начынаюць заўтракаць”.[40]

На ўсім шляху Свячы дарогу ўсцілалі (па розных варыянтах) саломай, палатном, галінкамі елак, кветкамі. Наперадзе неслі хлеб, соль, свечку, і следам − абраз. Хворыя людзі ў надзеі на выздараўленне праходзілі (“падлазілі”) пад абразам. “Падлазілі” пад абразам і тыя, хто жадаў “змяніць судзьбу”. На шляху Свячы гаспадары асобных дамоў становяць аброчныя сталы. Працэсія спыняецца каля іх, яе ўдзельнікі частуюцца. У асобных выпадках людзі, што нясуць Свячу, заходзілі ў дамы, дзе нешта было няладна, каб асвяціць іх. Да свячной іконы звярталіся ў абрадах выклікання дажджу. У лакальных варыянтах у дзень пераносу Свячой асвячалі палі, а ў выпадку “падзяжу” са Свячой хросным ходам абыходзілі статак. У асобных вёсках, прынамсі ў в. Кунтараўка, Свячу кожны раз абносілі вакол вёскі. Гэтая традыцыя захавалася ў дадзеным

[39]Ад былой ж-кі п. Свабода Неглюбскага с/с Веткаўскага р. Крацянок Ніны Міхайлаўны, 1924 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. у Ветцы. Сш. 105. Ар. 108–109.
[40]Ад ж-кі в. Асаўцы Гомельскага р. Яўдохавай Яўгеніі Фадзееўны, 1943 г. н., зап. Лапацін Г.І., Скідан А.В. у 2010 г. Сш. 4. Ар. 28.

населеным пункце з таго часу, калі абраз замовілі і абнеслі вёску, каб спыніць мор.[41] Часам абрад гэтым не завяршаўся, а перарастаў у свята, і яго ўдзельнікі "вадзілі Свячу"[42], г. зн. усе разам хадзілі па чарзе да ўсіх удзельнікаў абраду. Трэба адзначыць, што вызначэнне "вадзіць Свячу" зафіксавана намі ў адзінкавым варыянце. Найбольш распаўсюджана гэтую з'яву пазначаюць як "вадзіць банкеты".

На наш погляд, свечкі, што знаходзяцца пры абразах, з'яўляюцца хрысціянізаваным рэліктам культу радавога агню – хатняга агменю. Яшчэ ў пачатку дваццатага стагоддзя падабенства паміж Свячой і агменем на матэрыяле Красненскага і Раслаўльскага паветаў Смаленскай губерніі было заўважана А.М. Дабравольскім, адным з першых публікатараў матэрыялаў па "Свячы".[43] Сучасныя этнографы вызначаюць, што агмень у аглядную для даследаванняў эпоху з'яўляўся сімвалам сям'і. Як рэлікт "сямейнага" агню, каля якога збіраліся толькі свае, можна разглядаць і тое, што ў большасці вёсак на Свячу прыходзілі без усялякага запрашэння. Тым не менш у асобных вёсках існаваў і адмысловы рытуал. Выглядала гэта такім чынам: "Пашле хазяін свайго сына ілі дачку: "Ідзі людзей пазаві". Дак ані ідуць і гаворацць: "Зваў бацька і матка, і я заву: "Прыходзьця к нам на Свячу!"[44]

З цягам часу старажытны культ трансфармуецца ў традыцыю "брацтваў – суполак напаловуцаркоўнага кшталту", якія, як вызначае вядомы этнограф канца XIX – пачатку XX ст. Д.К. Зяленін, стваралiся для падтрымкі парадку ў царкве. На Беларусі, а таксама ва Ўкраіне (пераважна – левабярэжнае Палессе) яны вядомыя з XV ст. Адной з традыцый гэтых брацтваў быў выраб агульнай свечкі, воск

41 Ад ж-к в. Кунтараўка Веткаўскага р. Сайковай Кацярыны Яфімаўны, 1927 г. н., Качарухінай Марыі Афанасьеўны, 1923 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2007 г. Сш. 123. Ар. 1–2.

42 Ад п-ца з в. Барба Веткаўскага р. Лук'янава Паўла Фядотавіча, 1935 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2008 г. у Ветцы. Сш. 119. Ар. 14. Інфармант прысутнічаў на абрадзе ў в. Барталамееўцы.

43 Добровольскій, В. Значеніе народнаго праздника "Свечи" / В. Добровольскій // Этнографическое обозреніе. Изданіе Этнографическаго Отдела Императорскаго Общества Любителей Естествознанія, Антропологіи и Этнографіи. Год 12-й. Кн. XLIV /Под ред. Н.А. Янчука. – Москва, 1900. – № 4. – С. 35–51.

44 Ад ж-кі в. Шарсцін Веткаўскага р. Чуяшковай Ганны Данілаўны, 1927 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2009 г. Сш. 126. Ар. 13.

для якой звычайна збіралі ўсе ўдзельнікі. Раз на год гэтая свечка “пераходзіла” да новага гаспадара.[45] Каб зразумець, што значыць “суполкі напаловуцаркоўнага кшталту” і што значыць “падтрымліваць парадак у царкве”, неабходна ведаць, якой была на той час рэлігійная сітуацыя на азначанай тэрыторыі ў цэлым.

На наш погляд, яна была напрамую звязана з наступствамі Крэўскай уніі ВКЛ з Польшчай (1385 г.), якая ў першую чаргу тычылася аб’яднання дзяржаў, але яна, па вызначэнні беларускага гісторыка У.М. Ігнатоўскага, адчыніла “шлях для палітычнага польскага і рэлігійнага каталіцкага ўплыву на жыццё беларусаў”[46]. Пасля яе прыняцця “феодалам за переход в католическую веру” быў абяцаны цэлы шэраг прывілеяў.[47] Безумоўна, сярод беларусаў знайшліся тыя, хто спакусіўся на гэтыя абяцанні, што пэўным чынам паўплывала на жыццё праваслаўнай царквы. І ў першую чаргу гэта было звязана з такой асаблівасцю праваслаўя на ўкраінска-беларускіх землях, як права “патранату”, калі царкоўнае жыццё рэгулявалася не толькі духавенствам, але і свецкімі асобамі.[48]

Слушныя меркаванні ў гэтым плане прыводзяцца У.М. Ігнатоўскім: “Старажытнае права патранату (заступніцтва) свецкіх асоб і ўстаноў над царквою было шкадлівым для праваслаўнай царквы. Калі раней літоўска-беларускі князь, магнат, шляхціч ці гарадская грамада лічыліся патронамі, апекунамі, заступнікамі царквы, то гэта давала царкве пэўную абарону і эканамічную моц, бо гэтыя патроны былі праваслаўнымі. Яны клапаціліся аб тым, каб цэрквы мелі добрых свяшчэннікаў, былі забяспечаны правамі, будынкамі, землямі, грашыма і г. д. Але гэта мела і адваротны бок: патрон меў права ўмешвацца ў хатняе жыццё царквы. Гэта

---

[45]Зеленин, Д.К. Восточнославянская этнография / Д.К. Зеленин. – Москва: Наука, 1991. – С. 386.; Пономарьов, А.П., Артюх, А.Ф., Косміна, Т.В. Українська минувшина: Ілюстрований етнографічний довіднік /А.П. Пономарьов, А.Ф. Артюх, Т.В. Косміна. – Київ: Либідь, 1994. – С. 162.

[46]Ігнатоўскі, У.М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі / У.М. Ігнатоўскі. – Мінск: Беларусь, 1991. – С. 90.

[47] Уния в документах / Сост. В.А. Теплова, З.И. Зуева. – Минск: Лучи Софии, 1997. – С. 64–78.

[48]Дмитриев, М.В. Между Римом и Царьградом: Генезис Брестской унии 1595–1596 гг. / М.В. Дмитриев. – Москва: Издательство Московского университета, 2003. – С. 35.

было шкодна, калі патрон з праваслаўнага рабіўся пратэстантам ці каталіком".[49] Заўважым, што хаця У.М. Ігнатоўскі апісвае падзеі, якія пачалі адбывацца апасля Люблінской уніі 1569 года, першыя крокі ў гэтым накірунку былі зроблены значна раней.

У такіх абставінах Свяча, на нашу думку, пашырала кола далучаных да свяшчэннага агню. У гэтым плане цікавымі падаюцца меркаванні расійскага мовазнаўцы Б.А. Ларына наконт "малой" і "большой" сям'і. У склад другой, акрамя бліжэйшых родзічаў, таксама ўваходзяць "сговорившиеся друзья" и "единомышленники".[50] Як рэлікт родавага культу, у нашых вёсках час ад часу ўзнікаюць "дваравыя" аброчныя абразы, якія існуюць адначасова з агульнымі Свечамі. Каля гэтых абразоў таксама ў дзень памяці пэўнага святога адбываюцца набажэнствы, гаспадары таксама частуюць гасцей, але гэтыя абразы не пераносяцца.

Знешне "свечачныя" абразы могуць адрозніваццa ад тых, што мы звычайна можам бачыць у вясковых хатах. Перш за ўсё, памерам: у шэрагу традыцыйных сустракаюцца і такія, што ў вышыню часам дасягаюць метра і больш. Для свячных абразоў у большасці вёсак робіцца спецыяльны "станок" (тэрмін інфармантаў). Гэты станок уяўляе сабойківот са столікам альбо тумбачкай, збоку да якіх прымацаваны ручкі альбо вушкі для зручнасці падчас пераносу. Нам спадабаліся вызначэнні жанчын наконт гэтых канструкцый, якія яны зрабілі на падставе сваіх дзіцячых успамінаў, прынамсі: "з вялікі цілівізар", "як вакно". Таксама бываюць і трохстворчатыя абразы.

Непасрэдныя ўспаміны жыхароў азначанай намі тэрыторыі адносяць час узнікнення Свечаў да канца XIX – пачатку XX ст. і вызначаюць яго як "да рэвалюцыі", "да майго раждзенія", "в начале нашего столетия", "ета справеку веку", "з старых гадоў", "калі нашы дзяды і прадзеды жылі". Мясцовыя жыхары ў выпадках хвароб блізкіх, бязладдзя ў сям'і, хваробы хатняй жывёлы, стыхійных навалаў звярталіся да Свечаў. Дзеля гэтага ў аглядныя намі часы "ўсем мірам" (альбо хтосьці спачатку для сябе, а потым "пускаў па сялу")

---

49 Ігнатоўскі, У.М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі / У.М. Ігнатоўскі. – Мінск: Беларусь, 1991. – С. 122.

50 Ларин, Б.А. История русского и общего языкознания (Избранные работы) / Б.А. Ларин. – Москва: Просвещение, 1977. – С. 53.

набывалі альбо замаўлялі абразы ў мясцовых майстроў. Разам з тым жыхары нашых вёсак хадзілі за гэтымі абразамі ў Кіеў і Пачаеў, дзе набывалі іх у тамашніх манастырах. У гады Вялікай Айчыннай вайны такія абразы замаўлялі, "каб родныя жывымі прышлі".[51] Аднак возьмем на сябе смеласць меркаваць, што значна раней Свечы ў нашых вёсках маглі гуртаваць вакол сябе праваслаўных вернікаў, якія не прынялі наступстваў спачатку Крэўскай, а потым Люблінскай і Брэсцкай Уній.

Адносна першай з іх маюцца рэдкія, але ў вышэйшай ступені красамоўныя сведчанні. Напрыклад, першыя дакументальныя звесткі пра вёску Шарсцін (на дадзены час вёска Веткаўскага раёна) звязаны з перадачай яе "ў прыватную ўласнасць" літоўскаму пану-католіку Міхаілу Монтаўту. Час гэтай падзеі вызначаецца недзе паміж 1440 – 1443 гг.[52] І не менш красамоўныя сведчанні прыводзяцца ў "Реестре ревизии господарской Гомейской волости" за 1560 г. Так, у апісанні в. Данілавічы, на дадзены час вёска Веткаўскага раёна, знаходзім: "Повинность того села: в каждый год о светом Михаиле, свята римского, мают давати до скарбу господарского с каждой службы по пятьдесят грошей, жита бочку ровную, без верха и нетресеную..." (Пералік падатку досыць унушальны. − Г.Л.)[53]

Апасля Брэсцкай царкоўнай уніі (1596), накіраванай на аб'яднанне каталіцкай і праваслаўнай цэркваў, палітыка акаталічвання насельніцтва праводзілася на дзяржаўным узроўні. У яе выніку ў Магілёўскай епархіі, куды ўваходзілі і праваслаўныя храмы Веткаўшчыны, з 380 храмаў 200 было адабрана ў праваслаўных і ператворана ва ўніяцкія або нават у каталіцкія.[54]

Тэрыторыя сучаснай Веткаўшчыны не стала ў гэтым плане выключэннем. Так, у дакуменце пад назвай "1739 г. сентября 7 − Донесение Белорусского епископа Иосифа Волчанского российскому

---

[51]Ад п-кі з в. Амяльное Веткаўскага р. Грэцкай Варвары Аляксандраўны, 1925 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2005 г. у Ветцы. Сш. 117. Ар. 51.

[52]Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Веткаўскага р-на. У 2 кн. Кн. 1. Мінск: БЕЛТА, 1997. – С. 45.

[53]Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией. Вильна, 1886. Т. 18. Прыводзіцца па выданню: Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Веткаўскага р-на. У 2 кн. Кн. 1. – Мінск: БЕЛТА, 1997. – С. 52.

[54]Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Веткаўскага р-на: у 2 кн. Кн. 1. – Мінск: БЕЛТА, 1997. – С. 64.; Виноградов, Л. Гомель. Его прошлое и настоящее. 1142–1900 г. / Л. Виноградов. – Москва: Типографія Н.Н. Шарапова, 1900. – С. 22.

правительству о гонениях на православных и отнятии у них церквей униатами" чытаем: "Что прошедшего 1737 года в Протопопии Гомельской отнято четыре церкви: Радожская, Варфоломеевская, Шерстинская и Новосельская".[55] Тое самае і ў "Представлении иеромонаха Сильвестра Каховского российскому министру-резиденту в Варшаве Голембевскому об обидах и преследовании православных в Белоруссии": "В Старостве Гомельском, в день праздника св. Петра, в 1737 году, четыре церкви насильно взяты на Унию, а именно: Шерстинская, Радозская, Бартоломеевская и Новосельская".[56] Жывыя сляды гэтых падзей захаваліся амаль да апошняга часу. Так, яшчэ ў трыццатых гадах XX ст. на гарышчы Шарсцінскай царквы мясцовыя жыхары знаходзілі скульптурныя выявы Хрыста і Марыі.

Своеасаблівым фонам для гэтых дакументаў могуць служыць падзеі, што адбываліся на гэты час у в. Радуга, жыхары якой "недзе з 1730-ых гадоў, а, можа, і раней, знаходзіліся пад уплывам ордэна езуітаў. Езуіты − гэта чальцы найбольш рэакцыйнага манашаскага каталіцкага ордэна "Таварыства Ісуса", якія клапаціліся аб умацаванні каталіцызму, у тым ліку і на беларускіх землях. У 1730 годзе мясцовыя паны браты Казімір і Антоній Халецкія фінансавалі езуіцкую місію ў маёнтку Хальч з цэнтрам у сяле Радуга".[57] Свяча ў такіх умовах, на наш погляд, магла стаць бадай адзіным выйсцем для прыхільнікаў праваслаўнай традыцыі.

Гэтую сітуацыю мы можам суаднесці з тым, што адбывалася на Віцебшчыне і апісваецца ў "Полоцких епархиальных ведомостях" за 1875 г.: "При витебской городской церкви св. пророка Иліи более 200 лет, свидетельствуют старожилы, существует братчина во имя святителя Николая. Надо полагать, что начало ее совпадает со временем построения церкви или появления в Витебске унии: может быть, в основании братчины лежала мысль по возможности поддерживать приходский храм граждан, наиболее противившихся

[55]Уния в документах /Сост. В.А. Теплова, З.И. Зуева. – Минск: Лучи Софии, 1997. – С. 278. На дадзены час вёскі Веткаўскага раёна Радуга, Шарсцін, Барталамееўка, Навасёлкі.

[56] Тамсама. – С. 280.

[57]Цейкін, У.У. Хальч: Краязнаўчы нарыс / Цейкін У.У. – Мінск: Пейто, 2000. – С. 11–12. Цейкін, У. Polska Vetka / У. Цейкін // Голас Веткаўшчыны, 2010, 24 снежня. – С. 3.

совращению в унию".[58] У гэтых падзеях для нас істотна тое, што "існаванне братчыны непарыўна звязана з адмысловай брацкай іконай свяціцеля Міколы, якая круглы год захоўваецца ў доме чаргоўвага братчыка",[59] што родніць яе са Свячой. Істотна і тое, што рытуал, які склаўся ў асяроддзі чальцоў гэтага брацтва, цалкам супадае з рытуальнымі асаблівасцямі "Свячы".

Калі нашы меркаванні аб падзеях канца XVIII стагоддзя − гэта толькі нашы, хаця і слушныя, меркаванні, то аб падзеях 20-30-х гадоў XX стагоддзя, якія іх па-свойму паўтарылі, мы можам рабіць высновы па словах відавочцаў. Менавіта ў гэты час, калі ў сувязі з палітыкай дзяржаўнага атэізму масава зачыняліся храмы, дамы, дзе знаходзіліся Свечы, станавіліся своеасаблівымі духоўнымі цэнтрамі, што вызначаецца і носьбітамі традыцый, як, напрыклад: "Эта ікона была прынесена ад бацюшкі ў то ўрэмя, када была ішчо ганенія на цэркві: і запрышчалі, і бурылі цэркві, унічтажалі праваславіе. Дак іе прынеслі мая мама і той жэншчыны мама, дзе стаіць січас іна. І дзіўчаты ўночы неслі з Краснай ад бацюшкі − Іаан Крысцііль, каторы крысціў Ісуса Хрыста ў водах Іарданскіх. С цех пор стараліся: кажды раз па году стаяла іна".[60] "Не было ў нас цэрквы. А нада ж людзям галаву дзе прытуліць, Богу памаліцца. У нас былі бабкі граматныя, панімалі ўсё і маліліся. Называлася Свяча".[61]

Жанчыны сталага ўзросту ўзгадваюць, што ў дамах, дзе знаходзіліся Свечы, хрысцілі дзяцей і свяцілі пасху. У гэты час Свечамі маглі станавіцца абразы з зачыненых храмаў: "Парцейныя ж тады ганялі, дак моўчанькі малілісь. Бабы такіе збіралісь, малілісь Богу. Ікона стаяла. Во, ат тых пор, як разрушэніе царквы было… Я была такая малая дзяўчонка. Дак ету ікону манашка прывязла тады перад етым. Ікона ў цэркві была. Цэркаў як разрушылі, ікону ету паставілі на засек, штоб жыта не сыпалась. А бабка тут старая, манашка,

[58]Братчина святителя Николая при витебской Иліинской церкви // Полоцкие епархиальные ведомости. Отдел неофициальный. – 1875. – № 24. – С. 880–884.
[59]Тамсама.
[60]Ад ж-кі в. Калініна Гомельскага р. Анціпавай Веры Адамаўны, 1937 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2009 г. Сш. 4. С. 18–20.
[61]Ад ж-кі в. Стаўбун Веткаўскага р. Марозавай Марыі Лаўрэнцьеўны, 1927 г. н., зап. Лапацін Г.І., Лявонцьева С.І. у 2007 г. Сш. 73. Ар. 55.

пашла ў цэркаў да папрасіла. Што яны: “Давай нам замест доску, так ікону аддадзім”. Яна прынясла. Дак узялі – ікона плакала. Сказалі: як бралі, так ікона плакала, выціралі”[62].

Забягаючы наперад, адзначым, што калі на пачатку 1990-х гадоў у нашых вёсках аднавіліся храмы, гэтыя абразы вярнуліся на свае былыя месцы. Не дзіўна, што ў гэтай сітуацыі, калі дамы, дзе знаходзіліся Свечы, прынялі на сябе функцыі храмаў, незалежна ад колькасці Свечаў у адным населеным пункце, святкаванне любой з іх магло вызначацца мясцовымі жыхарамі як прастольнае свята. Па аналогіі з тым, як у народнай гаворцы для вызначэння прастольнага свята амаль паўсюдна існуе назоўнік “прыстольшчына”, у в. Покаць Чачэрскага р. для вызначэння святкавання Свячы ўтварылі слова “свячына”.[63] Менавіта так яно і адбывалася ў большасці вёсак. І толькі самыя дасведчаныя ў рэлігійным плане жыхары нашых вёсак Свечы, прысвечаныя святым, у гонар якіх у свой час былі асвечаны мясцовыя храмы, вызначаюць як “прыстолы”, а астатнія – як аброчныя.

Але тут трэба адзначыць, што нават і гэта адбывалася ва ўмовах панавання новай дзяржаўнай ідэалогіі пад пільным наглядам мясцовых улад. Старыя людзі, якія памятаюць гэтыя часы, узгадваюць, што часта ўсё адбывалася па начах употай ад асноўнай масы жыхароў вёскі. Абвінавачаныя ў актыўным удзеле ў абрадзе, яго ініцыятары штрафаваліся, арыштоўваліся і нават ссылаліся ў “далёкія краі”: “Было такоя ўрэмя, што за етую ікону штрафы давалі дажэ. Мая цёця выплачывала. З пенсіі ў іе высчыталі штраф за то, шта ў іе ета ікона “Неупалімая”. І хадзілі людзі маліцца, часта бабы сабіраюцца маліцца. Дак, ета ўжэ ўсякія людзі ё, данясслі, і штраф ёй далі, сколькі, я ўжэ ні скажу, ні знаю, но высчытылі ў іё з пенсіі”.[64] “Я помню, пастроілі хату ў шэйсят утаром гаду, маць вызвалі ў сельскі савет і сказалі: “Ні надумайся! Аштрафуім!” Хацят, штоб січас была рылігія. Маладзёж... Мне німножка

[62]Ад ж-кі в. Дубраўка Добрушскага р. Пузікавай Марыі Паўлаўны, 1916 г. н., зап. Лапацін Г.І., Раманава Л.Д. у 2002 г. Сш. 76. Ар. 77.
[63]Ад ж-кі в. Покаць Чачэрскага р. Капузэлевай Наталлі Дзям’янаўны, 1918 г. н., зап. Раманава Л.Д., Нячаева Г. Р. у 1998 г. Сш. 75. Ар. 5.
[64]Ад ж-кі в. Пакалюбічы Гомельскага р. Бурцавай Кацярыны Емяльянаўны, 1925 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2009 г. Сш. 4. Ар. 22.

ана прысвяцілася ўвіду, за то шта мне ўжэ на сіводнішні дзень семсят чатыры гады скора, што ў сям’е былі рылігіозныя. А еслі ў каго не было, ані... Патаму шта ганьба... Ад ганьбы ўсё ўшло. Гаварят так: “Нет Бóжэства − нет вежэства”. Эта так гаварылі старыя. Я ж вам сказала, што ў шэйсятам гаду пастроілі хату, і прэдседацель вызывая, а ані хацелі эту перахадзяшчаю ікону ўзяць, са сваіх капеяк пастроілі хату... Перахадзяшчаю ікону ўзяць. І вот вызывая прэдседацель сельскага савета і гаварыт: “: “Еслі вы забіроце, мы цібе аштрафуім”. А ў нас жа такія былі случаі ў трыццаць сідзьмом гаду. Адзін, у іго былі кніжкі, ён Богу маліўся, саслалі, несматра што жына ўмерла, чэцвіра дзіцей, саслалі і там растрылялі”.[65]

Па сутнасці, паўтарылася сітуацыя, аб якой у свой час пісаў Ф. Жудро: “У царкоўна-побытавым жыцці беларускага народа пад даволі тоўстым слоем каталіцкіх уяўленняў, накладзеных на яго ў цяжкую гадзіну Уніі, захаваліся да нашых дзён шмат самых старадаўніх спракавечна-рускіх (Вызначэнне “рускіх”, на мой погляд, не адпавядае рэчаіснасці. − Г.Л.) звычаяў. Да шэрагу такіх звычаяў належыць свята, вядомае ў беларусаў пад іменем “Свячы”.[66]

Старажытныя, на наш погляд, уяўленні аб сувязі Свячы і агменю дастаткова празрыста выявіліся ў меркаванні, праўда, адзінкавым, выказаным адной з інфармантак, прынамсі: “Свяча гарыць… Еслі мы запалім свечку возлі іконы, яна абазначае... Як табе сказаць: сімвал любві к Богу. Как агнём яна гарыць, так душа наша далжна агнём к Богу гарэць. Мы далжны вассылаць к Богу. Наша душа далжна гарэць к Богу. Як еты аганёк вот гарыць малінькі − так должэн аганёк зажэчся ўнутрэ, і пасланць к Богу малітву. Для етага і свяча, запаліваем свячу, стаім возлі іконы і молімся Богу. Агню пакланяцца − ета асталась ужо ат язычнікаў. Асталась ат язычнікаў павер’яў очэнь многа”.[67] Па сутнасці, наша інфармантка на ўзроўні свайго асабістага светапогляду паўтарае А.М. Афанасьева: “Кожны з радоў, які жыў пад адным дахам, меў свайго бога-апекуна. Свяшчэнны

[65]Ад ж-кі в. Шарсцін Веткаўскага р. Гірынавай Любові Пятроўны, 1945 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2009 г. Сш. 126. Ар. 16.

[66] Жудро, Ф. Свеча – белорусский церковно-бытовой праздник / Ф. Жудро // Могилёвские епархиальные ведомости. – 1893. – № 13. – С. 232–236.

[67]Ад ж-кі в. Пакалюбічы Гомельскага р. Літвінавай Тамары Васільеўны, 1938 г. н., зап. Раманава Л.Д. у 2006 г. Сш. 98. Ар. 56.; Раманава, Л.Д. “Свяча ці народам, ці Богам суджана” / Л. Д. Раманава // Роднае слова. – 2004. – № 3. – С. 104–106.

агонь агменю быў правідзеннем асобнай абшчыны і не меў нічога агульнага з агнём суседняй сям'і. Пры ўсталяванні хрысціянства дваяверны народ спалучаў свае старажытныя ўяўленні з сямейнымі абразамі, якія прынята паміж простанароддзем называть багамі і божынькамі. Той святы, у імя якога пабудавана вясковая царква, прызнаецца апекуном усяго паселішча. Храмавае свята звычайна адзначаецца агульным застоллем, а перад абразом святога апекуна запальваецца свечка, якую набываюць на мірскую складчыну".[68]

Прысвечанасць агню свечкі таму ці іншаму святому вызначаецца і сучаснымі носьбітамі традыцыі: "Эту вікону так і нясуць па ўсёй дзярэўні. А тамака заходзяць у хату, запаліваяць свечкі, каму та вікона, і вікону паставяць..."[69] У гэтым плане цікавым падаецца аповед, зафіксаваны ў в. Юркавічы, дзе Свячу замовілі, каб замацаваць купчую на агульную зямлю. Адначасова з заснаваннем новых пасёлкаў, як сведчаць нашы інфарманты з населеных пунктаў Малінаўка і Новае Жыццё, і ў іх узнікаюць Свечы.

Своеасаблівае стаўленне да Свячы як заступніцы вёскі вызначылася ў Шарсціне, дзе з даўніх часоў існавала Свяча "Раства Багародзіцы", аднайменная з мясцовым храмам. Праз шмат гадоў у сувязі з падзяжом скаціны мясцовыя жыхары заснавалі яшчэ адну Свячу, прысвечаную Параскеве Пятніцы. Абраз зрабілі двухбаковым. Зразумела, што на адным баку − "Раство Багародзіцы", а на другім − выява велікамучаніцы Параскевы. Прысвечанасць Свячы Параскеве, на наш погляд, з'яўляецца данінай падзеям, што адбыліся ў гэтых мясцінах у перыяд 1862−1876 гг., калі на дрэве з'явіўся абраз з выявай Параскевы, а пад дрэвам з-пад зямлі забіла крыніца.[70] Яе заснавалі, каб спыніць "мор" хатняй жывёлы. І ў наш час у в. Шарсцін набажэнству на Свячы папярэднічае набажэнства каля крыніцы.

---

[68]Афанасьев, А.Н. Поэтические воззрения славян на природу. В трёх томах. / А.Н. Афанасьев. – Москва: Современный писатель, 1995. – Т.2. – С. 37.

[69]Ад ж-кі в. Дуброва Лоеўскага р. Ігнаценка Ксеніі Сяргееўны, 1920 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2009 г. Архіў аўтара.

[70]Вызначаючы час, калі адбыўся цуд у Шарсціне, мы грунтуемся на публікацыі "Жизнь и чудеса в бозе почившего старца протоиерея Иоанна Гашкевича" (вядомы як Іаан Кармянскі), які ў гэты час служыў настаяцелем мясцовага храма і, паводле жыційнага тэксту, быў сведкай гэтых падзей. (Мельников, А.А. Путь печален. Исторические свидетельства о святости Белой Руси / А.А. Мельников. – Издание Белорусской православной церкви Московского патриархата, 1992 . – С. 235–239.

Свечы, прысвечаныя святым, у гонар якіх былі асвечаны мясцовыя храмы, існавалі і ў шэрагу іншых вёсак, напрыклад, у Барталамееўцы, прычым Барталамееўка прапануе нам яшчэ адну цікавую ў гэтым плане акалічнасць: гаспадыня хаты, у якую перанеслі Свячу, лічылася (для нас істотна, што гэта вызначэнне інфармантаў) “хранительницей Свечи”.[71]

Сама сабой напрошваецца аналогія з агульнавядомым “хранительница очага”. Назапашаны матэрыял дазваляе нам параўнаць іхнія паводзіны паміж сабой. “Ці не была жанчына на заранку чалавечага жыцця натуральнай захавальніцай ачагу? Мужчына, здабытчык дзічыны, часам сыходзіў далёка; жанчына павінна была сцерагчы сваю рухомасць”, − задае пытанне даследчык культу агню В.М. Харузіна.[72] І калі пра паводзіны “хранительницы очага” мы можам уяўляць, грунтуючыся толькі на, хаця і слушных, але ўсё ж толькі меркаваннях даследчыка, то пра паводзіны “хранительницы иконы” сведчаць удзельнікі абраду, з якімі нам даводзілася сустракацца.

Звернемся да ўзгаданага вышэй вызначэння “вадзіць Свячу”: “Усе сабираютца старыя, перенисли икону к саседки. И ты ужэ хранитель. Атчитали ани “Отче”, и все сабираютца, хто был в этай хате, саседка ведёт к сибе, патом идём ка втарой, к третьей, − и всю ночь. Эта называлась “вадить Свячу”. Икона аставалась, а мы пашли “вадить Свячу”. И в каждай хате па чарке, и, где хто апьянел, там и астался. Но ты далжна вирнутца − хранить Свячу”.[73] Архетыпічнасць паводзінаў “хранительницы очага” и “хранительницы Свячы” − відавочна .

Уяўленні пра спрадвечную “сямейнасць” і “родавасць” Свечаў прасочваюцца і ў тым, што яны застаюцца агульнымі як для саміх вёсак, так і для пасёлкаў, што ўзніклі вакол іх падчас рассялення буйных населеных пунктаў. Так, вакол в. Неглюбка такіх пасёлкаў

---

[71]Ад п-ца з в. Барба Веткаўскага р. Лук’янава Паўла Фядотавіча, 1935 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2009 г. у Ветцы. Сш. 119. Ар. 14.

[72]Харузина, В.Н. К вопросу о почитании огня /В.Н. Харузина // Этнографическое обозрение. – 1906. – № 3–4. – С. 76–77. Прыводзіцца па публікацыі: Токарев, С.А. Символика огня в истории культуры / С.А. Токарев // Этнографическое обозрение. – 1999. – № 5. – С. 38.

[73]Ад п-ца з в. Барба Веткаўскага р. Лук’янава Паўла Фядотавіча, 1935 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2009 г. у Ветцы. Сш. 119. Ар. 14.

налічваецца дзевяць. І адваротны прыклад: у адным населеным пункце магло быць некалькі аднолькавых Свечаў, і кожная з іх хадзіла толькі па сваёй вуліцы, як, напрыклад: "У нас дзве Свячы Пакроўскіх. На Леніна (вуліца в. Вялікія Нямкі) ёсць, і ў нас, на Савецкай, "Пакровіца". Там тожа была пераносная. Пераношылі. Людзі бралі тую ікону. Сюды ніхто ўжо не імеў права браць, на ету вуліцу: "У вас свая, − гаворя, − ікона!" Па-родзічтству. Мы як свае былі. Нікому не хацелі аддаваць у чужыя рукі. Толькі свайму роду. На чужых не дужа давярялі."[74]

Не менш красамоўная сітуацыя ўзнікла ў вёсцы Матнявічы Чачэрскага раёна, дзе, акрамя "Раства Багародзіцы", налічваецца адразу тры Мікольскія Свячы. Прычым дзве з іх "ходзяць" па адной вуліцы, і кожная па сваім краі. У гэтым плане трэба разглядаць і існаванне абраду "Свяча" ў цюменскіх вёскак Асінаўка, Ермакі, Ялоўка, заснаваных у XIX ст. перасяленцамі з Магілёўскай губерніі. Узгадвае адзін з патомкаў заснавальнікаў гэтых вёсак Міхась Басякоў: "У нас жывуць у Асінаўкі... Там у ніх такі звычай. У іх нейкі дзядзька некалі ікону зрабіў па абычаю, па свойму звычаю".[75]

Вялікія Нямкі дадаюць да асаблівасцей "Свячы" яшчэ адну адметнасць, якая дазваляе разглядаць абрад як сапраўды сямейны. У гэтай вёсцы на свячную трапезу, як на хаўтурах, рыхтуюцца гарачыя стравы[76] і запрашаюцца памерлыя сямейнікі: [*Ці былі абавязковыя стравы на вячэры, на абедзе?*] "Цёпленькая. Штоб пара была. Радзіцеляў гукаім: "Чэсныя радзіцелі, хадзіця, будзіця вячэряць!" Усі памолюцца, становюцца, радзіцеляў пагукаюць".[77]

Своеасаблівa "сямейнасць" і "родавасць" Свечаў у свой час вызначылася ў п. Залаты Рог Веткаўскага раёна. Заснавальнікі пасёлка, выхадцы з в. Старое Сяло, заснавалі Свячу "Ражства Багародзіцы",

[74]Ад ж-кі в. Вялікія Нямкі Веткаўскага р. Самусевай Таццяны Фядосаўны, 1930 г. н., Пархоменка Вольгі Паўлаўны, узрост – гадоў шэсцьдзясят, зап. Лапацін Г. І. у 2007 г. Сш. 125. Ар. 2.

[75]Ад ж-ра Свярдлоўска Басякова Міхася Іванавіча, 1965 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2011 г. Сш. 67. Ар. 13–14.

[76]Лопатин, Г.И. "Похараны есць похараны..." / Г.И. Лопатин. – Живая старина. – 2012. – № 3. – С. 44–46.

[77]Ад ж-кі в. Вялікія Нямкі Веткаўскага р. Самусевай Таццяны Фядосаўны, 1930 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 125. Ар. 1.

як гэта было на іх "вялікай" радзіме. Падобная сітуацыя адмыслова апісваецца і жыхарамі пасёлка Зялёная Хвоя, створанага выхадцамі з в. Данілавічы: "Ета ў Данілавічах і ў нас Пакроў. Што ў Данілавічах, то і ў нас. Ета, счытаіцца, данілаўскі пасёлак. Ета з Данілавічаў усе хаты пераношылі. І заадно абрычаліся: Выгар, Дойліна, Зялёнае. У Данілавічах быў аброчны празнік, затым у нас такі празнік. Што ў Данілавічах празнуюць, то і ў нас... Пыхань аддзіляіцца, Прысно аддзіляіцца. Ета другія. А ў Данілавічах Пакроў".[78]

І гэта ўжо прамая аналогія з глыбокай старажытнасцю, калі родавасць, сямейнасць сімвалізавалася хатнім агменем. Этнограф А.А. Карынфскі ў сваёй працы вызначае: "Высяляючыся з дзедаўскага гнязда, маладыя чальцы роду абавязкова бралі да свайго новага агменю падпаленыя вуглі са старога. Толькі гэта, па вераваннях ранніх продкаў сучаснага аратага, і магло захаваць роднасныя сувязі".[79] Цікавым у гэтым плане падаецца аповед пра абраз, які тужыў, прадчуваючы, што "ідзе ў свет са сваёй меснасці". Звяртаючыся да вобраза "старажытнага апекуна", адзначым, што калі Свечы перастаюць "хадзіць", яны часцей за ўсё аказваюцца практычна на пажыццёвым захоўванні ў апошняга гаспадара альбо вяртаюцца да родзічаў заснавальніка Свячы, нават калі яны жывуць у зусім далёкім населеным пункце.

Таму, нягледзячы на тое, што жыхары нашых вёсак пастаянна вызначаюць прысвечанасць Свячы пэўнаму святому альбо прымеркаванасць яе да пэўнага хрысціянскага свята, прынамсі: "Мікольская свяча", "Юраўская свяча", "Траецкая свяча", "Казанская Божай Маці свяча" і г. д., у рытуальных дзеяннях, прысвечаных Свячы, пастаянна ўзнікаюць праявы старажытнага культу. Збіраючыся каля агменю, нашы продкі вырашалі самыя надзённыя для сябе пытанні, а ў агонь, каб улагодзіць свайго духа-апекуна, кідалі ежу і зерне.

Аднак мы сутыкаемся з рэшткамі старажытнага культу ўжо на тым этапе, калі "абажанне агменю, па вызначэнні А.М. Афанасьева,

[78]Ад ж-к п. Зялёная Хвоя Веткаўскага р. Лебедзевай Анастасіі Андрэеўны, 1921 г. н., Лебедзевай Соф'і Сяргееўны, 1933 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2012 г. Сш. 127. Ар. 42.

[79]Коринфский, А.А. Народная Русь / А.А. Коринфский. – Москва: Издание книгопродавца М.В. Клюкина, 1911. – С. 53.

увасобілася ў вобразе дамавіка”,[80] якога таксама (а гэта ўжо нашы асабістыя назіранні) улагоджваюць кашай альбо хлебам. У якасці прыкладу прывядзем каментар да замовы “Ад дамавога”: “Яму нада класць у сарай, ежэлі скаціна балеіць, нада хлеба ад цэлае булкі адрэзаць, на белаю трапачку, і палажыць пад страху на шулачку. А еслі ў домі, можна на Кут палажыць”.[81]

Падобны матыў узнікае і ў адмысловых дзеяннях удзельнікаў абраду “Свяча”. Вышэй мы ўзгадвалі, што ў лакальных варыянтах свечка, якая ўваходзіць у комплекс Свячы, ставіцца ў бохан хлеба альбо ў посуд, запоўнены зернем. І не мы, а самі ўдзельнікі абраду вызначалі гэта як прысвячэнне Боству, прынамсі: “Эта называіцца: ікона эта − Свяча. Мы становім місачкі, насыпаім зярно. Эта зярно ўродзе бы благадарэніе хлебам. І ў зярно становім свечачкі, заліваім і гарацъ, і службу відом”.[82] У гэтым шэрагу вылучаюцца Свечы, прысвечаныя святой велікамучаніцы Параскеве Пятніцы, якая ў народнай традыцыі асэнсоўваецца як “ільяніца”. Да гэтых Свечаў у якасці ахвяраванняў таксама прыносілі “жменю лёну трэпянага, штоб свечкі сукаць і на палатно”.[83]

Пра “дамавіка” нагадваюць і рытуальныя асаблівасці вырабу свечкі ў в. Неглюбка: прынамсі, у новую свечку дадаюць кавалачак старой. Такім жа чынам у нашых вёсках пры пераходзе на новае месца жыхарства ў новую хату пераносілі зямлю альбо попел з-пад печкі старой хаты, і тлумачаць гэта наступным: “Дамавы ў нас усігда ў пачоці. Дамавога... Усігда мы... Пераязжаіш з этай хаты ў другую, значыць, нада зваць з сабой дамавога. Нада браць з падполля жменьку зямелькі, з сарая патрошкі зямелькі і гаварыць: “Хазяін мой, пайдзём са мной”. Я тожэ так гаварыла, патаму шта так у нас спрадвеку вякоў, дамавога завуць з сабой. [*Што рабілі з зямелькай на новым месцы?*] Тожэ так. У сарайчык нямножка, пад

[80]Афанасьев, А.Н. Народ-художник / А.Н. Афанасьев. – Москва: Советская Россия, 1986. – С. 34.

[81] Ад ж-кі в. Барталамееўка Веткаўскага р. Шэвелевай Ганны Цітаўны, 1912 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 1998 г. Сш. 53. Ар. 70.

[82]Ад ж-кі в. Старое Сяло Веткаўскага р. Дзярбеевай Валянціны Міхайлаўны, 1939 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 101. Ар. 25.

[83]Ад ж-кі в. Шарсцін Веткаўскага р. Чуяшковай Ганны Данілаўны, 1927 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2008 г. Сш. 126. Ар. 6.

пол нямножка. Усюды так, пад печ. Штобы дамавы жыў, не баяўся".[84] Магчыма, рэліктам уяўленняў аб выявах старажытных апекуноў дома, сям'і, роду з'яўляецца і тое, што Свечы вызначаюцца: "як дзіцёнак", "як дзеўка", "дзед", "жэншчына", "мужчынская" і "жаночая" свечкі.[85]

У момантце пераносу Свячы за яе постаццю мы заўважылі рысы і больш велічнага Боства − Боства, якое памірае і ўваскрасае, такога ж, як Асірыс, Адоніс, Аціс, Дземетра, Персефона, Каструбенька ды інш: тым больш, што ў лакальных варыянтах існаваў звычай зняць старую свечку і пакласці яе ў скрыню, каля абраза, а на яе месца паставіць новую.

Абрад пераносу Свячы, як вядома, адбываецца на працягу двух дзён, і кожны з дней мае сваю супрацьлеглую ў адносінах да другой празрыста вызначаную эмацыянальную афарбоўку. Як сведчаць удзельнікі абраду, "...выпраўляюць ту Свячу, плачуць, жалка ім… Туды прыносяць, там ужо не плачуць... Там радуюцца".[86] Тое ж самае адбывалася і ў адносінах да Адоніса і Каструбенькі: "У першы дзень насілі ўвасабленне ("куклу") памершага Адоніса, спявалі жалобныя песні і выконвалі паграбальную ахвяру. На другі дзень выконвалі абрад уваскрэшання Адоніса. Падобна гэтаму на Ўкраіне ў пачатку вясны святкуюць уваскрэшанне Каструба. Пасялянкі водзяць карагод і тужлівым голасам спяваюць: "Помер-помер наш Кострубенько!" У сярэдзіне круга ляжыць дзяўчына, праз хвіліну карагод змяняе жалобны тон на вясёлы і запявае: "Ожив наш Кострубенько".[87]

[84]Ад п-кі з в. Старое Закружжа Веткаўскага р. Раманоўскай Марыі Аляксееўны, 1937 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2005 г. у в. Хальч Веткаўскага р. Сш. 119. Ар. 3.

[85]"А такі, як хазяін, будзе і дамавы. Як хазяйка, такая будзе і дамавая. Ежэлі ўдава жыве, значыць, дамавая будзе жэншчына ў яе". (Ад п-кі з в. Барталамееўка Веткаўскага р. Еціпневай М.Ц., 1919 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 1993 г. у Ветцы. Сш. 53. Ар. 13). "Сколькі сям'і ў нашым домі, столькі і той сям'і". (Ад ж-кі в. Кашкоўка Краснагорскага р. Бранскай вобл. Бярозы Марыі Захараўны, 1916 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 1993 г. Сш. 10. Ар. 19.

[86]Ад ж-кі в. Пералазы Краснагорскага р. Бранскай вобл. Горла Марыі Іванаўны, 1932 г. н., зап. Смірнова І.Ю. у 2002 г. Сш. 122. Ар. 11.

[87]Афанасьев, А.Н. Поэтические воззрения славян на природу. В трёх томах / А.Н. Афанасьев. – Москва: Современный писатель, 1995. – Т.3. – С. 373.; Лапацін, Г.І. Аб шлюбных матывах у земляробчых абрадах на Веткаўшчыне / Г.І. Лапацін // VIII Міжнародныя навуковыя чытанні, прысвечаныя Сцяпану Некрашэвічу. Зборнік навуковых артыкулаў: у дзвюх частках. Ч. 2. / Рэдкал. А.А. Станкевіч [і інш.]. – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2007. – С. 205–210.

У гэтым шэрагу стаіць і абрад, які выконваўся ў веткаўскіх вёсках Бесядзь, Фёдараўка, Навілаўка і Барталамееўка, дзе на Ўшэсце хаваюць "вясну", увасобленую ў лялькý, зробленую з невялікіх кавалкаў тканіны. У некаторых з гэтых вёсак, прынамсі, у Фёдараўцы і Навілаўцы, на Дабравесце гэтую лялькý адкопваюць. І ў большасці нашых вёсак у гэты дзень дзяўчаты пачынаюць "гукаць вясну".

Падобна на гэта, у першы дзень, які вызначаецца як "адправа", Свячу адпяваюць як "усопшых"[88] і кажуць на яе: "як сем'яніна ў хаце не стала"[89], а на другі дзень сустракаюць яе як "маладых".[90] Адпаведна падзеі першага дня структуруюцца як пахавальны абрад, прычым па таму ўзору, як гэта было заўсёды прынята ў мясцовага насельніцтва: ад адпявання нябожчыка і вынасу яго з хаты з абсыпаннем яго зернем і да памінальнага абеду з "канонам" і абавязковымі гарачымі стравамі ("кашай") і далейшага выкарыстання "пахавальных" прадметаў у лекавых і гаспадарчых абрадах. Самі выканаўцы абраду "Свяча" вызначаюць абавязковасць некаторых страў, якія ўжываліся на вячэры са стравамі памінальнага абеду, прынамсі: "Каждый брал ложку канона. Как на похоронах".[91]

Тэксты, якія выконваюцца падчас святкавання "Свячы", самімі жанчынамі вызначаюцца як "жаласлівыя". У шэрагу вёсак яны часткова супадаюць з рэпертуарам, які, па вызначэнні носьбітаў традыцыі, выконваецца, "калі начуюць каля нябожчыка". Неад'емным кампанентам развітання са Свячой з'яўляюцца і "галашэнні" − імправізаваныя жалобныя тэксты, якія звычайна выконваюцца пры страце блізкага чалавека.

Разам з тым, Свяча можа атаясамлівацца і з новым членам сям'і, прынамсі, "нявестай". Адсюль і "яе знешні выгляд ("фата", "вянок"),

---

[88]Ад ж-кі в. Красная Буда Добрушскага р. Бондаравай Ніны Міхайлаўны, 1947 г. н., зап. Раманава Л.Д. у 2001 г. у Ветцы. Сш. 76. Ар. 35.

[89]Ад ж-кі в. Навілаўка Веткаўскага р. Дзеньдобрай Сцепаніды Рыгораўны,1914 г. н., зап. Лапацін Г.І., Раманава Л.Д. у 2000 г. Сш. 70. Ар. 18.

[90]Паводле аповеду ж-кі в. Навілаўка Веткаўскага р. Дзеньдобрай Сцепаніды Рыгораўны, 1914 г. н., зап. Лабацкая Г.А. у 1995 г. Сш. 58. Ар. 2–3.

[91]Паводле аповеду ж-кі в. Зацішша Веткаўскага р. Гарэлавай Ганны Калінаўны, 1920 г. н., зап. Лабацкая Г.А. у 1996 г. Сш. 59. Ар. 5.

адсюль і структураванне падзей другога дня па ўзору вясельнага абраду, і зноў-такі па ўзору сапраўднага вяселля: гэта і "банкеты", якія водзяць падчас пераносу, гэта і сталы, якія накрываюць, "як на свадзьбу", і вітанне Свячы новымі гаспадарамі сваім абразом, і абыход са Свячой вакол стала, і абмен хлебам-соллю, які адбываецца паміж старымі і новымі гаспадарамі. Прычым апошняе, як вясельнае, вызначаецца непасрэдна носьбітамі традыцый: "Перад іконай, як прыносяць у двор… як і маладыя, хлеб аддаюць з аднаго двара ў другі".[92] Адсюль і чымсьці кшталту пасагу выглядаюць "свячныя тканіны", якія разам са Свячой пераходзяць да новых гаспадароў. Іх, па вызначэнні інфармантаў, аддаюць не проста са Свячой − а "за Свячой", як, напрыклад: "Чымадан адзёжы ў міне ляжыць, такія платкі галаўныя ё, даюць гарусачкі пад крэст, цэлы чымадан адзёжы за ёй аддаю".[93]

Паказальна ў гэтым плане і тое, што старыя і новыя гаспадары Свячы называюць адзін аднаго "свацейкамі". Дуалістычны, на наш погляд, характар мае тое, што "мужчынскія" абразы, напрыклад, "Міколу", "Міхайлу", пераносяць мужчыны, а "жаночыя", напрыклад, Багародзіцу, Параскеву, − жанчыны. З аднаго боку, гэта суадносіцца з тым, што маладую выпраўляюць дзеўкі, а маладога − хлопцы; з другога боку, існаваў звычай, каб труну з памерлай дзяўчынай неслі дзеўкі. Падрабязна "вясельна-пахавальная" структура абраду была разгледжана аўтарам у адмысловым даследаванні: « "Свяча" як боства, якое памірае і ўваскрасае».[94]

Падсвечнік са свечкай апранаецца ў спецыяльна пашытае адзенне ў выглядзе фартучкоў, сукенак, спадніц. У некаторых вёсках адзенне для Свячы "делали как старинное"[95] і гэтым нібыта

[92]Ад п-кі з п. Ляда Веткаўскага р. Грыньковай Анастасіі Іванаўны, 1930 г. н., зап. Раманава Л.Д. у 2000 г. у Ветцы. Сш. 62. Ар. 108.

[93]Ад ж-кі в. Старое Сяло Веткаўскага р. Дзярбеевай Валянціны Міхайлаўны, 1939 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 101. Ар. 26.

[94]Лапацін, Г.І. "Свяча" як боства, якое памірае і ўваскрасае / Г.І. Лапацін // "Скарына і наш час", V Міжнарадная навуковая канф. (2011, Гомель), 14–15 кастрычніка 2011 г. [Матэрыялы]. Рэдкал.: А.А. Станкевіч (гал. рэд.) [і інш.]; – М-ва адукацыі РБ, Гомельскі дзярж. ун-т імя Ф. Скарыны. – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2011. – С. 216–227.

[95]Паводле аповеду ж-кі п. Зацішша Веткаўскага р. Гарэлавай Ганны Калінаўны, 1920 г. н., зап. Лабацкая Г.А. у 1996 г. Сш. 59. Ар. 5.

падкрэслівалі яе прыналежнасць да сваёй традыцыі. На працягу года Свячу пераапраналі, прычым прымяркоўвалася гэта да пастоў і свят. У гэтым плане паказальна зафіксаванае намі ў в. Залаты Рог (адзначым, што ў момант размовы з інфармантам, якая мела адбыцца падчас Вялікага посту, Свяча была апранута ў адзенне з тканіны чорнага колеру): "Я адзену к Паскі белаю. Патом будуць пасты. Пітроўскі раньша. Я ўжэ белаю раздзяю, надзяю галубую. Патом Успенскі. Я ўжэ трэццяю адзежку перадзяю. Патом − Пакроў. Я абратна перадзяю белаю. І стаіць у белым адзіяніі да Піліпаўскага паста. У чорная − раз толькі ў год. Перад строгім пастом".[96] З той жа метадычнасцю ў нашых вёсках адбываецца перааздабленне Чырвоных кутоў у дамах, дзе знаходзіцца Свяча. У некаторых з іх падчас Вялікага посту засцілаюць сталы скацеркамі чорнага колеру, а таксама вывешваюць рушнікі − "чарнабрывікі".[97] У тых вёсках, дзе Свяча, вобразна кажучы, не мела вялікага пасагу, яе адзенне перад вялікімі святамі проста перамывалі і перапрасоўвалі. Разам з тым, як распавядаюць у некаторых вёсках, да кожнага вялікага свята для Свячы шылі новае адзенне.

І паколькі носьбіты нашых традыцый свядомыя хрысціяне, то ў лакальных варыянтах антрапаморфныя выявы свечак паверх "адзення" аздабляюцца крыжыкамі кшталту "нацельных". І само месца каля Свячы яны ўжо ўспрымаюць як хрысціянскую прастору: "Свіча называіцца, патаму ета − прэсвятоя места. Яны там Богу моляцца, свечкі гаряць, пра Бога гаворяць. Ета... Гасподні збор туда. І людзі ўсе ідуць з усёй душой, з усім харашым, і з Божжым".[98] Адзенне і на ікону і на падсвечнік, у якім знаходзілася свечка, шылі з адной тканіны і гэтым у вышэйшай ступені прадметна вызначалі іх цэласнасць.

У разважаннях адной з жанчын в. Залаты Рог Веткаўскага раёна ўзнікае ўзор таго, якім чынам трэба апранаць Свячу: "Адзёжка − абізацільна нада, як паложына, начная адзеянія, і верхнія. Як

[96]Ад ж-кі в. Залаты Рог Веткаўскага р. Літвінавай Вольгі Андрэеўны, 1937 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2007 г. Сш. 123. Ар. 23.
[97]Ад ж-кі в. Дубраўка Добрушскага р. Пузікавай Марыі Паўлаўны, 1935 г. н., зап. Нячаева Г.Р. у 1999 г. Сш. 93. Ар. 3.; Ад ж-кі в. Покаць Чачэрскага р. Лукомскай Вольгі Кірылаўны, 1921г. н., зап. Раманава Л.Д., Нячаева Г.Р. у 1998 г. Сш. 75. Ар. 5.
[98]Ад п-кі з в. Амяльное Веткаўскага р. Грэцкай Варвары Аляксандраўны, 1925 г. н., зап. Лапацін Г.І. у Ветцы ў 2007 г. Сш. 117. Ар. 101.

чылавек ходзіць. Счас жы, вот маладзёж, рубахі ні адной німа, а Мацер Божжай, ніжняя більлё пакрываіцца, а патом паверху − цвятным якім, які ў каго мацір'ял быў. І падсвечнік так, так і ікона. Два адзіянія, два плацеццы: ніжняя і верхнія. Так жы і людзям паложына быць".[99] Параўнаем гэта з традыцыяй, якая існавала ў вёсках, дзе рушнікі, якія вешалі на абразы, называліся "платкамі".[100]

Пэўным чынам "рэлігійная адукаванасць", заснаваная на веданні носьбітамі традыцый жыційнай літаратуры і фальклорных тэкстаў, паўплывала і на выбар святых апекуноў, а, значыць, і абразоў, якія станавіліся Свечамі. У большай ступені гэта выяўляецца ў Свечах, прысвечаных св. Міколу, якія замаўляліся, каб нехта з родных вярнуўся з палону, што суадносіцца з "Цудам святога Міколы Цудатворцы аб Агрыкавым сыне Васіліі". У адзінкавым варыянце намі фіксуецца "Стрэчанская Свяча", замоўленая ў сувязі з вяртаннем мужа з палону. Больш за тое, нават пераказваючы падзеі агульнавядомых жыційных тэкстаў, жыхары нашых вёсак могуць звязваць іх са Свячой, як гэта зрабіла жанчына з в. Свяцілавічы, якая пераказвала "Цуд святога Міколы аб дывану", замяняючы "жыційнае жаданне" адзначыць Міколін дзень на жаданне "справіць Свячу Міколу". Паказальна тое, што гэты цуд св. Міколы адносіцца да так званых "рускіх цудаў", што ўзніклі на Русі ў XI стагоддзі, г. зн. задоўга да ўзнікнення Свечаў.[101]

Праз хрысціянскую гісторыю носьбіты традыцыі тлумачаць і асобныя элементы абраду. Так, звычай аздабляць шлях Свячы кветкамі і тканінамі звязваюць з падзеямі "Ўваходу ў Іерусалім", калі на шляху Ісуса Хрыста таксама клалі тканіны і галінкі дрэў. Пэўная вызначанасць праяўляецца неглюбцамі і адносна Багародзічных Свечаў, прынамсі: "У іе бальная дачка была, яна абрякалась, і ў іё сем гадоў ікона стаяла. І − слава Богу! Дачка

[99]Ад ж-кі в. Залаты Рог Веткаўскага р. Нятылькінай Ніны Рыгораўны, 1937 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 123. Ар. 20.
[100]Ад ж-кі в. Прысно Веткаўскага р. Раднянковай Х.І., 1919 г. н., зап. Нячаева Г.Р. у 1983 г. Сш. 5. Ар. 1.; Ад ж-к п. Зялёная Хвоя Лебедзевай Анастасіі Андрэеўны, 1921 г. н., Лебедзевай Соф'і Сяргееўны, 1933 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2008 г. Сш. 127. Ар. 26.
[101]Смирнова, Э.С. Живопись Великого Новгорода. Середина XIII – начало XV века / Э.С. Смирнова. – Москва: Наука, 1976. – С. 273.

здаровая стала. “Скорапаслушніца” скора нас слушая, памагая нам ва ўсіх бедах”.[102] “Скарбяшчаю просяць, кагда бальшое гора. А чаму яна не будзя называцца Скарбяшчая? Мы ўсе − маткі і бацькі. А нада ж была Сына распяць на хрясту. Вот яна і скарбіла. Пры яе ж вачах была: і гваздзём прыбівалі, і рэбры прыбівалі, кроў цекла”.[103] Літаральна па ўсіх вёсках ведаюць, што “Неапальная Купіна” дапамагае пры пажарах. Гэта паспрыяла ўзнікненню ў нашых вёсках адмысловых свечаў: “Я так знаю, как маі прэдкі расказывалі: адкуда ў нас пашла “Купіна” − празнік эты. В дзірэўні былі пажары, гарэла ўсё. І людзі абрыкліся ў этат дзень празнываць − сімнаццатава сінцября − “Купіну”. У нас ёсць эта ікона. Када случаіцца пажар, гарыць што-та, людзі бірут эту вікону і абносят вакруг этага пажара”.[104]

Дакладна ўзгадваюцца і падзеі, звязаныя з “Ільінскай пятніцай”, якая іcнавала ў в. Капань Рэчыцкага раёна: “У каком-та гаду сільная засуха была, людзі абраціліся ў цэркву і прынеслі ікону Ільі”.[105] Выбар абраза з выявай Ільі быў прадыктаваны святаром з в. Баршчоўка (менавіта баршчоўскую царкву часцей за ўсё наведвалі жыхары Капані), які, верагодна, быў знаёмы з “Поучениями, иже во святых отца нашего Климента, папы Рымскага о дванадесятницы” (о двенадцати пятницах). Паводле гэтага твору, “7 пятница − перед днем пр. Илии. Кто сию пятницу постится, тот человек от грома, молнии, грозы, града и голода сохранён будет”[106].

[102]Ад ж-к в. Неглюбка Веткаўскага р. Барсуковай Еўдакіі Лявонцьеўны, 1944 г. н., Сарасека Ульяны Пятроўны, 1932 г. н., зап. Лапацін Г. І., Раманава Л. Д. у 2001 г. Сш. 85. Ар. 66.
[103]Ад ж-кі п. Рэпішча Веткаўскага р. Чорнай Ганны Ўладзіміраўны, 1932 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 1998 г. Сш. 62. Ар. 46.
[104]Ад ж-кі в. Асаўцы Гомельскага р. Буздук Тамары Сцяпанаўны, 1939 г. н., зап. Лапацін Г.І., Скідан А.В. у 2010 г. Сш. 4. Ар. 28.
[105]Ад ж-кі в. Капань Рэчыцкага р. Вярэнка Яўгеніі Сямёнаўны, 1938 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Архіў аўтара. Больш падрабязна гэтая тэма разгледжана аўтарам у публікацыі: Лапацін, Г.І. Абрад “Свяча” ў вёсцы Капань Рэчыцкага раёна / Г.І. Лапацін // “Шостыя навуковыя Доўнараўскія чытанні”, Міжнародная навуковая канферэнцыя, 14–15 лістапада 2007 г. : у 2 ч. Ч. 2: Рэчыца ў часе і прасторы: 795 год заснавання горада /В.М. Лебедзева (адк. рэд.) [і інш.] – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, – 2008. – С. 24–29.
[106]Максимов, С.В. Нечистая, неведомая и крестная сила / С.В. Максимов. – СПб.: ТОО Полисет, 1994. – С. 422.

Рытуал пераходу Свячы, які даходзіць да нас ужо ў самім калектыве, якому належыць Свяча, абмяжоўвае кола тых, чый дом варты прыняць свяшчэнны агонь. Так, Свячу не аддавалі п'яніцам і забойцам. Таксама не давяралі Свячу тым людзям, якіх лічылі ведзьмакамі і калдунамі. Некаторыя з жыхароў самі адмаўляліся ад Свячы па прычыне атэістычнага светапогляду. Але разам з тым жыхары нашых вёсак адзначаюць і выхаваўчую ролю Свячы: "Тады ж мужчына не ругаіцца, еслі "Свяча" ў домі. Ругацца – ета ж бальшы грэх".[107]

Прыняць у сябе дома Свячу лічылася вялікім гонарам і было сведчаннем даверу з боку аднавяскоўцаў. Так, у вёсцы Янова чалавек, які жадаў прыняць Свячу, звяртаўся да грамады: "Госпадзі! Даверця Божаю Свячу мне! Паверця мне!"[108] Такім жа чынам вылучаецца і рытуальная чысціня тых, хто мог пераносіць Свячу: напрыклад, вызначаюцца "дзеці", "дзеўкі", "муж" і "жонка". У лакальных варыянтах не маглі пераносіць Свячу "ўдовы" і "разжонцы" – практычна тыя ж самыя людзі, якім не давяраліся рытуальныя дзеянні, што ўплывалі на стан гаспадаркі і вынікі сельскагаспадарчай працы – першы зажон і першая дойка пасля ацёлу.

Вызначэнне жадання прыняць у сваім доме Свячу, апісанае намі на прыкладзе в. Янова, з'яўляецца, бадай, самым распаўсюджаным у нашых вёсках. Адметным выглядае тое, як гэта адбывалася ў в. Шарсцін: жанчына, якая мелася ўзяць да сябе Свячу ў наступным годзе, у дзень пераносу яе да новых гаспадароў пакрывала абраз сваім рушніком. І выглядае гэта наступным чынам: "Еслі хто хоча ў міне ўзяць, дак ён прыдзя на дзясятую пятніцу і вешая рушнік, што мой будзя рушнік вісець, пакуль прынясуць. Проста, штоб большы нікаму ні мелася даваць. І той рушнік у міне будзя год вісець. А тады тая жэншчына прыходзіць, і людзі пераношаюць ікону на дзясятую пятніцу. Вячэра будзіць у міне, а тэй, хто ўжэ забірая ікону, абед дзелая. Хазяйка зная ўжэ, ета рушнік павесіла тая, што яна будзя браць... Ка мне... Большы ніхто... А тады будзі-

---

[107]Ад п-кі з п. Ляда Веткаўскага р. Грыньковай Анастасіі Іванаўны, 1931 г. н., зап. Раманава Л.Д. у 2000 г. у Ветцы. Сш. 62. Ар.108.
[108]Ад ж-кі в. Янова Веткаўскага р. Малашанка Соф'і Харытонаўны, 1924 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2008 г. Сш. 100. Ар. 21.

ця браць ад іе”.[109] Своеасабліва грунтоўнасць намераў узяць Свячу вызначалася ў в. Лагуны Добрушскага р.: “Раньшэ атпраўлялі, і вічэру дзелалі... Вот, напрымер, міне жэншчына сказала, што я буду ў цібе забіраць Свячу. Прынесла мне хлеб і сказала, што я буду забіраць Свячу. Ну, мол, загадзей я прынясу ўжэ хлеб, што б я, напрымер, знала, што жэншчына ў міне біроць. Удруг другая захоча, а ета первая ўжэ прынісла хлеб і мне сказала, што я буду ў цібе забіраць Свячу”.[110]

Аднак трэба адзначыць, што ўсё гэта адбываецца, калі з цягам часу траекторыя руху Свячы становіцца больш вольнай. Яе можна ўзяць проста па жаданні: праз дом-праз два, на іншую вуліцу і т. п. Аднак жыхары нашых вёсак памятаюць часы, калі Свяча лічылася “рядавой іконай”. Яна без усялякай хаатычнасці была павінна абысці “ўряд” усе дамы пэўнай прасторы: вуліцы, вёскі і г. д., як, напрыклад: “Ета ікона была “рядавая”. Во, у нас год стаіць. На другі год іе Малахава бярэ. Хоча ні хоча, ну, ужо Малахавы бяруць. Вот так вот у ряд, у ряд і ідзець па вуліцы. Пройдзя ўсе двары, тады на другую вуліцу пераключыцца. Ён і кажа: “Я па стараму закону браў, па стараму і аддам. Прыдзя тоя ўрэмя, я спраўлю абед, людзей пазаву, адслужаць службу ў мяне, тады бяры”.[111]

Уся атрыбутыка Свячы лічылася магічнай. Гаспадары дома, у якім адбываўся абрад, і іншыя ўдзельнікі абраду бяруць з сабой і беражліва захоўваюць зерне, у якім стаіць свечка, кавалкі тканіны, у якую яна апранута, расліны, салому і таксама кавалкі тканіны, па якіх пераносілі Свячу, недагаркі маленькіх свечак. Усё гэта потым выкарыстоўваецца ў іншых абрадах: земляробчых і жывёлагадоўчых, хатніх і метэаралагічных, сямейных і лекавых. Па вызначэнні жыхароў нашых вёсак, яно “Божае”: “Божая саломка”, “Божая адзёжка” − яно “каля Бога ляжыць”.

Найбольш празрыста гэта, на наш погляд, прасочваецца на прыкладзе “свячных” тканін. Вызначэнне носьбітамі традыцыі іх як “Божай адзёжкі” і выкарыстанне яе ў лекавых абрадах дае

[109]Ад ж-кі в. Шарсцін Веткаўскага р. Чуяшковай Ганны Данілаўны, 1927 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2009 г. Сш. 126. Ар. 13.

[110]Ад ж-кі в. Лагуны Добрушскага р. Міхедавай Марыі Харытонаўны, 1930 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2011 г. Сш. 139. Ар. 1.

[111]Ад ж-кі в. Казацкія Балсуны Веткаўскага р. Давыдзенка Варвары Барысаўны, 1925 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2006 г. Сш. 99. Ар. 104.

падставы ўбачыць узор гэтай з’явы ў апісаным у “Евангеллі” цудзе ачуньвання жанчыны, якая шмат год пакутавала на крывацёк. Вылячылася яна дзякуючы таму, што дакранулася да адзення Ісуса Хрыста (Марк, 5, 25-34; Лука, 8, 43-48; Матфей, 9, 20-22). На падставе падзеі, якая апісваецца ў “Евангеллі”, у асяроддзі жанчын з нашых вёсак ствараецца своеасаблівы ўзор лекавага рытуалу з выкарыстаннем “Божай адзёжкі”. Выглядае гэта наступным чынам: “Ісус Хрыстос, еслі ты датронуўся да краячка яго адзежы, і ўсё будзя харашо. Толькі ні хіці душой ніпраўду, а праўду толькі скажы. Еслі за краячку адзёжы Ісуса Хрыста датронецца, значыць, яму толькі польза будзя. Толькі польза будзя! [*Вы сказалі, калі ўзяцца за краёк адзення Хрыста, а як гэта разумець?*] А вот так. І там у яго ё... Прызнак іздзелаць, такі прызнак. [*А як узяцца?*] У Госпада Бога ўсюдах ё, і ў кніжках, і на іконі ё Ісус Хрыстос прызнак. Вот ён сядзіць, а вы, вот так к прымеру, во, ета чылавек, а ты к етаму, во, і к краёчку, дзе даўжна быць пала, прыткніся і малісь, і малісь толькі “Вотчу” – “Вотча наш”. Ета толькі Гасподзь адзін паможа”.[112]

Салому, кветкі, галінкі елак збіралі і выкарыстоўвалі ў лекавых абрадах. Лекавымі лічыліся і свечачныя недагаркі, і тканіны, якія пабывалі на Свячы. Імі перавязвалі хворыя месцы. Елачныя галінкі, па якіх праносілі Свячу, клалі ў бурты і паграбы, каб засцерагчы сабраны і нарыхтаваны на зіму ўраджай ад грызуноў. Зерне з падсвечнікаў дадавалі ў першы пасеў. З дапамогай недагаркаў са Свячы засцерагалі свае дамы ад пажару. Для гэтага іх прыносілі з сабой і клалі на Кут.

Абагульняючы свае меркаванні аб ролі Свячы, жыхары нашых вёсак вызначаюць: “Если Свеча в доме, несчастья обойдут этот дом”.[113] “Счыталась, еслі ў каво нахадзіцца Свіча ў доме, то эта сахраняіт і дом, і благапалучые сям’і. Эта счыталась бальшым дастаяніем”.[114] “Эта ікона даёт какое-та благапалучые ў домі”.[115]

---

[112]Ад ж-кі в. Бабічы Чачэрскага р. Радзькоўскай Наталлі Ягораўны, 1929 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2009 г. Сш. 130. Ар. 4.

[113]Ад п-кі з в. Старое Закружжа Веткаўскага р. Лістападавай Валянціны Мікалаеўны, 1947 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2005 г. у в. Пакалюбічы Гомельскага р. Сш. 54. Ар. 69.

[114]Ад ж-кі в. Лапічы Буда-Кашалёўскага р. Барадзіной Маі Сцяпанаўны, 1944 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2010 г. Архіў аўтара.

[115]Ад ж-ак в. Капань Рэчыцкага р. Філончык Таццяны Мікалаеўны, 1940 г. н., Вярэнка Яўгеніі Сямёнаўны, 1938 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Архіў аўтара.

У сваю чаргу, як пацверджанне гэтаму, мы можам прывесці некалькі зафіксаваных намі мясцовых аповедаў аб цудадзейным выратаванні дамоў падчас стыхійных навалаў, дзякуючы менавіта прысутнасці Свячы.

“Міне ета ікона спасла. У міне б усё ў хаце пагарэла, можа б, і хата згарэла. Сільна бальшая была граза, мы там, у калідорі схуваліся, сядзім, граза гріміць, чорна, не відна нічогінька, і как грімянула, ускочыла ка мне ў хату малання ета. І што ж вы думаіця? Па праваду, у міне пробкі аўтамацічэскія, пріязжала камісія, праверялі, пробку тую разбіла на трі часці граза, спаліла цілівізар, згарэў пріёмнік на сцяне, разбіла ціліхвон, правады аббегла, кускамі выхватывала − гарэлі: тут згарэў − тут праміжутак, тут згарэў... Прыехала камісія. Шторы да самай зямлі і правады ліжалі − мінутная дзела: успыхнуць − і пажар. Так адзін і гаворя, самы, наверна, глаўны па свету, падышоў, стаў, да і глядзіць на ікону: “Баб, ідзі сюда!” Я падышла: “У чом дзела?” − “Вот, вас эта ікона спасла. Тут адна сікунда − у вас бы ўсё пагарэла!” Ужо пад цілівізарам клеёнка, кусок выгарэў мамінтальна, а мы ў калідорі схуваліся і сядзім, адчынілі дзвері: “Што й та тут такоя!?” І, во, глядзіця: Троіца, дак збіраім жа травы, сцелім разныя, пасохла ў міне траўка, дак я звізала пучочкам, да туды пад Кут. І тут былі цвяты сухія, рогаз (рогаз − явар), і провад гарэў. “Во, − гаворя, баб, тут ба счас эты пук загарэўся сухога, і ўсё б згарэла”. І паказывая: “Вас эта ікона спасла”.[116]

“У тысча дзевяцьсот сорак сідмом гаду гарэла дзірэўня Барталамееўка. А патом пажар унічтожыў две уліцы. І кагда дашоў пажар да цэркві, цэркаў асталася нетронутая пажаром, і перакінула на ўтарую старану уліцы, гдзе не была цэркві, і дагарэла да канца ўліца. А эта старана, гдзе цэркаў была, асталася не тронутая. У нас, у дзірэўні, быў святы Мікола Чудатворэц, яго пачыталі, і быў прыстольны празнік, усягда празнаваўся − у маі − дваццаць утарога, і дзівятнаццатага дзікабра. А кагда ўжэ цэркаў разбурылі, здзелалі з цэрквы клуб, людзі сталі маліцца ў дамах, сталі перанасіць ікону “Міколу Чудатворца”, хто пажалае з жыцілей дзірэўні.

[116]Ад ж-кі в. Вялікія Нямкі Веткаўскага р. Самусевай Таццяны Фядосаўны, 1930 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 125. Ар. 1.

І ўстраівалі абед, маліліс Богу. Пачыталі святога Мікалая Чудатворца. Патом ікона асталась у Шэвялевай Ганны. І яна ў іх была, пакудава Чырнобаль. Кагда гарэла дзірэўня, мне была пяць лет, я помню, как агонь перакінууўся чэраз цэркаў, на другую сторану. Начала другая старана ўліцы гарэць, а гдзе цэркаў − асталась".[117]

З канца 1980-х гадоў Свяча паступова пачынае страчваць сваё значэнне. У большасці нашых вёсак абрад захаваўся ў скарочаным варыянце. Па шмат гадоў Свечы не пераносяцца і знаходзяцца ў адным доме. Адпаведна, што ў адным доме адбываюцца падзеі і першага, і другога дня.

На першы погляд прычыны такога заняпаду абраду відавочныя і ляжаць на паверхні. Па-першае, у вёсках сталі ўзнаўляцца храмы, куды ўрэшце рэшт і трапляюць шануемыя абразы. У гэтым плане адносна пашанцавала Неглюбцы, жыхары якой вярнуліся да свайго першапачатковага рытуалу браць Свячу на пэўны тэрмін з храма. Па-другое, носьбіты традыцыі аказаліся матэрыяльна абмежаванымі і элементарна не маюць сродкаў, каб выконваць абрад "па-старыннаму".

І, безумоўна, свой унёсак дадала і аварыя на ЧАЭС: "І Свяча б была і ціпер бы, еслі б не параз'язджаліся ўсе людзі. І ціпер бы і Свечы былі. Ета ў нас былі, і ў Закружжы былі, і ў Марозаўцы − усюды бы былі Свечы. А раз'ехаліся − там пустоя поля. Ужо німа нікога. І Стрялу б вадзілі. Кажды год вадзілі".[118] Свечы асобных вёсак зніклі разам з вёскамі.

Тым не менш, падчас размоў з намі асобнымі носьбітамі традыцыі не аднойчы выказвалася думка, што першапрычына заняпаду абраду − у страце духоўнасці, страце пераемнасці старэйшых і маладзейшых пакаленняў. І мы не можам з гэтым не пагадзіцца. За апошнія дзесяцігоддзі выхаваліся цэлыя пакаленні, для якіх народныя абрады і спевы не з'яўляюцца прадметам гонару за сваю сям'ю, свой род, сваю вёску.

У апошні час супрацоўнікам Веткаўскага музея не аднойчы прыходзілася не толькі размаўляць з носьбітамі традыцыі, а не-

[117]Ад ж-кі в Вялікія Нямкі Веткаўскага р. Самусевай Таццяны Фядосаўны, 1930 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 125. Ар. 1.

[118]Ад п-кі з в. Амяльное Веткаўскага р. Грэцкай Варвары Аляксандраўны, 1925 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2012 г. Сш. 117. Ар. 346.

пасрэдна прымаць удзел у абрадзе. І мы можам сведчыць, што ўдзельніцамі абраду з'яўляюцца ў асноўным жанчыны 1920 – 1930-х гадоў нараджэння. І зноў Свяча паўтарае пэўныя вехі сваёй гісторыі. Гэтыя жанчыны сваёй апантанасцю, сваім стаўленнем да традыцыі нагадваюць чальцоў тых самых першых "свечачных брацтваў", якія гуртаваліся вакол храмаў. Гэтых жанчын таксама калісьці згуртаваў храм, дзе яны разам спявалі ў хоры. Як сведчаць яны самі, "нас людзей мала саўсім. Ета нас пяць чылавек пеўчых, шэсць, чатыры ўжэ асталіся".[119]

Менавіта гэтыя жанчыны ў часы так званай "перабудовы" сталі ініцыятарамі, а затым самымі актыўнымі ўдзельнікамі працэсу ўзнаўлення храмаў у сваіх вёсках. Гэтыя жанчыны калісьці згуртаваліся вакол храма. І, сапраўды, яны праяўляюць самае клапатлівае стаўленне да сваіх сябровак. Яны разам рыхтуюцца да Свячы: прыбіраюць у хаце, дзе знаходзіцца Свяча, гатуюць вячэру і абед і разам не толькі выконваюць абрад, але і збіраюцца каля Свячы па ўсіх дванадзясятых святах, памінальных днях (у асобных дамах, дзе знаходзяцца Свечы, нам нават даводзілася бачыць пакінутыя на захаванне "кніжачкі" і "лісточкі" з імёнамі памерлых родзічаў) і на нядзельныя набажэнствы. Яны, як некалі хадзілі па прастольных святах, так і цяпер, у каго хапае здароўя, ходзяць на Свечы ў суседнія вёскі. З агляднага часу яны ўзгадваюць, як на Свячу "набіваліся поўныя хаты людзей".

Падчас нашай прысутнасці на абрадзе мы амаль не бачылі там дзяцей, хіба што гаспадарскіх, але не аднойчы чулі ўспаміны гэтых жанчын, як яны ў свой час разам з бабулямі хадзілі на святкаванне Свячы, як стаялі перад падсвечнікамі, якія былі вышэйшыя за іх.

Але разам з тым яны ўспамінаюць гады, калі дзяржаўная ўлада знішчала народную культуру: калі людзей "адвучалі хрысціцца і маліцца", забаранялася не толькі адзначаць вялікія рэлігійныя святы, але нават "хадзіць па шчодрах" у Каляды і на могілкі на Радуніцу, дзеці школьнага ўзросту нават баяліся выйсці на вуліцу з пафарбаваным яйкам. Абрад "Свяча" ў гэтым плане не стаў выключэннем, яго знішчэнне адбывалася ў тым самым кантэксце.

[119]Ад ж-кі в. Старое Сяло Веткаўскага р. Дзярбеевай Валянціны Міхайлаўны, 1939 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2007 г. Сш. 101. Ар. 25.

Станоўчыя выключэнні ўзнікаюць там, дзе на належным узроўні аказалася сямейнае выхаванне, дзе, а гэта першаснае, прадстаўнікі старэйшых пакаленняў ва ўмовах нараджэння “новай культуры” змаглі захаваць назапашанае стагоддзямі традыцыйнае і выхаваць павагу да яго ў сваіх дзяцей і ўнукаў, дзе соцыум сям’і аказаўся вышэйшым за грамадскі соцыум, дзе выканаць старажытны абрад разам з маці, дапамагчы ёй у падрыхтоўцы да гэтага абраду, значыць, у вышэйшай ступені праявіць любоў і павагу да яе. Дзе існуе ўяўленне аб тым, што ўдзел ў абрадзе – гэта не пустая трата сродкаў і намаганняў, а духоўнае ўзбагачэнне, дзе традыцыйнае ўспрымаецца як родавае, дзе ад прадстаўнікоў маладога пакалення можна пачуць наступнае: “Вот, напрымер, хай маць жывёт, еслі ўжо маць умрёт, я забяру ікону Свячу. Ідзець чэряз пакаленіе”.[120]

# Крыніцы:

1. Матэрыялы этнаграфічных экспедыцый Веткаўскага музея стараабраднiцтва і беларускіх традыцый.

2. Афанасьев, А.Н. Народ-художник / А.Н. Афанасьев. – Москва: Советская Россия, 1986. – 368 с.

3. Афанасьев, А.Н. Поэтические воззрения славян на природу. В трёх томах / А.Н. Афанасьев. – Москва: Современный писатель, 1995. – Т.3. – 416 с.

4. Афанасьев, А.Н. Поэтические воззрения славян на природу. В трёх томах / А.Н. Афанасьев. – Москва: Современный писатель, 1995. – Т.2. – 400 с.

5. Братчина святителя Николая при витебской Іліинской церкви // Полоцкие епархиальные ведомости. Отдел неофициальный. – 1875. – № 24. – С. 880–884.

6. Виноградов, Л. Гомель. Его прошлое и настоящее. 1142–1900 г. / Л. Виноградов. – Москва: Типографія Н.Н. Шарапова, 1900. – 48 с.

[120] Ад ж-кі в. Вялікія Нямкі Веткаўскага р. Кавальковай Ніны Міхайлаўны, 1958 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2007 г. Сш. 125. Ар. 3.

7. Даль, В.И. Толковый словарь живого великорусского языка. / В.И. Даль. − Москва: Русский язык, 1993. − Т. IV. − 681 с.

8. Дмитриев, М.В. Между Римом и Царьградом: Генезис Брестской унии 1595–1596 гг. / М.В. Дмитриев. − Москва: Издательство Московского университета, 2003. − 320 с.

9. Добровольскій, Владимиръ. Значеніе народнаго праздника “Свечи” / В. Добровольскій // Этнографическое обозреніе. Изданіе Этнографическаго Отдела Императорскаго Общества Любителей Естествознанія, Антропологіи и Этнографіи. Год 12-й. Кн. XLIV. / Под ред. Н.А. Янчука. − Москва, 1900. − № 4. − С. 35−51.

10. Жудро, Ф. Свеча − белорусский церковно-бытовой праздник / Ф. Жудро // Могилёвские епархиальные ведомости. − 1893. − № 13. − С. 232−236.

11. Зеленин, Д.К. Восточнославянская этнография / Д.К. Зеленин. − Москва: Наука, − 1991. − 511 с.

12. Ігнатоўскі, У.М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі / У.М. Ігнатоўскі. − Мінск: Беларусь, 1991. − 190 с.

13. Коринфский, А.А. Народная Русь / А.А. Коринфский. − Москва: Издание книгопродавца М.В. Клюкина, 1911. − 368 с.

14. Лапацін, Г.І. Аб шлюбных матывах у земляробчых абрадах на Веткаўшчыне / Г.І. Лапацін // VIII Міжнародныя навуковыя чытанні, прысвечаныя Сцяпану Некрашэвічу. Зборнік навуковых артыкулаў: у дзвюх частках. Ч. 2. / Рэдкал. А. А. Станкевіч [і інш.]. − Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны. − 2007. − С. 205−210.

15. Лапацін, Г.І. “Свяча” як боства, якое паміраe і ўваскрасае / Г.І. Лапацін // “Скарына і наш час”, V Міжнарадная навуковая канф. (2011, Гомель), Міжнародная навуковая канферэнцыя “Скарына і наш час”, 14−15 кастрычніка 2011 г. [Матэрыялы]. / Рэдкал.: А.А. Станкевіч (гал. рэд.) [і інш.]; − М-ва адукацыі РБ, Гомельскі дзярж. ун-т імя Ф. Скарыны. − Гомель: ГДУ імя Ф.Скарыны, 2011. − С. 216−227.

16. Лапацін, Г.І. “У нас песні праз мяжу не ідуць...” Аб культуры выканання абрадавых тэкстаў/ Г.І. Лапацін // Палявая фальклярыстыка і этналогія. Даследаванне лакальных культур Беларусі / Уклад. І.Ю. Смірновай. − Мінск: БДУКіМ, 2008. − С. 143 −149.

17. Лапацін, Г.І. Абрад “Свяча” ў вёсцы Капань Рэчыцкага раёна / Г.І. Лапацін // “Шостыя навуковыя Доўнараўскія чытанні”, Міжнародная навуковая канферэнцыя, 14−15 лістапада 2007 г. : у 2 ч. Ч. 2: Рэчыца ў часе і прасторы: 795 год заснавання горада /В.М. Лебедзева (адк. рэд. [і інш.] − Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2008. − С. 24−29.

18. Лапацін, Г.І. “...штоб вышэй угору...” Канцэпцыя падводу ў фальклорнай традыцыі / Г.І. Лапацін // Аўтэнтычны фальклор: праблемы захавання, вывучэння, успрымання: зборнік навуковых прац удзельнікаў VI Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі (Мінск, 27−29 красавіка 2012 г.) / БУДКМ; Рэдкал.: Мажэйка М.А. (адк. рэд) [і інш.]. − Мінск: БУДКМ, 2012. − С. 179−192.

19. Ларин, Б.А. История русского и общего языкознания (Избранные работы) / Б.А. Ларин. − Москва: Просвещение, 1977. − 224 с.

20. Легенды і паданні / Склад. М.Я. Грынблант і А.І. Гурскі. − Мінск: Навука і тэхніка, 1983. − 544 с.

21. Лопатин, Г.И. “Похараны есць похараны...” / Г.И. Лопатин. − Живая старина, 2012. − № 3. − С. 44−46.

22. Максимов, С.В. Нечистая, неведомая и крестная сила / С.В. Максимов − СПб.: ТОО Полисет, 1994. − 415 с.

23. Мельников, А.А. Путь печален. Исторические свидетельства о святости Белой Руси / А.А. Мельников. − Издание Белорусской православной церкви Московского патриархата, 1992. − 308 с.

24. Некрашэвіч, С.М. Да пытання аб укладанні слоўніка жывой беларускай мовы / С.М. Некрашэвіч // Выбраныя навуковыя працы акадэміка С.М. Некрашэвіча: Да 120-годдзя з дня нараджэння. − Мінск: Беларуская навука, 2004. − 190 с.

25. Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Веткаўскага р-на : у 2 кн. Кн. 1. − Мінск.: БЕЛТА, 1997. − 376 с.

26. Пономарьов, А.П., Артюх, А.Ф., Космiна, Т.В. Українська минувшина: Ілюстрований етнографічний довіднік /А.П. Пономарьов, А.Ф. Артюх, Т.В. Космiна. − Київ: Либідь, 1994. − 256 с.

27. Смирнова, Э.С. Живопись Великого Новгорода. Середина XIII – начало XV века / Э.С. Смирнова. − Москва: Наука, 1976. − 390 с.

28. Смоленский областной словарь / Составил В.Н. Добровольский. − Смоленск: Типография П.А. Силина, 1914. − 1022 с.

29. Уния в документах / Сост. В.А. Теплова, З.И. Зуева. − Минск: Лучи Софии, 1997. − 520 с.

30. Харузина, В.Н. К вопросу о почитании огня / В.Н. Харузина // Этнографическое обозрение. − 1906. − № 3−4. − С. 76−77. Прыводзіцца па публікацыі: Токарев, С.А. Символика огня в истории культуры / С.А. Токарев // Этнографическое обозрение. − 1999. − № 5. − С. 38−42.

31. Цярохін, С.С. Перунова цяпельца: Эсэ, ці некалькі згадак з гісторыі нашага народа / С.С. Цярохін − Мінск: Юнацтва, 1993. − 126 с.

32. Цейкін, У.У. Хальч: Краязнаўчы нарыс / Цейкін У.У. − Мінск: Пейто, 2000. − 60 с.

33. Цейкін, У Polska Vetka / У. Цейкін // Голас Веткаўшчыны. − 2010. − 24 снежня. − С. 3.

34. Этнаграфія Беларусі: Энцыкл. (Беларус. Сав. Энцыкл.; Рэдкал.: І.П. Шамякін (гал. рэд. і інш)) − Мінск: БелСЭ, 1989. − 575 с., іл.

Дадатак 1

# Апытальнік па збору матэрыялу па абраду "Свяча"

## I. Уводзіны: агульныя пытанні, тэрміналогія

1. Ці быў ў вашай вёсцы абраз, які пераносілі з хаты ў хату? Напрыклад, год яна знаходзіцца ў адной хаце, праз год яе пераносяць у іншую.

2. Дослед вывучэння абраду паказвае, што калі інфарманты станоўча адказваюць на дадзенае пытанне, то самі называюць дзень (дні, калі такіх абразоў было некалькі), калі адбываецца гэты перанос. Калі гэта не было сказана інфармантамі, неабходна ўдакладніць, па якіх днях адбываўся абрад. Ці лічыцца гэты дзень прастольным святам?

3. Калі ў сваім адказе на першае пытанне інфарманты самі не вызначылі, што гэта была Свяча, наступнае пытанне можа выглядаць прыкладна так: "У іншых вёсках (звычайна называюцца суседнія населеныя пункты) кажуць, што ў іх была нейкая ікона, якая завецца Свяча". У вышэйшай ступені важна, каб слова Свяча было сказана непасрэдна інфармантамі.

4. Калі інфарманты адказваюць, што ў іх таксама Свяча, наступнае пытанне ставіцца прыкладна так: "Як у вас казалі: "Пайсці на Свячу" ці "Пайсці да іконы"?

5. Што сабой уяўляе атрыбутыка Свячы: толькі ікона ці пры ёй была нейкая асаблівая свечка? Калі ёсць магчымасць, неабходна сфатаграфаваць, замаляваць і да т. п.

## II. Гісторыя. Легенда

1. Калі Свяча з'явілася ў вёсцы? Якія падзеі сталі прычынай яе з'яўлення? Яе "заснавалі ўсёй грамадою" ці гэта зрабіў адзін чалавек?

2. Як гэта адбывалася? Што пра гэта распавядалі людзі старэйшага пакалення: маці, бабуля, суседзі?

## III. Атрыбутыка

1. Ікона

1.1. Дзе была ўзята ікона, якая стала Свячой? Яе набылі, замовілі ў іканапісца, інш.

1.2. Як выглядаў абраз: памер, вонкавы выгляд (аднастворкавая, трохстворкавая, у ківоце).

2. Свечка

2.1. Як выглядала свечка, калі яна была пры гэтай іконе: яе памер, знешні выгляд?

2.2. Хто вырабляў свечку: старыя гаспадары, новыя гаспадары і да т.п.?

2.3. У чым яна стаяла: у падсвечніку, у ёмістасці са збожжам ці інш? Калі ў ёмістасці са збожжам, то з якім: жыта, пшаніца, інш. Ці існавалі пэўныя абмежаванні і забароны ў выбары збожжа?

3. Тканіны

3.1. Ці былі абраз і свечка нейкім чынам пакрыты (аздоблены) тканінамі: напрыклад, ручнікамі?

3.2. Ці лічыліся гэтыя тканіны “адзеннем”? Калі на дадзенае пытанне атрыманы станоўчы адказ, неабходна ўдакладніць, па якой модзе апраналі Свячу.

3.3. Хто апранаў Свячу: старыя гаспадары ці новыя? Ці перадавалася старое “адзенне” разам са Свячой?

3.4. Ці існавала традыцыя пераапранання Свячы на працягу года? Як гэта суадносілася з пастамі і святамі? Ці існавала адмысловае “свечачнае” адзенне для посту і для Вялікадня?

3.5. Што рабілі са старым адзеннем?

## IV. Траекторыя абраду

1. Якім чынам Свяча хадзіла па вёсцы: у абавязковым парадку запар з хаты ў хату ці яе бралі па жаданні?

2. Свяча належала ўсёй вёсцы ці яе асобнай частцы, вуліцы, краю? Ці можна было перадаць “сваю” Свячу на іншую вуліцу?

3. Ці існаваў звычай падчас пераносу асвячаць пасевы, статак, асобныя хаты?

## V. Удзельнікі абраду

1. Калі Свяча перадавалася не ў абавязковым парадку ў кожную хату, а яе бралі па жаданні, то па якой прычыне чалавек жадаў прыняць яе ў сябе?

2. Якімі словамі ці дзеяннямі выказвалі гэта жаданне? Ці існавалі для гэтага пэўныя вербальныя формулы?

3. Па абрадзе Свячу бралі ў хату строга на адзін год ці маглі ўзяць на некалькі гадоў? Калі адказваюць, што “на некалькі гадоў”, неабходна ўдакладніць, у якім выпадку гэта дапускалася.

4. У якіх выпадках дазвалялася ўзяць Свячу па-за чаргой?

5. Якія былі патрабаванні (маральныя, рытуальныя, іншыя) да хаты, да сям’і, куды перадавалася Свяча? Ці былі людзі, якім Свяча не давяралася: напрыклад, п’яніцы, забойцы і г. д.?

6. Ці жылі ў дадзеным населеным пункце былыя “насельнікі” манастыроў? Як яны ставіліся да Свячы?

7. Як ставіліся да Свячы святары найбліжэйшых храмаў? Ці ўдзельнічалі святары ў абрадзе?

## VI. Перанос Свячы

1. Дадзенае пытанне ставіцца наступным чынам: напрыклад, Свяча знаходзіцца ў вас, яе забірае суседка, распавядзіце, як гэта адбывалася: як прыходзілі, калі прыходзілі, што казалі? Досвед вывучэння абраду паказвае, што ў большасці населеных пунктаў перанос Свячы адбываўся на працягу двух дзён, таму неабходна ўдакладніць падрабязнасці першага дня (у хаце ў старых гаспадароў) і падрабязнасці другога дня (у хаце ў новых гаспадароў). Гэтак жа неабходна ўдакладніць, у які час пачыналіся дзеянні першага дня і дзеянні другога дня.

2. Дослед вывучэння абраду паказвае, што ў большасці населеных пунктаў увечар першага дня адбываліся набажэнства і “вячэра”, а назаўтра адбываліся набажэнства і абед. Варта ўдакладніць, што чыталі (якія тэксты) на першы дзень і на другі дзень. Якая літаратура знаходзілася ў карыстанні ўдзельнікаў абраду? Яе паходжанне: яна набывалася ўдзельнікамі абраду, дасталася ім па спадчыне, засталася з зачыненых храмаў?

3. Ці адрозніваліся стравы ў посныя і скаромныя дні? Таксама неабходна запісаць стравы першага і другога дня. Ці былі абавязковыя стравы? Ці былі стравы і напоі (напрыклад, спіртныя), якія на Свячы не ўжываліся?

4. Хто пераносіў Свячу: мужчыны, жанчыны; старыя, маладыя; удовы, замужнія, жанатыя? Якія да іх прад'яўляліся патрабаванні: маральныя, рытуальныя?

5. Ці залежала гэта ад таго, з якой выявай (жаночай ці мужчынскай) была ікона?

6. Якім быў парадак шэсця, што за чым неслі, напрыклад: абраз, свечка, іншая атрыбутыка (хлеб-соль і інш.)?

7. Дзе адбывалася сустрэча старых і новых гаспадароў Свячы: на варотах, ля ўваходу ў хату, інш.?

8. Як сябе вялі старыя і новыя гаспадары Свячы: кланяліся адзін аднаму, цалаваліся, мяняліся хлебам, інш.? Кім яны сябе ўсведамлялі па стаўленні адзін да аднаго? Напрыклад, у в. Неглюбка Веткаўскага р. яны называлі адзін аднаго "свацейкамі".

9. Як адчувалі (паводзілі) сябе тыя, хто аддаваў і хто прымаў Свячу: плакалі, радаваліся?

10. Ці існаваў звычай высцілаць дарогу на шляху Свячы? Калі адказ станоўчы, то чым высцілалі: саломай, кветкамі, тканінамі? Ці збіралі гэтыя салому, кветкі, тканіны для таго, каб выкарыстоўваць іх, напрыклад, у лекавых мэтах, метэаралагічных (ад навальніцы, ад пажару, ад маланкі) абрадах?

11. Ці праносілі Свячу над хворымі людзьмі?

## VII. Свяча ў хаце: на працягу года

1. Па якіх днях прыходзілі жыхары вёскі ў хату, дзе знаходзілася Свяча: толькі ў дзень пераносу ці яшчэ па нядзелях, святах, памінальных днях?

2. Ці выконвалі ў той хаце, дзе знаходзілася Свяча, царкоўныя абрады і таемствы: вадохрышча, шлюб, асвячэнне вады, хлеба, кветак, пладоў?

3. Ці выносілі Свячу на працягу года для выканання аказіянальных абрадаў: выклікання дажджу, у выпадку эпідэміі і г. д.?

## VIII. Дамавыя Свечы

1. Ці існавалі ў населеным пункце разам са Свячой дамавыя аброчныя іконы, гаспадары якіх выконвалі ў сябе ўсе “свячныя” абрады, але ікона не пераносілася?

2. Калі адказ станоўчы, то неабходна ўдакладніць, як гэта ікона ўсведамляецца мясцовымі жыхарамі: як Свяча ці проста як аброчная?

## IX. Сучасны стан абраду

1. Улічваючы дослед вывучэння абраду, які паказвае, што ў апошні час Свечы ў большасці населеных пунктаў не пераносяцца, а па шмат гадоў знаходзяцца ў адной хаце, неабходна запытаць: па якой прычыне Свячу больш не пераносяць?

2. Як характарызуюць мясцовыя жыхары людзей, якія па шмат гадоў захоўваюць Свячу ў сваёй хаце?

3. Ці існаваў звычай перадаваць Свячу ў царкву?

4. Дзе цяпер знаходзіцца Свяча дадзенага населенага пункта?

Дадатак 2

# Матэрыялы экспедыцый Веткаўскага музея стараабраднiцтва i беларускiх традыцый iм. Ф.Р. Шклярава

**1.** ***“Агонь – эта Богу малiцца...”***

Свечка – эта ж агонь. Агонь – эта Богу малiцца. Агонь – эта адкрываiш сваё серцэ, цяпло Богу аддаеш i молiсься. На эты празнiк с адкрытай душой iдуць людзi. Сабiраюцца i молюцца. Перад образам, перад iконай ставiцца, дзелаiцца такая ступка iз дзерiва, патом у воск укатыiцца, уся воскам, а патом наверх надзiёцца плацiцца. Упрыгожваюць крэсьцiкам – украшаюць крэстам. I навiрху на ступку, там жа воск, i прыкрэплiваюцца свечы i гаряць свечы. I людзi прыходзяць i прыносяць пажэртваваньня.

Ад ж-кi в. Пералёўка Веткаўскага р. Малашанка Лiдзii Iльiнiшны, 1932 г. н., зап. Лапацiн Г.I. у 2007. Сш. 57. Ар. 42.

**2.** ***“Па-народнаму называлась «Свяча...»”***

Па-народнаму называлась “Свяча”, а па-цыркоўнаму “Iкона” называлась.

Ад ж-кi в. Неглюбка Веткаўскага р. Дзямчыхiнай Раiсы Васiльеўны, 1935 г. н., зап. Лапацiн Г.I. у 2008 г. Сш. 105. Ар. 111.

**3.** ***“...не iкона – а «Свяча...»”***

Называлась “Свiча”, не iкона – а “Свiча”. Iкона была дапалненiе к Свiчэ. Но основа была – Свiча.

Ад ж-кi в. Лапiчы Буда-Кашалёўскага р. Барадзiной Маi Сцяпанаўны, 1944 г. н., зап. Лапацiн Г.I. у 2009 г. Архiў аўтара.

**4.** ***“I iкона звалась Свячой…”***

“Свяча”, як “Свяча”. I iкона звалась “Свячой”. Другога жнiўня – Iльля. Спраўлялi абед. Свечка – вялiкая, зверху – вужэй, знiзу – шырэй. З воску ляпiлi палкi, як рукi. Гузiкi альбо манеты ўцiскiвалi ў воск, як вочы. Год

была ў доме. Як пераносілі, дарожкі палатняныя сцялілі ад старога дому да другога, хто бярэ. Бабка чытала сама дома, у яе была кніжка тоўстая. Хто абракнуўся забіраць, абед дзелае.

Паводле аповеду п-цаў з в. Пацёсы Веткаўскага р. Булановіча Віктара Аляксеевіча, 1932 г. н., Булановіч Аляксандры Аўраамаўны, 1931 г. н., зап. Лабацкая Г.А. у 1995 г. у Ветцы. Сш. 59. Ар. 4.

**5. *"У народзе так і называлась − Свіча"***

У народзе так і называлась − Свіча. Дажэ не ў нашай дзірэўні, я знаю на Рубежэ (Гомельскі раён). Тожэ такім пуцём. Ані сабіраліся, снасілі кто што мог. Абедалі. Віно была. Не то, што напіваліся. А проста празнічнае настраеніе была.

Ад ж-ра в. Капань Рэчыцкага р. Маеўскага Міколы Рыгоравіча, 1927 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Архіў аўтара.

**7. *"Ета да майго раждзенія…"***

[*Як выбіралі, якая ікона будзя Свячой?*] Я ні знаю, як выбіралі. Ета да майго раждзенія. Ета вікона з трынаццатага года [пра абраз, што знаходзіцца ў доме інфарманта]. Абракаліся і куплялі, заказывалі дзярэўняй ету вікону, а тады пераносілі.

Ад п-кі з в. Гарысты Веткаўскага р. Грамыка Ганны Андрэеўны, 1925 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2006 г. у Ветцы. Сш. 64. Ар. 28.

**8. *"Спакон вякоў..."***

Здзесь была эта, так мне кажыцца, спакон вякоў. Так ано ішло, і цэрквы закрытыя былі, а тут насілі ікону з дому ў дом.

Ад ж-ра в. Гарошкаў Рэчыцкага р. Арцюхоўскага Валерыя, 1953 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Архіў аўтара.

**9. *"Наверна, гадоў трыста..."***

"Нікола" тожы аброчны ў іх. Была тожа такая самая мора (мор. – Г.Л.). Дак я тожы ў іе спрашывала: "Када эта была?" Яна гавора: "Наверна, гадоў трыста. Ішчэ мая мама, ёй ужэ болей, як сто гадоў было, яна ўжэ памерла, да і то гаварыла: "Мая баба, гавора, шчэ хадзілі мы эту ікону глідзець". Дак я ні знаю. Яно ж аднаўрыменна: і эці, і эці абрыкаліс.

Ад ж-кі в. Давыдаўка Гомельскага р. Кісялёвай Клаўдзіі Антонаўны, 1929 г. н., зап. Лапацін Г.І., Скідан А.В. у 2008 г. Сш. 4. С. 12.

**10.** ***“Ета міравая вікона…”***

Мы етыя віконы нікому ні аддадзім, патаму шта ета міравая вікона. Ета аброчны празнік наш.

Ад ж-кі в. Шарсцін Веткаўскага р. Ганчаровай Еўдакіі Яфрэмаўны, 1919 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2009 г. Сш. 123. Ар. 46.

***11. “Купілі ікону і здзелалі абрадным празнікам…”***

Я помню, чаго прыабралі ету Свячу свяціцеля Нікалая. Ета было ў дальніе ўрэмена. Хацелі купіць землі. Харашо старгаваліся. І вот палучылісь купчые. Людзі былі давольные… Згарэў пан. І пан прэдлажыў людзям: “Бярыце ету землю. Будзіця міне памінаць”. У чэсьць етай купчай купілі ікону і здзелалі абрадным празнікам…

Ад ж-к в. Юркавічы Веткаўскага р. Мянковай Марыі Аляксееўны, 1914 г. н., Аўсяйковай Марыі Фёдараўны, 1936 г. н., зап. Лабацкая Г.А. у 1997 г. Сш. 4-відэа. Ар. 2.

**12.** ***“Ета быў касцёл...”***

[*Як будаваўся ваш храм? Для каго ён быў адразу: для праваслаўных ці для каталікоў?*]

Адразу, ета дзед гаварыў Іосіф, ён быў каталічэскі, а патом перайшоў ён у праваславіе. Дзеду ўжо сто адзін год, а яго матка расказыла, ета што так было. Дапусцім, маі радзіцілі не зналі, што ён быў каталічэскі, а па іхняму наследству зналі, а ў нас не. А патом перайшоў у праваславіе. І ён Раждзяства Божай Мацеры.

Мы лазілі з вуліцы, як закрылі яго. А мы ў школу хадзілі, там быў паноў дом, і ў том даму школа была. І мы хадзілі, там чатыры класы былі: первы, утары, трэці, чацвёрты – і мы хадзілі ў школу туда. Са школы ідом, падойдам і к цэркві, і там крыльцо із двара, з ухода – крыльцо. І па етым крыльцу палезім на чардак, а там акно бальшоя на етым фрайтоне, я туда харашо лазіла, адкуль не магу вылезць, старшыя становяцца на чатырох, а я на іх стану і вылязу: і там ляжалі: два, як губка, так вот рызінавыя Адам і Ева такога стальнога цвета. Ляжалі. Куды яны дзелісь, як бурылі, я ж ні знаю.

[*Яны былі, як фігуры?*]

Яны былі, як чылавек, бальшыя, за мяне большыя былі. Я ж пацанка была. Дак я пытаюсь у дзеда Іосіфа ціпер ужо, я ж ні знала: “Што такоя? У нас у цэркві быў Адам і Ева, як рызінавыя?” – “Былі, – гавора. – І ты

знаіш?” Я гавару: “Знаю. У школу хадзілі, дак мы лазілі. Два-тры дні спусцім і зноў: “Ну, пойдам Адама і Еву глядзець?” − “Пойдам”. І зноў палезлі туда глядзець. Дак ён мне расказаў, што ета быў касцёл.

Ад ж-кі в. Шарсцін Веткаўскага р. Чуяшковай Ганны Данілаўны, 1927 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2009 г. Сш. 126. Ар.18-19.

**13.** ***“...ў нас тады змясіла ўсё градам”***

Трыццаць гадоў стаяла. “Пакравіцільніца”. Яна ж у нас у кіоці стаяла бальшая, як вакно. А цяпер жа эту ікону ў міня забралі, гадоў пяць як забралі. Паявілася яна ў нас, я прыблізна ні знаю сколькі ўрэмя, а як градам адбіла на Станках, канюшню папаліла, да ў нас тады змясіла ўсё градам, во тады абракнуліся людзі, у школу я хадзіла, мы ж хадзілі ў Красная забіраць ікону, чэлавек шэсць, можа, гадоў пятнаццаць мне было, сійчас семдзесят, толька тада паявілася ў нас ікона.

Ад ж-кі в. Залаты Рог Веткаўскага р. Нятылькінай Ніны Рыгораўны, 1937 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 123. Ар. 20-21.

**14.** ***“Стрэчанне”***

Казакова з Канатопа прывязла свайго хазяіна, із плена, і абрякла дзелаць “Стрэчаньне”. Яна на Стрэчанне прывязла яго дамоў. І дзелалі, пакуль умярлі. Саседка ўзяла, іздзелала раз, яны думалі, што яна будзя дзелаць, ніхай бы ўжо Свяча ішла, і ніхто не ўзяў па-суседняму. Яны ўзялі назад. І дзелала ўсё ўрэмя. Так Свяча “Стрэчанне” і не пашла.

Ад п-кі з в. Старое Закружжа Веткаўскага р. Кужэльнай Праскоўі Сяргееўны, 1933 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. у Ветцы. Сш. 121. Ар. 15.

**15.** ***“...абрікласся здзелаць Свячу”***

Ішчэ пры мне, ужэ после вайны, во, эта на Ўшэсця што Свяча, жэншчына сама абріклася здзелаць Свячу эту − аброк. Аброк − людзі сабіраюцца, і абед жэншчына гатовя, і моляцца Богу ў этай хаце. [*А чаго яна абраклася Свячу справіць эту − Ушэсце?*] Яе сына ўбілі парцізаны, растрэлялі. Ён работаў у паліцыі. Ішоў парцізанскі атряд з Казацкіх Балсуноў на Перялёўку, а ў нас жа на Ўшэсція тут на цэнтры дзярэўні гуляюць, карагоды водзяць. А потым, после карагодаў, ідуць маладзёж у лес. Маладзёж ідуць, хлопцы, дзяўчынкі, а тут прадвігаўся парцізанскі атряд. У лясу і забралі паліцэйскага этага. З дзяўчынкай ішоў, яны забралі, за дзярэўню завялі і ўбілі, у канаве растрэлялі. Мацъ пахарані-

ла, і абреклася здзелаць Свячу. Свяча тая ўсегда была і была ў іе, покуль яе самае тожа зяць із ружжа застрэліў. Яна нікуды не хадзіла, яна нікаму не аддавала, кожны празнік быў... Свячу тую людзі забралі, сталі ўжэ пераносіць із адной хаты ў другую. Эта ўжэ гады тры ў Ермаковых. Ціпер, еслі ніхто ні бярэ, Свяча астаецца. Ціпер ужэ так: Свяча ў каго ёсць, яна ўжэ будзя да смерці, пакуль ужэ тэй чэлавек памрэ, а тады, еслі німа каму − родственікаў, як у нас на Троіцу матка памёрла, дак дачка забрала, а так ішчэ во на Хряшчэння во этыя людзі, матка памерла, у сына Свяча эта.

Ад ж-кі в. Пералёўка Веткаўскага р. Малашанка Лідзіі Ільінішны, 1932 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007. Сш. 57. Ар. 42-41.

**16.** ***“...і выбралі «Сергія Раданежскага»”***

Вот даўно, ета, можа, і двесці лет, можа, і двесці пійсят, мы ні знаім. Была какая-та мора. Хадзіла. І вот паміралі людзі. І нашы, давыдаўскія, абрыклісь, паследні − Сергій умер ужэ. Ані і начылі іскаць “Сергія”. Паехалі ў цэркаў, а ў нас цэркаў была − Сабор Петрапаўлаўскі. Наш прыход. І паехалі, і выбралі “Сергія Раданежскага”. Выкупілі іго, наверна. Прышлі і нанілі свяшчэнніка, і адслужылі эту Давыдаўку, і хадзілі кажды год на Сергія па дамам, свіцілі дамы.

Ад ж-кі в. Давыдаўка Гомельскага р. Кісялёвай Клаўдзіі Антонаўны, 1929 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2008 г. Сш. 4. С. 11.

**17.** ***“Када-та доўга не было даждзей...”***

Перанасная ікона, эта када-та доўга не было даждзей, людзі абракнуліся, і ў Ільінскую пятніцу прыязжаў свяшчэннік і эту ікону пераносілі. Када-та мая матка сюды прынесла, ішчэ як была вайна, дак матка абракнулася, штоб немцы хату не спалілі, ана перанесла. І ад тых пор ніхто не браў. (*З аднаго боку − Ілля, з другога − Міхайла*). Эта аброчны празнік − Міхаіл. Эта аброчны празнік быў у нашай дзярэўні. Так с адной стараны была Міхайла, а з другой стараны быў Ілля. І ў Ільінскую пятніцу прыязжаў свяшчэннік, і толькі кончылі пераносіць, і пашоў дожч. Эта абракалася ўся наша дзярэўня. Стаяла столікам, і з адной стараны быў нарысован Ілля, з другой − Міхаіл. На чатырёх ножках стаяла. Пераносілі ілі на Ільінскую пятніцу, ілі на Міхайлу. К нам прыносілі ў Ільінскую пятніцу. Но Міхайла прыстольны празнік у нашай дзярэўні. Была Міхайла з самага начала, а патом, када абракнуліся, доўга не было даждзей, ішчэ і Іллю с той стараны. Тады раньшэ насілі кажэн год. Хто пажалае. Я помню,

што жэншчыны неслі. Свяшчэннік ішоў, і неслі. Дзелалі абед, свяшчэннік памоліцца... Матка пераносіла ўжэ сразу з вайны, эта гдзе-та ў сорак чацвертым гаду, дак людзі сабіраліся ўсе: у каго яйцо, хто што, і дзелалі абед, гарэлку ставілі, выпівалі, свяшчэннік памоліцца, і ўсе садзяцца. Называлася "Свяча". *(Сама ікона называлася "Свяча" – паясняе Вярэнка Яўгенія Сямёнаўна).* Там былі падстаўкі медныя, тры галавы, я помню, туды ставілі свечкі.

Ад ж-ра в. Капань Рэчыцкага р. Філончыка Васіля Ігнатавіча, 1928 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Архіў аўтара.

**18.** ***"Эту ікону прынеслі пешшы із Кіева"***

Перанасная ікона – Свяча. Дажэ я слышыла раньшэ, што-та мая бабушка гаварыла. Эту ікону прынеслі пешшы із Кіева. Пешком туда хадзілі людзі і адтудава. Кагда ў дваццаць первам гаду, была паляцкая вайна, сільна гарэла Капань, пачці ўся згарэла, і тагда людзі пашлі ў Кіеў пешком і прынеслі ў дзірэўню эту ікону. А ішчо ў каком-та гаду сільная засуха была, людзі абраціліся ў цэркву і прынеслі ікону Ільы. Настаяшчыя іконы, толька былі састаўлены. Адна – с этай стараны, адна – с этай. А ціпер ужэ тая рамка паламалася, так адзельна стаіць і тая ікона, і тая рядышкам.

Ад ж-кі в. Капань Рэчыцкага р. Вярэнка Яўгеніі Сямёнаўны, 1938 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Архіў аўтара.

**19.** ***"Абрыклісь «Неапалімай купіной»"***

У Асаўцах, два кілометры ад Давыдаўкі. Гарэла дзірэўня часта. А раньшэ ж снапамі крылі, і снапы этыя літалі па ўсей дзірэўні, і вот ані рышылі, абрыклісь "Неапалімай Купіной". Ані абрыклісь і ўзялі эту ікону, "Неапалімую Купіну", і как какой толька ўжэ какой пажар, ані з іконай ідуць, абхаждзеніе дзелаюць.

Ад ж-кі в. Давыдаўка Гомельскага р. Кісялёвай Клаўдзіі Антонаўны, 1929 г. н., зап. Лапацін Г.І., Скідан А.В. у 2008 г. Сш. 4. С. 12.

**20.** ***"Немцы ўступілі ў пятніцу..."***

Немцы ўступілі ў пятніцу. Быў Спас. І асталіся мы ўсе цэлы, жывы. Вот і абракнуліся на тую ікону – "Пятніцу".

Ад ж-кі в. Калініна Гомельскага р. Барабанавай Любові Піліпаўны, 1932 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2009 г. Сш. 4. С. 20.

**21.** ***“В дзірэўні былі пажары...”***

Я так знаю, как маі прэдкі расказывалі: адкуда ў нас пашла “Купіна” – празнік эты. В дзірэўні былі пажары, гарэла ўсё. І людзі абрыкліся ў этат дзень празнываць – сімнаццатава сінцябра – “Купіну”. У нас есць эта ікона. Када случаіцца пажар, гарыць што-та, людзі бірут эту вікону і абносят вакруг этага пажара.

Ад ж-кі в. Асаўцы Гомельскага р. Буздук Таццяны Сцяпанаўны, 1939 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2010 г. Сш. 4. Ар. 28.

**22.** ***“Эта пераносят у праваславных...”***

У нас не перенасили. Эта пераносят у праваславных. У них Иван Крястититель – престол, и пераносять. А у нас не перенасили.

Ад ж-кі Веткі Літвінавай Марыі Фадзееўны, 1931 г. н., родам з в. Косіцкая, зап. Лапацін Г.І. у 2008 г. Сш. 24. Ар. 18.

**23.** ***“А ў нашай диревни этага не было...”***

У нас етай Свичи не модна было насить. Па нашаму закону Свичи не перенасилися, в нашай диревни именна. А рядам – через греблю, можа, с километр, диревня эта, православныя люди жили, у их насили эту Свичу. Кагда-та. Ета всё не при маей памяти её насили. Знаю, старыя бабы гаварили, што ў их эту Свичу насили, значыть, икону прынясуть, у ваднех пастаить год, переносють, хто желает, у другую хату. Ета ў их называлась “Свича”. Абед делають. А ў нашай диревни этага не было. Патаму шта мы – стараабрядцы па закону были. Стараабрядчеський у нас абряд.

Ад п-кі з в. Папсуеўка Веткаўскага р. Бандарэнка Вольгі Еўстафьеўны, 1935 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. у Ветцы. Сш. 39. Ар. 24.

**24.** ***“Нельзя было работать...”***

Ничего нельзя делать на Свечу. Нельзя было работать, когда Свеча была.

Паводле аповеду п-ак з в. Хізы Веткаўскага р. Лапіцкай Кацярыны Міхайлаўны, 1930 г. н., Казаковай Фені Савішны, 1918 г. н., зап. Лабацкая Г.А. у 1995 г. у Ветцы. Сш. 59. Ар. 4.

**25. *“На Хралы мы не дзелалі нічога...”***

Была “Свячына” на Хралы. На Хралы мы не дзелалі нічога. Траечына была “Свячына”. Пераносілі.

Ад ж-кі в. Бабічы Чачэрскага р. Канузэлевай Наталлі Дзям’янаўны, 1918 г. н., зап. Раманава Л. Д., Нячаева Г. Р. у 1998 г. Сш. 75. Ар. 5, 26.

**26. *“«Раждзяство Багародзіцы» – ета прыстольны празнік...”***

Сколькі я жыву, дак насілі па хатах. У нас была цэрква Багародзіцкая. Вікона і падсвешнік. “Раждзяство Багародзіцы” – ета прыстольны празнік. А “Дзісятуха” ў нас – як аброчны празнік.

Ад ж-ра в. Шарсцін Веткаўскага р. Мацеушава Іосіфа Афанасавіча, 1908 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2008 г. Сш. 126. Ар. 8-9.

**27. *“С таво дня, с пятніцы, і абракнулісь...”***

Бабушка расказывала, что в Шерстине очень пропадал скот: коровы, овцы – все. І вот сабралісь у пятніцу, на дзісятай нідзелі послі Пасхі, так назвалі патом Дзісятуха. І дзевяць удоў за адзін дзень далжны былі спрясць, сткаць са льна, абтрыпаць і сткаць такую палоску – палаценца, штоб усё стада, на ўсю дарогу іво peралажыць, і ўсё стада перагналі. С таво дня, с пятніцы, і абракнулісь, пашлі ў цэркаў, што еслі перастаніт наш скот падаць, то мы абізацільна каждаю пятніцу следушчыга года будзім атмічаць прыстольным празнікам. Усё снялось, как рукой. Нікагда большы ні прапала ні адна карова, ні адна аўца. І с цех пор у дзірэўні Шарсцін прыстольны празнуют празднік Дзісятуху.

Ад ж-кі г. Гомеля Батурынай Ганны Фёдараўны, 1946 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2008 г. Сш. 126. Ар. 12.

**28. *“Ета дваравая вікона”***

На Міхайлу яна абрякнулась, ета Міхаіл Архістраціг, воін, усёй планеты ён жа камандуюшчы. І яна абрякнулась на ету ікону Міхаіла, штоб сын яе быў здароў і шчаслівы, дзе б ён не быў. І яна празнік дзелала сорак пяць гадоў, кажэн год. Ету ікону не пераносілі. Ета дваравая вікона. Вот “Міколу” наша матка пераносіла, усё Закружжа абходзіла, а “Міхайла” ета лічна яе абешчаніе. І дажэ я, яны ўжэ памерлі, і я забрала вікону. І еты абед спраўляю, прыязжаюць усі дзеці. Ета счытаіцца аброчны празнік.

Ад п-кі з в. Старое Закружжа Веткаўскага р. Кужэльнай Праскоўі Сяргееўны, 1933 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2006 г. у Ветцы. Сш. 121. Ар. 1.

**29. *“Год пастаіць, у другі двор, у трэцці…”***

“Красьціцель” была. Іван Красціцель. Эта абрадны наш прыстольны празнік. Свяча, прымерна, у міне была... Еслі там жэлают людзі, пасёлачык у нас маленькі, эту Свячу, значыць, дзелаюць абеды харошыя, зазываюць людзей, людзі ж прыходзюць маліцца, молюцца да абеда, і бацюшку завуць, абедаюць у тых людзей, у каторых стаяла Свяча, і патом нясуць свячу, хто абракнуўся ўзяць сабе ў дом. Так, нясуць у руках і прыбіраюць эту ікону, вешаюць, із мацер’яла дзелаюць, павесяць на эту Свячу. Пераносяць у другі двор, хто надумаўся ўзяць свячу. Год стаіць. Еслі ішчэ хто загадзя не сказаў, што возьме Свячу, утары год стаіць. А еслі жылает, значыць, год пастаіць, у другі двор, у трэцці. Так і пераносяць.

Ад п-кі з в. Чырвоны Кут Веткаўскага р. Літвінавай Анастасіі Данілаўны, 1932 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2005 г. у Ветцы. Сш. 63. Ар. 17.

**30. *“…бралі на нядзельку”***

Да рэвалюцыі толькі цэрьква састаяла, дак бралі на нядзельку. Хто абрякая, дак на нядзелю закажуць у цэрьквы, дак у цэрьквы забіралі Свячу і пеняносілі к чылавеку. Нядзельку пастаіць − абратна ў цэрькву. А так Свеч не было. Ета разбурылі цэрькву, так сталі людзі многа Свеч насіць. А, як цэрква, ішчэ ж да рэвалюцыі, мая мамка пакойная, яны ж былі маладыя тада, і хадзілі у цэрькву. Цэрькву разбурылі, як рэвалюцыя стала, да ўсё зьвяргалі ету службу, да ганялі ўсіх. После вайны вабшчэ разбурылі яе. Бралі з цэрьквы. Абрякая чылавек на што, із цэрьквы бярэ Свячу... “Міколу” абрякая ці “Багародзіцу”. Нядзельку пастаіць, тады, казала матка, назад атносілі. Бралі, но тока з цэрьквы бралі, у цэрьквы бралі. Абрякае чылавек, на нядзельку прося бацюшку... А Свячу... А як цэрьквы ў нас не было, дак многа сталі Свеч етых насіць. І служылі многа ў людзей, і паску свяцілі. У нас не кідалі. У нас манашка жыла Еўдакея ў маленькай хатцы, дак усё к ёй хадзілі Богу маліцца. У нас, у Неглюбцы, не кідалі Богу маліцца. Хоць і ганялі за ета, усё адно не кідалі Богу маліцца. [*Бацюшка прымаў удзел у Свячы*?] Як мая матка расказывала, у даўняя ўрэмя, як бралі Свечы, дак бацюшка... Нясуць, і бацюшка там пабудзя. Акафіст атслужаць той іконі. І пастаіць яна ў чылавека нядзельку, і абратна нясуць з бацюшкам у цэрькву. Акафіст атчытаюць у тога хазяіна, і назад у цэрькву прыносяць. Я сама не знаю, ета матка мая расказывала.

У бабы маей стаяла дваццаць гадоў “Ряжаство”. Дак я і січас ішчо рушнік на іе вешаю. Як свая яна – ета ікона. Дваццаць гадоў прастоіла.

Ад ж-кі в. Неглюбка Веткаўскага р. Астапенка Соф’і Міхайлаўны, 1940 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2008 г. Сш. 105. Ар. 113-112.

**31.** ***“Свеча стояла в церкви...”***

Свеча стояла в церкви. Забирали в дома. Со Свечой ходили по домам. Постоит сколько в доме, потом снова уносили в церковь.

Паводле аповеду п-ак з в. Хізы Веткаўскага р. Лапіцкай Кацярыны Міхайлаўны, 1930 г. н., Казаковай Фені Савішны, 1918 г. н., зап. Лабацкая Г. А. у 1995 г. у Ветцы. Сш. 59. Ар. 4.

**32.** ***“Хто ўперад павесіў рушнік...”***

Ён, хто хоча забраць, вешая на яе рушнік свой. І ўжо ніхто ні адбірэ. Хто ўперад павесіў рушнік – тэй забірая.

Ад ж-кі в. Шарсцін Веткаўскага р. Чуяшковай Ганны Данілаўны, 1927 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2008 г. Сш. 126. Ар. 6.

**33.** ***“Людзі добрыя, дазвольця мне ўзяць Свячу!”***

Увечары, як пройдзя вячэрняя малельня, абавязкова была вячэря, хазяйка гатовіла, і на вічэрі аб’яўляіцца, хазяйка аб’яўляя: “Людзі добрыя, можа, каму нада Свіча?” Дак хто ўжэ устае і гаворя: “Людзі добрыя, дазвольця мне ўзяць Свячу!” Усе ўжэ памаліліся: “Гасподзь благаславіць цібе!” І назаўтра шчэ моляцца ў етыя хазяйкі, а тады пераносюць ету Свячу к той. І там молюцца, абедаюць у той.

Ад ж-кі в. Пералёўка Веткаўскага р. Малашанка Лідзіі Ільінішны, 1932 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007. Сш. 57. Ар. 42.

**34.** ***“Прынесла мне хлеб і сказала, што я буду забіраць Свячу”***

Раньшэ атпраўлялі, і вічэру дзелалі... Вот, напрымер, міне жэншчына сказала, што я буду ў цібе забіраць Свячу. Прынесла мне хлеб і сказала, што я буду забіраць Свячу. Ну, мол, загадзей я прынясу ўжэ хлеб, што б я, напрымер, знала, што жэншчына ў міне біроць. Удруг другая захоча, а ета первая ўжэ прынісла хлеб і мне сказала, што я буду ў цібе забіраць Свячу.

Ад ж-кі в. Лагуны Добрушскага р. Міхедавай Марыі Харытонаўны, 1930 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2011 г. Сш. 139. Ар. 1.

**35.** ***“...недастойныя яны вікону браць”***

Былі такія людзі, што не хацелі браць. Эта нада гатовіцца, памыць у хаце, прыбраць і есць нагатовіць. [*А такія былі, што ім не давалі?*] Былі, што недастойныя яны вікону браць у двор. Ругаліся, гарэлку пілі. Значыць, не паложана вікону ў двор.

Ад ж-кі в. Колбаўка Веткаўскага р. Казловай Ганны Свірыдаўны, 1936 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 73. Ар. 63.

**36.** ***“...завісіла ад таго, як хто верыць у Бога”***

Па жэланію, хто жэлае, той і браў. Хто ні жэлаў, той ні браў. У каго-та было... болей верылі ў Бога. Эта завісіла ад таго, як хто верыць у Бога. Ё такія, каторым еслі... людзі... эта хто-та быў звязаны з нячыстай сілаю. Людзі многа ўмелі калдаваць, дзелаць умелі гадасці людзям. Ім ікону ні давалі.

Ад ж-кі п. Канічаў Веткаўскага р. Космакавай Раісы Сямёнаўны, 1940 г. н., родам з в. Клімаўка Гомельскага р., зап. Лапацін Г.І. у 2008 г. Сш. 128. Ар. 5-7.

**37.** ***“Былі такія ацеісты...”***

Не кажды браў Свячу. Хто хацеў. Былі такія людзі, што адказывалісь. Былі такія ацеісты, у Бога ні верывалі, ні хацелі. Ну, такіх людзей мала. Абычна ўсе бралі. Ну, былі такія людзі. Камуністы. Ані ж не верывалі ў Бога, значыць, Свячу яны не… Іх бы з парціі тады знялі, еслі б дома ў сябе Свячу аб’яўлялі, нясуць, напрымер, к саседке.

Ад п-кі з в. Старое Закружжа Веткаўскага р. Раманоўскай Марыі Аляксееўны, 1937 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2006 г. у в. Хальч. Сш. 117. Ар. 1а.

**38.** ***“…мужчына не ругаіцца”***

Тады ж мужчына не ругаіцца, еслі Свяча у домі. Ругацца − ета ж бальшы грэх.

Ад п-кі з п. Ляда Веткаўскага р. Грынньковай Настассі Іванаўны, 1930 г. н., зап. Раманава Л.Д. у 2000 г. у Ветцы. Сш. 62. Ар. 108.

**39.** ***“Крёсным ходам...”***

Празнік “Свяча”− эта кагда забіраают ікону с одногa дома ў другой дом, то ікону несут, пусць там і дзесяць кіламетраў, крёсным ходам і зажыгают свечку. Кагда несут ікону, і свечку эту ставят у Неглюбкі,

без разніцы ілі ў зірно іе паставяць, ілі ў хлеб паставяць. Патаму шта хлеб счытаіцца сімвалам жызні. Патаму ў Неглюбкі нет разніцы, у хлеб утаркнуць эту свечку ілі ў зірно паставіць.

Ад ж-кі в. Неглюбка Веткаўскага р. Каўтуновай Раісы Пятроўны, 1961 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2008 г. Сш. 105. Ар. 107. (Па аповеду Астапенка Соф'і Сямёнаўны, 1940 г.н.)

**40.** ***"Я па стараму закону браў, па стараму і аддам..."***

Мы тады хацелі ўзяць ету ікону, як я ляжала з нагой, дак яна паабяшчала даць. Мы згатавалі, і ўсё, і абед, і свечы дасталі. І толькі ўжэ вячэру зварыць. А калі матка пашла к ёй, дак яна й кажа: "Знаіш што, кума, не аддам". Яна кажа: "Ой, кума, Варька ж сільна плача!" А яна кажа: "Вы шчэ толькі пачынаіця плакаць, а я плачу ўсю жызню сваю. Я іконы не аддам". Ну, дык матка прышла з плачом. Мы паплакалі, паплакалі: "Што дзелаць?" Ну, Хоўра прышла. Мы Хоўры етай кажым. Яна кажа: "Каця, ідзі к Кузьму к етаму, к Крыўчыкаваму". Ну, яна пашла, матка. А у яго была зімняя ікона. А ета ж вясной была дзела. Ён і кажа: "Знаіш што, Цітаўна, вот што. Я ні процiў. Толькі я ішоў па закону". А ета ікона, што ў Крыўчыкаў была, зімняя, ета была, рядавая. Во, у нас год стаіць. На другі год іе Малахава бярэ. Хоча ні хоча, ну, ужо Малахавы бяруць. Вот так вот у ряд, у ряд і ідзець па вуліцы. Пройдзя ўсе двары, тады на другую вуліцу пераключыцца. Ён і кажа: "Я па стараму закону браў, па стараму і аддам. Прыдзя тоя ўрэмя, я спраўлю абед, людзей пазаву, атслужаць службу ў мяне, тады бяры, Цітаўна, на здароўе, сколькі – хоць і скрозь яна ў цябе".

Ад ж-кі в. Казацкія Балсуны Веткаўскага р. Давыдзенка Варвары Барысаўны, 1925 г. н., зап. Лапацін Г.І., Раманава Л.Д. у 2002 г. Сш. 99. Ар. 36-35.

**41.** ***"Я ня буду браць!.."***

Яна, напрымер, у мяне стаіць Свяча, а ўжо ты хочыш, і мы ўжо ждом, пакуль ты возьміш. А ўжо ў Колбаўцы, там, напрымер, у мяне Свяча, а падаходжыя ряд, хочыш ты не хочыш, но бяры. Тады ж не гатаваць. У чалавека то згатаваць нечага, а нада ж абед, эта ж аброчная. І каторы чалавек і кажа: "Я ня буду браць! Хай чэряз мяне бяруць". І бралі чэряз чалавека. І чэряз двох бралі.

Ад ж-кі в. Неглюбка Веткаўскага р. Саломенай Ульяны Мікалаеўны, 1932 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2006 г. Сш. 105. Ар. 97-96.

**42.** ***“...абрякнуліся ўзяць Міколу”***

Мой дзед, мае маткі бацька, абрякнуліся, сын іх дзесь быў у пляну многа гадоў, дак абрякнуліся ўзяць Міколу, дак Міколая тая ў цэркві і січас стаіць, ета ўжэ колькі многа гадоў. Дак у Кііў хадзілі ходам да і прыняслі ўдваіх, бацька і матка тога сына. А ён гаразд многа гадоў быў у пляну. Тады прышоў. Мала пажыў. [*Яны абракнуліся, ікону прынеслі, і яе сталі насіць?*] І патом сталі насіць. Яны ж карцінкай жа яе прыняслі, здзелаліківоту бальшую і такую ўжэ насілі.

Ад ж-кі в. Неглюбка Веткаўскага р. Халюковай Валянціны Аляксандраўны, 1931 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2006 г. Сш. 105. Ар. 98.

**43.** ***Легенда аб дывану***

Жэншчына адна была... Бедныя-бедныя, яны рашылі справіць Свячу Ніколу − а не за шта. Яна гаворя на хазяіна: “Нясі наш кавёр паследні прадай, а мы трапезу справім”. Во, як Госпаду хацелі! Во, як накрышчаліся духам прэдкі нашы! Ён панёс. Прадае. Чалавек падышоў: “Сколькі табе?” Ён: “Так і так”. Купіў. Ён узяў і панёс еты кавёр. Еты хазяін накупіў за етыя грошы ўсяго-ўсяго − будуць жэ Ніколу спраўляць. Прыходзя дамоў. А жонка гаворя, што нейкі чалавек прынёс кавёр. І жонка: “Ой, такі! Не прадаў каўра”. А яна ж ня знала, што ета Нікола прынёс кавёр.

Зап. у в. Чамярня Веткаўскага р. Лабацкая Г. А. у 1996 г. Сш. 73. Ар. 60.

**44.** ***“«Мікола», значыць, нада мужчынам несць...”***

Мужская еслі ікона − “Мікола”, значыць, нада мужчынам несць. А еслі “Багародзіца”, дак дзевачкі нясуць.

Ад ж-кі в. Неглюбка Веткаўскага р. Астапенка Соф’і Міхайлаўны, 1940 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2008 г. Сш. 105. Ар. 114.

**45.** ***“...А жэншчыны − жэнскае ліцо”***

“Міхайлу” − мужчыны насілі. А жэншчыны − жэнскае ліцо: “Мацер Божая”.

Ад ж-кі в. Колбаўка Веткаўскага р. Казловай Ганны Свірыдаўны, 1936 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 73. Ар. 63.

**46.** ***“Несли икону парами...”***

“Переносили раз в год. Несли икону парами − муж с женой. Нельзя было носить вдовам и разженцам”.

Паводле аповеду ж-кі д. Нінэль Веткаўскага р. Афанасенка Надзеі Пятроўны, 1912 г. н., зап. Лабацкая Г.А. у 1996 г. Сш. 59. Ар. 7.

**47.** ***“...нячэсная яна падашла несць ікону”***

Насілі ікону. Параскавея. Яна пісалася мучаніца Параскавея. А Параскавея – эта Пятніца. І кагда яе нясуць – абрякаліся. Напрымер, у каго дзеці не растуць, так палатно расцеліць і дзіценка паложыць, пераносяць эту Пятніцу, ілі хто забалее, а еслі забалее чалавек, тожа палатно ложаць і пераносяць чэраз яго. Толькі на дзясятую пятніцу яе насілі. Яна ў цэркві стаяла, і тожа так іздзелана, “як свяча”. У адных дзеці не раслі. Як перанеслі эту ікону “Пятніцу”, сталі дзеці росць. Дзіценка папярок клалі, мужыка – удоль. Дзеўкі насілі. І каса штоб была ў яе расчэсана (распушчана – Г. Л.) У Гарадзешне, наша цэркаў згарэла ў дваццаць сядмом гаду, і мы хадзілі ў цэркаў у Гарадзешню. І там эту Пятніцу насілі к крыніцы. Там служылі малебен. І чатыры дзеўкі, дзве няслі, шчэ дзве нада – пераменівалісь. Дзве пранеслі, а бацюшка аб’яўляя дзеўкам: “Сматрыця! Штоб была толькі чэсная, штоб ў граху не была. Еслі толькі за сабой дзела знаеш, на падходзь к іконе”. І дзве праняслі, яшчэ дзве падгатаваліся, волас распусцілі. Параскева – яна ж дзеўкай была на іконе, волас тожа распушчаны. І ўдзвёх толькі ўзялі, і ікона эта зарыпела. І бацюшка: “Я ж гаварыў! Убярыся!” А каторай, ён жа ня знает. Яна знает за сабой. Яна ўвабралася і пашла. Трэцяя падышла. Узялась і паняслі. А то ікона – скрып! скрып! скрып! Значыць, нячэсная яна падашла несць ікону.

Ад ж-кі в. Верхлічы Краснагорскага р. Бранскай вобл. Грыбанавай Параскевы Антонаўны, 1920 г. н., Лапацін Г.І. у 1999 г. Сш. 87. Ар. 94.

**48.** ***“...што б харошыя, васпітаныя дзеці”***

Усігда выбіралі так: раньшэ ж і дзяцей было. Ціпер у дзярэўні ні дзяцей, нічога... А то дзяўчынка з харошай сям’і, верушчыя, што б харошыя, васпітаныя дзеці, і хлопчык, нясуць: адзін – ікону, адзін – Свячу, і на веку – хлеб, века – ета такоя, што дзежка закрывалася, круглае такое, палаценцам пакрытая, і булка хлеба, соль – хазяйка нясе века ета з хлебам, патом ікону і свечку нясуць, і ішчэ жэншчыны якія-нібудзь ідуць уперадзі і сцеляць, сноп саломы жытняй бяруць і сцеляць дарожку ад адной хаты да другой. Прыходзюць туды, там тожа хазяйка ўстрячая з хлебам-соллю. Становяцца на малебін. Памоляцца, потым паабедаюць і расходзяцца. І на наступны год ужо тут Свяча. Вот, еслі ніхто не бярэ, дак астаеца Свяча там жэ.

Ад ж-кі в. Пералёўка Веткаўскага р. Малашанка Лідзіі Ільінішны, 1932 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 57. Ар. 42-41.

**49.** ***“...у маіх баб усё іконы стаялі...”***

Я малая была, дак у маіх баб усё іконы стаялі, да ўсё насілі Свечы. Свечы так у нас: насілі Свечы ў каго, а другія заказываюць на другі год Свячу тую, штоб перанесці к тому хазяіну, к другому. Ну, яны пераносяць, там атслужаць, бяруць ікону і нясуць к другому хазяіну. А жэншчыны, раньшэ ж былі дзежкі, а ў дзежкі былі такія − накрываліся − называліся “века”, накрывалась дзежка. Тоя века накрываюць скацерцю, ложаць хлеб, становяць у хлеб свечку, і хазяйка тая ідзець уперадзі іконы тыя − нясуць Свячу к другой хазяйцы... А тая хазяйка сцеля, раньшэ ж не было каўроў да разных дарожак, дак сцеляць пряміцу-салому на дварэ, і ўносяць к той хазяйцы ікону, становяцца на каленькі і абменіваюцца, і тая хазяйка, што прымая ікону, тожака хлеб у іе на веку, скацерць, і свечка гарыць, і яны абменіваюцца хлебам. І тая хазяйка, што бярэ Свячу, яна ўжо ўперадзі ідзець у хату, і Свячу нясуць, і кругом стала тры раза абходзяць з тыя іконай і ставяць на Кут. Не было ж падносаў, дак із дзежкі века абкрываюць скацерцю, ложаць хлябіну і ў хлябіну свечачку запаліваюць, і нясуць ікону. Ета я добра знаю... пацанкай была... А тады, як ікону нясуць, падлазяць пад ікону.

Ад ж-кі в. Неглюбка Веткаўскага р. Астапенка Соф’і Міхайлаўны, 1940 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2008 г. Сш. 105. Ар. 114-112.

**50.** ***“…судзьбу жэлаю змяніць”***

Прячыстая. Збіраліся багамолкі, людзі. Нясеш пячэння, жыта, пшаніцу. Ікона стаяла на длінным услончыку на 4 ножках: Спасіцель, Мацер Божая, Ісус Хрыстос. Свечка − паўметра. У кадушачкі з зярном дзве свечачкі. Яна (бальшая свяча) не плавіцца. Кадушачку надзявалі. Хто які мацер’ял здзелае. Па размеру кадушачкі, у зборачку сабіралі, на лентачку − красную, жоўтую. Верх кучарява здзелаюць, а ўнізу − сборка. Карасавіца! Хазяйка гатуя абед. Людзі паелі, пажадалі ўсяго харошага. Нельзя было пераносіць чэраз уліцу, а з двара ў двор. Пераносілі. А тада цэркаў у Неглюбцы стала, у цэркаў аддалі. Яна і сёньня там. На даске напісана. Як выношылі ікону, пад ікону падлазілі з дзеткамі. Як выношылі, на варотах са свячой бальшой стаялі. Дастойныя неслі. Бралі ікону ў двор бальныя, с пілепсіяй − цяжолыя. А еслі я судзьбу жэлаю змяніць, пралажу пад ікону. І моляцца. “На многая лета…” пелі.

Паводле аповеду ж-кі в. Гарадок Веткаўскага р. Волкавай Агаф’і Пятроўны, 1918 г. н., зап. Мазейка Л.М. у 2001 г. Сш. 73. Ар. 39-38.

**51.** ***“...штоб возлі твайго дома памаліліся”***

Там, дапусцім, хто стол вынес, там астанаўліваемся. Ета еслі хто захоча, жэлаюшчыя. Хочыш ты, штоб возлі твайго дома памаліліся, то выносіш хлеб − устрачаіш іх хлебам-соллю, і іконку ставіш на які стол малы. А тады абносім кругом, папелі, памаліліся, тады дальшэ пашлі.

Ад ж-кі в. Пакалюбічы Гомельскага р. Літвінавай Тамары Васільеўны, 1938 г. н., зап. Раманава Л.Д. у 2006 г. Сш. 98. Ар. 56, 55.

**52.** ***“...не толькі на Свічах”***

Падлазяць − ета не толькі пад ікону, не толькі на Свічах. Падлазюць, вот у нас у цэркві дажы падлазюць. Абхаждзеніе дзелаім. Носім плашчаніцу, і заносяць у царкву плашчаніцу, на ўходзі, ішчо толькі ў цэркву ўходзяць, і ету плашчаніцу дзіржаць, а ўсе людзі пад іе падлазюць.

Ад ж-кі в. Хальч Веткаўскага р. Корнікавай Марыі Фёдараўны, 1929 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 97. Ар. 124.

**53.** ***“... хадзілі ў Кііў, там куплялі...”***

З цэрквы бралі іконы етыя. Як разарялі цэркву, тады іконы людзі пабралі. Вот, етыя іконы абрякаліс. [*А такога не было, каб куды хадзілі, замаўлялі?*] Была, хадзілі ў Кііў, там куплялі, то ў Пачаіве, у манастырях, прыносілі сабе. Здзелаюць на падносі,ківот бальшы, дажэ раскутныя − дзверцы былі такія. Ета такую ікону дзелалі. Ета для Свячы бальшую дзелалі. [*Чалавек сам для сябе рабіў?*] Сам сібе, а патом даваў на абрёкі. Насілі па людзях.

Ад ж-кі в. Неглюбка Веткаўскага р. Дзямчыхінай Раісы Васільеўны, 1935 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2008 г. Сш. 105. Ар. 111.

**54.** ***“Икона была квадратная з двумя двёрками…”***

Падсвечник стоял у бабушки, в Гуте, такой, я ж маленькая была, мне шесть лет было, он выше меня был. Наверное, покрытый был, или лаком, или чем он. И завешен был, натянута или резинка, или верёвочка, и завешен тканью из ситца. Свечки постоянно стояли. Там наверху было круглое − для свечек. Икона была квадратная з двумя двёрками, закрывалось там. На двёрках было нарисовано и на иконе, а сверху − треугольничек − крышка. И в этом треугольничке тоже что-то нарисовано. И снизу выдвигался ящичек, ручечка маленькая: там свечки, наверно, ложили.

Ад ж-кі Веткі Заблоцкай Валянціны, 1968 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2008 г. Сш. 64. Ар. 32.

**55. “...ківот такі здзеланы...”**

Ікона была бальшая, ківот такі здзеланы ў рамкі, з дзверцам. Красівыя іконы былі. На падносі.

Ад ж-кі в. Неглюбка Веткаўскага р. Дзямчыхінай Раісы Васільеўны, 1935 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2008 г. Сш. 105. Ар. 111.

**56. “*...як станок...*”**

Ету ікону дзве старушкі прыняслі з Чыстых Луж. Хадзілі ў Чыстыя Лужы і прыняслі, і здзелалі ківот, такі, як станок – ён называіцца *ківот*. І насілі з хаты ў хату.

Ад ж-кі п. Станкі Леўшуновай Валянціны Васільеўны, 1938 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2008 г. Сш. 128. Ар. 1.

**57. *“Свяча стаяла ў яшчычке з зярном”***

У нас была восеньская Мікольская. Свяча стаяла ў яшчычке з зярном. Насыпалі ў яшчычак жыта, ячмень, пшаніцу, грэчку, авёс – якоя ёсць семяно. І ўсё ета сыпліцца ў той яшчык. Тады становяць ету свячу – воск еты. А воск еты дзелаюць – вот, лён, бальшую жменю бяруць лёну, і лён еты ўвесь аблепліваюць етым воскам і тады дзелаюць, такую таўстую наверх становяць, штоб запаліваць яе, штоб яна гарэла. Каля свячы маленькая іконка, і яна стаіць, і палаценцам абматаюць. Як аддаю свячу, у нас вячэраюць. А назаўтра ідуць к хазяіну, што забраў. Тры мужчыны нясуць яе. Самы глаўны хазяін нясе, а два другіх збоку падмагаюць і так трошкі дзяржацца. А тады ўжэ прыносяць і становяць етаму хазяіну.

Ад ж-кі в. Студзянец Кармянскага р. Андрэенка Аляксандры Фёдараўны, 1926 г. н., зап. Новікава Л.А. у 1999 г. Сш. 88. Ар. 9-10.

**58. *“Это женщина... ”***

Одна женщина переносила, а другая брала. Наряжали её, как невесту, и стояла она в Красном углу на столе, делали юбочку, украшали. Свеча – это ж не мужской пол, это женщина, делали наряд ей. И обед справляли, та, которая отправляла, обед справляла, и которая принимала, обед справляла. Свечи делали сами. Там был один пасечник, пчёл держал, воск был, ему заказывали.

Ад ж-кі Веткі Рослікавай Марыі Фёдараўны, 1953 г. н., родам з в. Быстра Клімаўскага р. Бранскай вобл., зап. Лапацін Г.І. у 2006 г. Архіў аўтара.

**59.** ***"… як дзед"***

Была старынная свяча кагда-та, высокая, таўсценная. Па бакам выляплялі з воску – будзяць рукі. Свяча эта – пряма, як дзед.

Ад п-кі з в. Ухова Веткаўскага р. Драбышэўскай Марыі Абрамаўны, 1913 г. н., зап. Лабацкая Г.А. у 1995 г. у Ветцы. Сш. 59. Ар. 14.

**60.** ***"...как жэншчына"***

Свяча – как жэншчына. Нада і рубашачку адзець, нада і плаціцца ей. Свяча – жэнскага рода.

Ад ж-кі в. Вялікія Нямкі Веткаўскага р. Кавальковай Ніны Міхайлаўны, 1958 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 12. Ар. 3.

**61.** ***"Новаю шылі, як старая..."***

Свяча была, таўставаценькая. Адзёжкі шылі, проста такім каўпачком, а вьверху зборачка. Новаю шылі, як старая , а так соймуць, пасціраюць. Тады ж мацер'ял был сіціц цвятный, цвяточкамі.

Ад ж-кі в. Слабада Яноўскага с/с Веткаўскага р. Казловай Ніны Трафімаўны, 1934 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2007 г. Сш. 100. Ар. 13.

**62.** ***"...как старинное платье"***

Свечка была большая, толстая, в руку. На Свечу шили платье с брыжами, затягивали шнурок сверху и сборочку. Отделывали тесёмочкой и кружевами. Делали как старинное платье.

Паводле аповеду ж-кі в. Зацішша Веткаўскага р. Гарэлавай Ганны Калінаўны, 1920 г. н., зап. Лабацкая Г.А. у 1996 г. Сш. 59. Ар. 5.

**63.** ***"Проста, як сарафан..."***

Красіва ўбіралі. Свяча – бальшая, таўстая сама. Ікона "Мікола" бальшая. Перанашаюць, бяруць ікону, табе свечку даюць у рукі, етаму, етаму... Свяча адзета, плацця такоя адзявалі з гардзіны і фартук, ленты цвятныя і цвятамі кругом убіралі. Проста, як сарафан. Саломай дарогу слалі. З двара ідзець паперадзі і салому труся, а Свяча ідзець услед, і людзі ідуць.

Ад ж-кі в. Кароцькі Кармянскага р. Саламонавай Марфы Кандрацьеўны, 1923 г. н., родам з в. Валынцы Кармянскага р. , зап. Новікава Л.А. у 1999 г. Сш. 88. Ар. 46-47.

**64.** ***“Плаццiка з брыжыкамi...”***

На Свiчу плацця ш’юць, плаццiка, з брыжыкамi – еслi хто хоча брок, брочныя, дак яны прыдуць: “Iр, я вот плаццiка пашыла на Свiчу”. Дак яна гаворя: “Ну, пашыла – i добра”.

Ад п-кi з в. Пералёўка Веткаўскага р. Машкоўскай Вольгi Пiлiпаўны, 1942 г. н., зап. Лапацiн Г. I. у 2007 г. у Ветцы. Сш. 57. Ар. 40.

**65.** ***“Я бiру, я касцюм новы шыю на iе...”***

Станок быў здзеланы. I iна прыдзелана к станку. Вот я бiру, я касцюм новы шыю на iе. Той ужэ касцюм знiмаiш, складзеш, а ўжэ свой, набiраю сiтцу, i вышывання было. Сiтцу набiраiш... Кругом... Палаценца вышываная на iкону вешаiш.

Уродзе, падсвечнiк, як у цэрквi. Усё iдзець (з iконай).

[*Стары касцюм знiмалi. I куды яго?*]

Кладом. Складiш акуратнiнька, пасцiраiш, i там такi быў яшчык, ты пасцiраiш, пагладзiш i кладзеш туды – у iкону.

[*Дзе пераапраналi?*]

Я дома пераадзявала. Бралi iны ад мiне ўжэ перадзетаю. Так i другiя людзi дзелалi. Еслi ў тваю хату... То – тваё. А ета сцiраiш, пагладзiш, там яшчычак быў такi, i туды складаюць. А тую адзежду... яны, наверна, аддавалi ў цэркву. Па-мойму, так.

Ад п-кi з в. Вераб’ёўка Веткаўскага р. Шэхавай Варвары Iванаўны, 1919 г. н., зап. Лапацiн Г. I. у 2010 г. у Ветцы. Сш. 136. Ар. 1-2.

**65 а.** ***“I патом ана шыла сваё...”***

Яна была ўся iкона, еслi пераносiлi... Яна была на дзiравяннай стоiчкi, была аб’ёмная как бы, i iё ўнасiлi ў дом. I патом ана шыла сваё. Iменна сваё. Вот, ана ўзяла сiтiц , раньшэ быў сiцiц белы, абшывалi, вот iменна, не цвiтной, я знаю, абшывалi, занавесачку дзелалi. Ана красiвая стаяла.

Ад ж-кi Веткi Лапiцкай Ганны Мiкалаеўны, 1959 г. н., – дачкi Шэхавай Варвары Iванаўны.

**66.** ***“У нас тры пары адзёжкi...”***

У нас тры пары адзёжкi: белая i галубая адзежда, i крэмавая. Напрымер, мы када часта сабiралiся, нада ж была памыць, а другую адзiвалi. I чыцвёртая – чорная. Вот пост начынаiцца, перадзiваiм, i ставiм у чорнаю адзежду. I стол накрываiм. Тожы ж есць скацiрць чорная, усё

эта накрываіцца... Усе белыя палаценцы я ўбіраю на пост, ну, лентачку палажу чорнаю [на партрэты].

Ад ж-кі в. Давыдаўка Гомельскага р. Кісялёвай Клаўдзіі Антонаўны, 1929 г. н., зап. Лапацін Г.І., Скідан А.В. у 2008 г. Сш. 4. С. 13.

**67.** ***"К празнікам мы адзіваім эта ўсё наряднае"***

Па гаду па два разы меняім. К Паскі, к празнікам мы адзіваім эта ўсё наряднае. А вот када начінаіцца ўжэ Велікі пост, мы снімаім все эты... Цветы убіраім... Усё яркае... І адзіваім пацімнее... Бардовае што-та, чорнае. Как вот пасцяцца людзі... Нільзя нічыво ні пець... Так і яна находзіцца у этым пасце, тожэ пасціт, как будта бы ана пасціцца. А ўжэ к празніку, канчаіцца пост, і патом мы ўжэ іе вазабнаўляім. Новые цвіты ўжэ, вінкі вешаім.

Ад ж-кі в. Лагуны Добрушскага р. Катовіч Марыі Міхайлаўны, 1950 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2011 г. Сш. 139. Ар. 2.

**68.** ***"...не было, штоб адзёжкі шылі"***

У нас такой Свячы не было, штоб адзёжкі шылі.

Ад п-кі з п. Ляда Веткаўскага р. Грыньковай Анастасіі Іванаўны, 1931 г. н., зап. Раманава Л.Д. у 2004 г. у Ветцы. Сш. 105. Ар.1.

**69.** ***"... і ён тую свечку ў тую"***

...і тая свечка ўсю ноч, Богу ж моляцца людзі, з вечара троху так пасядзяць, паразгаварыюць, вот, я ўзяла Свячу, а ў цябе, увечыры гатуіш вячэрю, ка мне Свячу нясуць, я гатую абед, і прыносяць ету Свячу, і тыя свечкі, яна згарыць, а троху астанецца, трошкі атрязаюць у еты двор, куды Свячу нясуць, а той канец бяруць сабе. А ты тады на другі год тую самаю свечачку, купляіш воск, сучыш ты бальшую свечку, і тую свечачку, што табе далі, яе ў печ паклаў, яно ж памякла, мякенька станя, і тэй хазяін, хто суча, і ён тую свечку ў тую, і бальшую такую свечку суча. І ў яго гарыць. А тады нясуць ікону ад яго, ён тож так трошкі атрязая.

Ад ж-кі в. Неглюбка Веткаўскага р. Сарасекі Марыі Пятроўны, 1928 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2006 г. Сш. 105. Ар. 100.

**70.** ***"Нільзя было аддаваць…"***

Нільзя было аддаваць Юр'я ў Заляддзе. Нада было каму ўзяць іе. Ну, а яны не ўзялі ніхто, дак яны во ўзялі. Звязлі з дзярэўні, і ўсё. Я вот па-

следняя ўрэмя прыду к Алёні. Вот, Юряй – ікона такая цёмная, вот як пачарнела. Я Моці й кажу: “Моця, ты не замечаеш нічога на Юр’ю?” Яна кажа: “Не, а што?” – “Знаіш што, вот ён якійсьці пацямнелы, вот, як скарбіць”. А тады калі памёрла, дак кажу: “Можа, ён такі… што даўняя ета ікона, дак ета цемната на ём упала? Калі ў нас быў еты Юряй, так Балашыха с пасёлка казала: “Кацька, у цябе абнавілася ікона”. Яно вот жоўта – такая падалася была ікона. Матка і кажа: “Можа, баб, ета, во, мыю. Я ж каждага дня ўстану, сама ўмыюся, тады ікону абцяру беленькая трапачкай, намачу, абцяру, дак ета яно, можа, вымылася?” А тады, калі Алёна, ета случылася, дак забралі. Я казала: “Моця, ну ні я табе казала?” – “Варка, ну, у твае разгаворы і я ціпер удумваюся. Вот, наверна, і праўда, ён скарбіў – што ён ідзе ў свет ужо – із свае местнасці. Тут ужо – ён аброчны быў, абракаліся ім.

Ад ж-кі в. Казацкія Балсуны Веткаўскага р. Давыдзенка Варвары Барысаўны, 1925 г. н., зап. Лапацін Г.І., Раманава Л.Д. у 2002 г. Сш. 99. Ар. 36-34.

### 71. *“...прычытала прычытам”*

І ў яе стаіць, напрымер, год, а тады ад яе пашло ў другую хату – і так: у рад, у рад, у рад. Так было весело, так было харашо! А як жа ікону нясуць, прычытала прычытам: у серца дало, што думаю: “Пагляжу, што – у Кут... Ішчэ ўвечары на стале стаяла Свяча... А ўжэ ўранні стала, і німа... І міне здаецца: “Ой-я-ёй! Ой” – не магу ніяк. Мне ўжэ так жаласць, і не знаю як!

Ад ж-кі в. Стаўбун Веткаўскага р. Марозавай Марыі Лаўрэнцьеўны, 1927 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2006 г. Сш. 73. Ар. 59.

### 72. *“...праважаім і плачым”*

...праважаім і плачым. Як із хаты нясуць Свячу, тады ўжэ ні ўзрынімся ніяк, і каждая, і ўсі так, і плача, што забралі Ісуса Хрыста і Мацер Божаю, усіх святых, ужэ паглядзіш, на том месьці ўжэ німа.

Ад ж-кі в. Стаўбун Веткаўскага р. Марозавай Марыі Лаўрэнцьеўны, 1927 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 73. Ар. 54.

### 73. *“Як сем’яніна ў хаце не стала”*

У нас Свяча – стаяла Мікола, ніхто яе не браў, бабы хадзілі, вячэру спраўлялі, абед спраўлялі, свечы куплялі, палаценца вешалі. Яна ў нас доўга стаяла. Аброчная ікона, пераходная. А ён прыйшоў эты чалавек,

захацеў вікону забраць, старухі сабраліся, папа прывязлі, Богу памаліліся, пераняслі: "Як сем'яніна ў хаце не стала".

Ад ж-кі в. Навілаўка Веткаўскага р. Дзеньдобрай Сцепаніды Рыгораўны, 1914 г. н., зап. Лапацін Г.І., Раманава Л.Д. у 2000 г. Сш. 70. Ар. 18.

**74.** ***"Хазяін пагіб на фронці, я так ні галасіла, як па іконі"***

..і вот, іё бралі ікону, ішчэ есць Гіоргій восеньскій... дак ана схваціцца за воласы, падаіт прама аб зімлю, што ні воўрымя біруць: "У міне шэсціра дзіцей, хазяін пагіб на фронці, я так ні галасіла, як па іконі".

Ад ж-кі в. Давыдаўка Гомельскага р. Кісялёвай Клаўдзіі Антонаўны, 1929 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2008 г. Сш. 4. С. 12.

**75.** ***"Іду на адправу..."***

...устрэціцца бабка і спрашывая: "Варка, куды ты ідзеш?" – "Іду на адправу. Сёдня адпраўляім ікону".

Ад ж-кі Веткі Канавалавай Валянціны Міхайлаўны, 1955 г.н., родам з в. Жалезнікі Веткаўскага р., зап. Лапацін Г.І. у 2003 г. Сш. 64. Ар. 30.

**76.** ***"...каб год быў багаты"***

Той, хто бярэ Свячу, той сцеле саломку ад свайго двара да двара, дзе Свяча. Салома, зжатая сярпом. Нада з зярном, каб год быў багаты.

Паводле аповеду ж-кі в. Гарадок Веткаўскага р. Волкавай Агаф'і Пятроўны, 1918 г. н., зап. Новікава Л.А. у 1998 г. Сш. 61. Ар. 16.

**77.** ***"Абед памінальны ўстраівают..."***

Прымерна, я бяру Свячу на год, я абязан па какім-та празнікам, када там прынята ў ніх... В некаторыя празнікі прыходзяць верушчыя ў этат дом. Чытают малітвы. Какой-та абрад дзелают. Патом, кажэцца, абед памінальны ўстраівают у чэсць этага святога. А какой святой ізбіраіцца ў ніх, я ўжо ні знаю... Акончут свой абрад, і ў этам жэ дварэ – ужо свяшчэнны абед. Как і на пахаранах бываіт. Замачылі, выпілі, папелі святыя песні – і дамой.

Ад ж-ра в. Данілавічы Веткаўскага р. Агеева Аляксея Цімафеевіча, 1926 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2008 г. Сш. 127. Ар. 8.

**78.** ***“Канон должен быть...”***

Блины, борщ, кисель, каша – последняя по очереди, борщ, кисель и др. Оладьи, рыбу жарили, холодное. Кашу ячменную с молоком. Обязательно – последняя каша. Пышки пекли. Канон должен быть. Каждый брал ложку канона. Как на похоронах. Если был пост – то постный обед.

Па аповеду ж-кі в. Зацішша Веткаўскага р. Гарэлавай Ганны Калінаўны, 1920 г. н., зап. Лабацкая Г.А. у 1996 г. Сш. 59. Ар. 5.

**79.** ***“Абізацільна, штоб быў боршч…”***

Была “Мікола” восеньская. Вот, увечыры, сабіраяцца ў нашай бы, напрымер, хаце, Богу моляцца, вячэряюць. Вечарям памоляцца ў нас, павячеряюць тут. Абізацільна, штоб быў боршч, была каша, бліны (ладкі). Астальное што хочыш. Ну эта абізацільна. “Гарячае” называлась. Назаўтряга бяруць эту ікону “Міколу” і нясуць, напрымер, к саседке.

Ад п-кі з в. Старое Закружжа Веткаўскага р. Раманоўскай Марыі Аляксееўны, 1937 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2006 г. у в. Хальч. Сш. 117. Ар. 1а.

**80.** ***“Як на пахаранах іх пяюць...”***

Я ні знаю псальмаў етых. Як на пахаранах іх пяюць, у каго похараны, етыя псальмы пяюць багата. Як на пахаранах, так і на Свічах пяюць. Ну, я ні помню. Тады ж строга было, ні ў школах етага ні вучылі, ні йдзе ні прыпадавалі.

Ад ж-кі в. Вялікія Нямкі Веткаўскага р. Кірушкінай Веры Фёдараўны, 1929 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 125. Ар. 4.

**81.** ***“Ну, свацця, я ўжо бяру ікону сабе...”***

На вячэры ат етых, што будзе год стаяць, кажыш: “Ну, свацьця, я ўжо бяру ікону сабе”. Як ідзеш у цэркву прычашчацца, знаймаешся: падходзяць, аддаюць паклоны, на каленкі стануць, пахрысцяццa. Шчэ й спросяць: “Ты знаймалася?” – “Не!” – “Так ідзіш скарэй!” На Свячэ знаймаюцца. [*“Знаймацца” – як гэта разумець?*] Хазяйкі “свацейкі” гаворацць адна на адну. Тая – адтуль на каленках, тая – адтуль, пахрысцяцца, паклоны аддадуць, цалуюцца. Мужыкі на каленках стаяць, за руку паздароваюцца. Перад іконай, як прыняць у двор, тожа, як і маладыя, хлеб аддаюць з аднаго двара ў другі.

Ад п-кі з п. Ляда Веткаўскага р. Грыньковай Анастасіі Іванаўны, 1931 г. н., зап. Раманава Л.Д. у 2000 г. у Ветцы. Сш. 62. Ар.108.

**82.** ***“...адзівалі, як нівесту на свадзьбу”***

Ета адзёжкі такія. Ківот адзяваць. Куплялі мацір’ял – цюль. Усё ета куплялі – адзівалі, як нівесту на свадзьбу. Я пераапранала тры раза: к Ражаству, к Паскі і ў сінцябрэ – к празніку. А на пост надзівала ў цёмнаю адзежку. На Піліпаўку. Пост Раждзественскі. На Ражаство апранала ў новаю адзёжку. Стаяла. А патом на пост ужо ў цёмнаю адзёжку. [*Хто шыў адзёжку?*] У каго яна стаяла, с той адзёжкай аддавалі, я патом ужо новаю купляла сваю, і рушнічкі другія вешала.

Ад ж-кі п. Станкі Веткаўскага р. Леўшуновай Валянціны Васільеўны, 1938 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2008 г. Сш. 128. Ар. 2.

**83.** ***“...накідваецца ўвіду фаты”***

На падсвечніку ўнутры была бальшая свяча, па баках – дзве маленькіх… Ета шчытаіцца як фартух, а ета – юбка. А там – ножкі ўсё. А ета накідваецца ўвіду фаты.

Ад ж-к в. Юркавічы Веткаўскага р. Мянковай Марыі Аляксееўны, 1914 г. н., Аўсяйковай Марыі Фёдараўны, 1936 г. н., зап. Лабацкая Г.А. у 1997 г. Сш. 4-відэа. Ар. 2.

**84.** ***“...хлеб-соль мяняюць”***

Як Свячу заносяць, у варотах хлеб-соль мяняюць. У двор, як заходзяць, так маткі-сваты хлеб-соль мяняюць.

Ад п-кі з п. Ляда Веткаўскага р. Грыньковай Анастасіі Іванаўны, 1931 г. н., зап. Раманава Л.Д. у 2004 г. у Ветцы. Сш. 105. Ар. 1.

**85.** ***“...чымадан адзёжы за ёй аддаю”***

“Чымадан адзёжы ў міне ляжыць, такія платкі галаўныя ё, даюць гарусачкі пад крэст, цэлы чымадан адзёжы за ёй аддаю”.

Ад ж-кі в. Старое Сяло Веткаўскага р. Дзярбеевай Валянціны Міхайлаўны, 1939 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2007 г. Сш. 101. Ар. 25.

**86.** ***“...і на вокны, і на іконы”***

Еслі хто “Міколу” бірэ, усю адзежку нада ім аддаваць…У нас усе абрады ёсцека змены – і на вокны, і на іконы. Усё ета мы перавешываім... Ета ўсё знімаюць: і занавескі, і з вакон, і надзяваяць новая. У нас чэмаданы ляжаць пагладжаныя, паўцюжаныя. Дзеўкі прыдуць, гаворацць: “Якую мы сёдня адзежу надзенім?” Пост прыходзіць перад Паскай – у нас пас-

тавоя ўсё, і на іконах усё цёмная. А па празніках мы ўсё меняем. Ета – тры, а, можа, і чатыры разы ў гаду. Яно павісіць, і чыстата, і ўсё раўно нада змяніць. “Давайцечка мы зменім! Павесім другоя!” Усе абрады етыя ёсцека другія. І мы іво меняем. На Ніколу мы менялі, перад Паскай тожэ меняем, а ета пасхальная – усё беленькая. Тоя памыем, пасціраем, паўцюжым, чэмаданы ў нас, паскладаем усё роўненька. І на сталы, і скацеркі ёсць другія.

Ад ж-кі в. Старое Сяло Веткаўскага р. Быльковай Раісы Кандрацьеўны, 1926 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 101. Ар. 23.

**87. *“Столы ставили, как на свадьбу...”***

Вот Илья Пророк. Я помню, на Илью – “Свеча”. Такой обряд. Если, допустим, он подряд, в каком-то доме собирались на ночь, молились, молитвы разные сотворяли, потом, на второй день, обед в этом доме. И икона святого переносилась к тому, кто на следующий год будет справлять эту “Свечу”. Не каждый дом брал, не под силу было. Не приглашённые приходили, а все желающие. И вечером надо было накормить, столы ставили, как на свадьбу, и на второй день надо было накормить. Вся деревня, даже с окрестных деревень собирались. Мы, ещё детки, подбегали, старушки нас угощали, столы, там же яства такие вкусные, мы ж голодные, босоногие, подбегали к этим столам, нас старушки угощали.

Ад п-кі з в. Старое Закружжа Веткаўскага р. Лістападавай Валянціны Мікалаеўны, 1947 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2005 г. у в. Пакалюбічы Гомельскага р. Сш. 54. Ар. 68.

**88. *“…банкеты вадзілі”***

У нас пераносны быў празнік Успеніе. Пераносілі Свячу. Называлась – “Свяча”. І бацюшку прыглашалі, і з другіх дзеравень сходзіліся. А тады, када Свячу эту перанясом, у міне стаяла, ужэ после госці сабіраімся, і прыстольшчына, к каму госці прыходзяць, дажы банкеты вадзілі, свае арганізоваемся, дзве сястры, брат, там шчэ хто, і сённі ў трох дварах пабудзім, а заўтра, што астанецца, і гулялі – гулялі падоўгу празнікі.

Ад п-кі з в. Гарысты Веткаўскага р. Грамыка Ганны Андрэеўны, 1925 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2006 г. у Ветцы. Сш. 64. Ар. 29.

**89.** ***“Мы − чуственныя Госпада Бога...”***

Тады, после вайны, ні было ж нічога, ніякога, а ета ж як ні як, дзед мой старастам быў, а дзед тожэ ж быў званаром. Мы − чуственныя Госпада Бога. І дзяды нашы былі, бацькі − і ўсі. А тады ўжэ, як начали цэркву строіць, а то мая цётка, бацькава дваюрадная, служыла тут, у хатцы, і сабіраліся мы ўсі, людзі − усё сяло сабіраліся к ёй. А хатка ў іе малая была, а ў міне калодзезь на дварэ, дак, як пасвячалі ваду, у міне ўсе былі, і паску ў міне свяцілі. Было ета поўная хата, была тая поўная хата, на дварэ, і кала двара − столькі было людзей! Госпадзі многаміласцівы, штоб даў мне Бог столькі здаровейка. Столькі людзей, як паску пасвяцалі. Ну, праўда, пасвяцалі жэншчыны, папа ж не было, бацькава была дваюрадная, яна такая была гаразда граматная.

Ад ж-кі в. Стаўбун Веткаўскага р. Марозавай Марыі Лаўрэнцьеўны, 1927 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007г. Сш. 73. Ар. 59, 57.

**90.** ***“Ікону дзіржалі ў чыстаце...”***

Очынь бедна жылі крісцьяні, но ўсё раўно ікону дзіржалі ў чыстаце, і была очэнь харашо...

Ад ж-кі в. Давыдаўка Гомельскага р. Панкратоўскай Кацярыны Іванаўны, 1919 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2008 г. Сш. 4. С. 12.

**91.** ***“...служылі жэншчыны”***

Аброчны празнік − эта абізацільна служба. Мы бралі свішчэнніка. Свішчэннік у нас і павічэр’е адпраўляў, і літургію адпраўляў. Як цэркві не было паблізасці, ішчэ нашы мамы, бабушкі, у нас быў свой свішчэннік, тут ацец Андрэй жыў, он іх панавучываў после вайны, і сам служыў, і іх учыў. Када он умер, ужэ служылі жэншчыны, самі старушкі, а патом нам перадалі, мы сталі ўжэ.

Ад ж-кі в. Залаты Рог Веткаўскага р. Нятылькінай Ніны Рыгораўны, 1937 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 123. Ар. 27.

**92.** ***“Як у цэркві служба ідзець...”***

Як у цэркві служба ідзець, так і кала іконы тыя служба ішла. Праўда, бацюшкаў тады не было, тады цэрквы разагналі, ужэ, людзі, каторыя ўмелі чытаць, кніжкі ў каторых ё, служылі службы. Сёдні, прымерна,

увечары служаць, ікона на месьці стаіць, і назаўтрава ўранні прыходзяць, тут жа служаць, а перад абедам яе нясуць у тую хату, хто бярэ яе.

Ад ж-кі Веткі Крацянок Ніны Міхайлаўны, 1924 г. н., родам з п. Свабода Неглюбскага с/с Веткаўскага р., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 105. Ар. 109.

**93.** ***"Іду на павічэр'е"***

[*Як у вас казалі: "Пайду на Свячу, к іконі..?"*]

Іду на вечар. Іду на павічэр'е.

Ад ж-кі в. Пакалюбічы Гомельскага р. Бурцавай Кацярыны Емяльянаўны, 1925 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2009 г. Сш. 4. Ар. 23.

**94.** ***"Адправа – малебен..."***

Што ў цэркві служба, што ў дамах была служба. Адправа – малебен, молюцца етаму празніку.

Ад ж-кі в. Хальч Веткаўскага р. Корнікавай Марыі Фёдараўны, 1929 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 97. Ар. 124.

**95.** ***"Яблакі свяцілі..."***

А "Спас", свякруха балела, абракнулася, здзелала Спасу ікону, папрасіла, іё пасёстра малілася, у матушкі, у Неглюбцы была, так ёй здзелала ікону – "Спас". Яблакі свяцілі ў нас.

Ад ж-кі в. Колбаўка Веткаўскага р. Казловай Ганны Свірыдаўны, 1936 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2007 г. Сш. 73. Ар. 63.

**96.** ***"...дзіцей крысцілі"***

У міне "Міхайла" Свіча была. А на Пітухоўкі і ў Бутрамееўкі – "Мікола". Ка мне, дапусцім, у саседкі вічэра, ка мне пераносяць. Багата людзей. Я гатоўлю бальшой абед. Пераніслі ка мне. Я дзелаю абед. Скока есць народу, я пакупала… Свае гусі, две гусі зарэжу, і галаву свіную куплю, нада ж людзей пакарміць. Павічэралі, Богу памаліліся, каму блізка – уходзяць, каму далёка – начуюць. Заўтра, еслі ў міня была вячэра, на абед радам пераносяць. Там тожа дзелаюць абед. Так ана ішла-ішла па ўсяму. Чатыры двары ні ўзялі, аны Богу не верылі. [*Хто пераносіць?*] Ана ў кіётах. Жэншчыны. Асобенна ўдовы. Кагда ў міне была Свіча, саседка бацюшку прывізла, і дзевіць дзіцей крысцілі. Кум і кума падносяць дзіця – і бацюшка іх крэсця.

Ад ж-кі Веткі Васьковай Кацярыны Іванаўны, 1910 г. н., жыла ў п. Васток Веткаўскага р., зап. Лапацін Г. І. у 2006 г. Сш. 17. Ар. 30.

**97.** ***“На Вялікадня на ўсенашнаю хадзілі к іконі...”***

Манашка ў нас пастаянна жыла. Яна хадзіла на кладбішча, на Радуніцу, адпраўляла пакойнікаў. На Вялікадня на ўсенашнаю хадзілі к іконі. Усе возлі іконы молюцца. Цэркві-то ў нас ні было, далёка. Утрам манашка эта наша пройдзя, перахрысця пасвячонай вадой. Як будта пасвячала. І ўсё. Сабіраюцца і ідуць дамой.

Ад ж-кі Веткі Чмыхавай Марыі Пілiпаўны, 1938 г. н., родам з вёскі Лозаў Буда-Кашалёўскага р., зап. Лапацін Г.І. у 2008 г. Сш. 123. Ар. 39.

**98.** ***“Бацюшка прыяззжаў, дзіцей крысцілі”***

Усе маліліся. У любы дзень. А как празнік, ужэ сабіраліся, абедалі. І дажы крысцілі дзіцей там. Бацюшка прыяззжаў, дзіцей крысцілі. Мікола – эта ў нас празнік.

Ад ж-кі в. Тумарын Веткаўскага р. Сіманавай Валянціны Цімафееўны, 1938 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2008 г. Сш. 134. Ар. 1.

**99.** ***“Бралі тое колосся і здавалі яго на Свячу...”***

Жыта йшлі зажынаць бабы. Я сама жала. Жалі і бралі тое колосся, і здавалі яго кудысь – ці на Свячу, ці ў царкву насілі. Прышла баба, зажыная. Атжала жменячку, січас яго звяжа, і тут, і там маленькі снапочык, і яго кудысь аддавалі, у царкву, ілі якім бабам багамольным, ілі на Свячу.

Ад ж-кі в. Свяцілавічы Веткаўскага р. Казаковай Вольгі Кузьмінічны, 1930 г.н., родам з п. Макаўе Чачэрскага р., зап. Г.І. Лапацін Г.І., Раманава Л.Д. у 2002 г. Сш. 75. Ар. 184.

**100.** ***“«Дарнік» называіцца…”***

Піком посны такі – “дарнік” называіцца, тожы людзі разбіраюць. Як цыліцельная. Эта нашча ўтрам, вот і ў цэркві, як к прычасцію ідом, дак нам жа даюць посны хлеб. Дарнік прыносім, штоб утрам пакушаць, і ўнукам раздаём, я і дачцэ прыказываю: “Глядзі, штоб ты утрам наташчак давала ім”.

Ад ж-кі в. Залаты Рог Веткаўскага р. Літвінавай Вольгі Андрэеўны, 1937 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 123. Ар. 22.

**101.** ***“Ад цэрькваў ішло...”***

Ета ж ад цэрькваў ішло. У нас цэрьква очэнь тут красівая была. Стаяла вон, як магазін стаіць, дак напроціў магазіна на бугрэ. Ета мы помнім усё,

мы ж дзіцямі былі. Дзед у міня работаў у цэркві старастам. Дак ён очэнь тожа багамаленны быў, адседзіў за ету рэлігію. Сільна быў багамаленны.

Мы работалі, пацанамі былі, кала цэрквы, дак як Троіца, дак нада ж, во, явар кладуць, дак мы ўжо пойдзім з большым братам, брат шчэ ў міне быў з дваццаць сёмага года, пойдзім у явара на луг, па вадзе, бярэм, явара етага панарываім, прынясом у цэрькву, па палу сыпалі. Гаворяць, штоб не балелі ногі ў людзей, рукі, дак сыпалі еты явар.

Кажуць, па саломцы етай ідуць, як Свячу нясуць, дак каторыя бралі сколькі саломінак. Ета, гаворяць, сільна лікарственае – парыць, як баляць рукі. Дак гаворяць, ета памагая. Такія разгаворы чула я ад старых людзей.

Ад ж-кі в. Вялікія Нямкі Веткаўскага р. Кірушкінай Веры Фёдараўны, 1929 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 125. Ар. 5.

**102. *“...пяём псалмы”***

Молімся, молімся, аддахнуць селі – пяём псалмы, у перярывах между малітвамі, за абедам.

Ад ж-кі в. Пералёўка Веткаўскага р. Малашанка Лідзіі Ільінішны, 1932 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2007. Сш. 57. Ар. 4241.

**103. *“Псалмы тады пеюцца...”***

Псалмы тады пеюцца, як абед пройдзя, усё ета пройдзя, ікону ўнясуць, садзяцца за сталы, паабедаюць, тады начынаюць псалмы пець.

Ад ж-кі в. Старое Сяло Веткаўскага р. Дзярбеевай Валянціны Міхайлаўны, 1939 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2007 г. Сш. 101. Ар. 27.

**104. *“Вячэра посная, а абед ужо быў скаромны...”***

Вячэра посная, а абед ужо быў скаромны. Многа ўсяго: рыбу жарылі, з грыбамі боршч варылі, грыбы тушылі, картошку варылі, ладкі пяклі, кашы варылі – Куцця посная была, перад Храшчэннем. Даўжна быць посная вячэра. Абед ужо скаромны. Боршч з мясам, блінчыкі, кашу з маслам.

Ад ж-кі в. Свяцілавічы Веткаўскага р. Кавалёвай Марыі Пракопаўны, 1925 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 70. Ар. 67.

**105. *“На Міколу посны абед...”***

Адна з Мінска тожа пытала: “Што вы гатовіця на эты празнік? Усё гатовім: і галубцы, і каўбасу, і сыры, і рыбу студжанаю, рыбу жарыную – усё ўкусная гатовім, і катлеты гатовім. [*А якая выпіўка?*] А біром

харошая віно. І віна выпіваім па чарачцы. І борш варым, і жаронка з мясам – усё ўкусная. [*А што вы печаце?*] Пічом і блінчыкі, і сырнікі з творагам, мачаім у смітану, масла – штоб усё была ўкусная. [*А на Міколу што гатовіце? (Маецца на ўвазе не Свяча, а проста свята.)*] На Міколу посны абед. Ета ў пост. Раждзіственскі пост. Значыць, на Міколу мы так гатовім: боршч з грыбамі, жаронка з грыбамі – пержарым цыбульку, моркву, грыбы. Пякуць пончыкі на падсолнечным, посныя, пасыпаюць пудрай ці сахарам пасыпаюць, у мёд памачаюць. Галубцы дзелаюць тожа посныя – рыс, грыбы ў капусту ўкручаюць. Рыба жараная, кансерву бяруць, сілёдку бяруць. Сабіраюцца ладна, сабіраюцца сталоў на пяць людзей. Зносімся, даём грошы хазяйцы. Тады ўжэ два чалавекі едуць у Гоміль закупліваць прадукты. Тады ўжэ гатовяць вічэру, а к заўтраму гатовяць абед.

Ад ж-кі в. Старое Сяло Веткаўскага р. Дзярбеевай Валянціны Міхайлаўны, 1939 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 101. Ар. 25.

**106. *“...у другой дом, мы ўжо мясное...”***

А прэждзе, чэм несць Свячу ат нас, мы спраўлялі вячэру. Вячэру мы спраўлялі поснаю: грыбы, рыбу с падсолнечным, бульбу тушылі, капусту тушылі, суп, боршч з грыбамі і с падсолнешным. А назаўтряга, як аддавалі Свячу ў другой дом, мы ўжо мясное: паджарку дзелалі, мясноя варылі: паджарку дзелалі, халодная варылі, ладкі пяклі с маслам, блінчыкі.

Ад ж-кі в. Янова Веткаўскага р. Цімашэнка Тамары Аляксееўны, 1942 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 100. Ар. 14.

**107. *“Чысло адно і то жэ, а дні – разныя...”***

Чысло адно і то жэ, а дні – разныя. Еслі была пятніца – посная вічэра, і абед. А еслі чыцверг палучаецца – чыцверг, тада ўжэ не посны, еслі ў пятніцу палучаіцца празнік – абед посны...

Ад групы жанчын з в. Залаты Рог Веткаўскага р. зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 123. Ар. 30.

**108. *“А выпіўкі штоб не было ніякой...”***

А выпіўкі штоб не было ніякой. Акрамя сок свой: яблачны... [*Ні на вячэру, ні на абед?*] Не-не-не. [*Хоць поснае, хоць скаромнае?*] Не-не-не. Ніякіх выпівак. Етага ў нас не было. Так вялось у нас.

Ад ж-к в. Вялікія Нямкі Веткаўскага р. Самусевай Таццяны Фядосаўны, 1930 г. н., Пахоменка Вольгі Паўлаўны, узрост – гадоў 60, зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 125. Ар. 1.

**109.** ***“За ету за рэлігію тады ж адпраўлялі...”***

Дажы я ні знаю, ета справеку веку, образ жа даўны тожа, старынная ўсё – і справеку веку. Я ж ішчэ малая была, дак у нас Свіча, дак матка пасылая: “Дзеці, бяжыця прігласіця людзей!” Таво шта тайна сільна маліліся. Закрывалі мы і вокны каўрамі, штоб свет ні гарэў... Ні відна света. Таво шта еслі б абнаружылі б, вон туды забіралі б. Наш адзін быў веруюшчы, дак сагналі, наверна, гадоў дзесяць адбыў дзета ў свеці, у тайзе. За ету за рэлігію тады ж адпраўлялі, дак мы ўжо тайна дзелалі. Збегаім у тым краю, йдзе блізкія, паблізасці, пазагадаім: “Просім на Божжаю Свячу!” Людзі ж ні знаюць: ці будзім дзелаць, ці не. Ета ж страх быў! Цюрма! Дак штоб людзі зналі, пріходзілі. Дак тайна прыдуць у вечары, памолюцца, павячэраім і назаўтряга абед”.

Ад ж-кі в. Вялікія Нямкі Веткаўскага р. Кірушкінай Веры Фёдараўны, 1929 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 125. Ар. 4.

**110.** ***“Дак усе патроху скідаліся заплаціць той штраф...”***

Яна называлася “Пакроў”. Тут была маладзіца, такая пажылая, а мы к Стараму Сялу... Мы называліся пасёлак Старасельскі – Залаты Рог. Вот, у Старым Сіле яна і січас тая ікона ё – “Прачыстая”. А ета маладзіца, яна ўжэ памерла даўно, ёй ужэ сто пійсят гадоў будзя, гавора: “Што ета мы адзін празнік празнуім?” Пашла заказала ету ікону – “Пакроў”. І мы абракнуліся і правілі. [*Гэта было на вашай памяці?* ]После вайны, мне, можа, гадоў дзесяць, а, можа, і болей. Яна як прынесла іконку тую, яна і стаяла ў іе, а тады бабы, удовы, па вочарадзі насілі цераз год. А тады етыя бабы атмерлі, саплашалі. Яна стаяла на новай вуліцы, тады Грыгораўны матка (*Нятылькіна Ніна Рыгораўна*) ...Перанасілі ноччы. Так было запрашчона. Так ганялі! І то саседка, яна ўжэ памерла, і то падала жалабу, што ў Лізкі ікона. Так штрафу давалі. Дак усе патроху скідаліся заплаціць той штраф.

Ад ж-кі в. Залаты Рог Падабед Вольгі Піліпаўны, 1930 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2008 г. Сш. 123. Ар. 37.

**111.** ***“...я чуствую па кніжках святых”***

Як із хаты выносяць, на дварэ да варот расцілалі. Хто палатно расцеля, а ў каго німа, ветак якіх насячэ да накладзе яловых ці сасновых. Зімой жа якія веткі... Іван жа Красціцель зімой. [*Для чаго рассцілалі?*] Я кніжкі чытала, дак ета я чуствую па кніжках святых. Ісус Хрыстос

ехаў на аслёнку, дак яму падсцілалі свае адзежды. Хто раздзяваў да адзежды падсцілаў свае. А каму не было адзеждаў, дак ламалі ветвы і слалі па дарозі. Хто якую атломя”.

Ад ж-кі Веткі Крацянок Ніны Міхайлаўны, 1924 г. н., родам з п. Свабода Неглюбскага с/с Веткаўскага р. Са Свабоды ў 1948 годзе пераехала ў в.Чырвоны Кут Веткаўскага р. Зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 105. Ар. 109.

**112.** ***“...і ціпер цэняцца адзёжкі са Свячы”***

Са Свічы, людзі, напрымер, на Свячэ абрыкаліся, вешалі палаценцы, хустачкі ‒ эта аддавалі людзям, хто бальны ‒ ён насіў. Асобенна цанілісь і ціпер цэняцца адзёжкі са Свячы. Кажды раз адзёжку міняюць. А адзёжкі эці тагда бальныя людзі біруць. Напрымер, еслі што ў чылавека баліць, напрымер, еслі баліць у іго рука, ён адзёжку разрывая і ўсігда павязывая то места, каторая баліць ‒ і праходзя. Адзёжка такая папала мне са Свічы. С “Міколы” ў міне есць, і сцёжычку мне прынеслі ад “Троіцы”.

Ад ж-кі в. Казацкія Балсуны Веткаўскага р. Гутар Марыі Васільеўны, 1960 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2008 г. Сш. 99. Ар. 105.

**113.** ***“...штоб у доме ўсё была прыятна”***

Нісуць Свічу, брасаюць цвіты із тыя хаты, дзе была, і ў ету хату. Цвіты брасаюць, а людзі ідуць каторыя, падымаяць цвіты і несуць да дому. Етыя цвіты дома храняцца: ад пажару, штоб у доме ўсё была прыятна, усё харашо, штоб не была нікакой, как гаварыцца, ні пажару, ні сваркі. Етыя цвіты прыносяць, становяць дома за іконы.

Ад былой ж-кі в. Глыбаўка Веткаўскага р. Ластачкінай Надзеі Ягораўны, 1947 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. у Ветцы. Сш. 96. Ар. 35.

**114.** ***“Людзі бралі лапачкі...”***

Была Свяча сем гадоў у маёй хаці. Па адной вуліцы ішла – веснавая, па нашай ‒ зімовая. Усе бралі ‒ у кожны двор. Вот, даходзіць да цябе – ты бярэш, даходзіць да цябе – ты бярэш. Красіва выносілі. Із хаты дарожку засцілалі. А па вуліцы ‒ дак ужэ саломку трусілі, а то – лапа, якія ‒ елкі. Людзі бралі лапачкі, з-пад ног, з-пад Міколы ‒ да пад мост. Штоб мышы бульбу не елі. А хто хварэе, так цераз яго ікону пераносілі. Ляжа, а цераз яго ікону перанясуць.

Ад ж-кі в. Барталамееўка Веткаўскага р. Шэвелевай Ганны Цітаўны, 1912 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 1998 г. Сш. 53. Ар. 68.

**115.** ***“Штоб уроку не баялась...”***

Наша баба будзя іціць із Свячы, дак маленькаю лусцінку возьмя хлеба прынясе. Ета карові давала. Я гаварю: “Баб, а для чаго ты карові даеш?” – “Штоб уроку не баялась”.

Ад п-кі з в. Амяльное Веткаўскага р. Грэцкай Варвары Аляксандраўны, 1925 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2008 г. Сш. 117. Ар. 136.

**116.** ***“...ад гразы...”***

Саломку клалі ад двара да двара, па саломцы нясуць. Сабіраюць, пад крышу, ад гразы, грозы ж, дак саломку заторкаюць пад крышы.

Ад ж-кі в. Стаўбун Веткаўскага р. Табанюхавай Таццяны Акімаўны, 1927 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2006 г. Сш. 73. Ар. 52.

**117.** ***“...недагарак бяруць...”***

Во ета, гаворюць, як ад пажара, дак во, як “Свяча” етая, на празнікі запаліваюць, Богу моляцца. Свечкі етыя не дагараюць, тады еты недагарак бяруць ужо, кладуць кала іконы на Куце. Ета ад пажара ўжэ.

Ад ж-кі в. Залессе Чачэрскага р. Трушковай Марыі Хведараўны, 1937 г. н., зап. Нячаева Г.Р., Новікава Л.А. у 1999 г. Сш. 90. Ар. 22.

**118.** ***“Скот абносілі і жыта свяцілі…”***

Абракаліся і куплялі, заказывалі дзярэўняй ету вікону, а тады пераносілі. Абракаліся то на скот, былі балезні якія, дак к нам, як бацюшка прыязжаў, ужо, адкуль – перанос еты, дак з етай віконай абходзілі і скот, падганялі к дзерэўні стада скоту, абходзілі, ён і свяціў скот, і абходзілі скот. [*Маглі ўзяць ікону і ў любы дзень абыйці скот?*] Нет. Толькі на ету, када перанос, у еты дзень. Раждзяство – зімой, а Успеніе – самае, штоканчаіцца жніво, і свяцілі і жыты, і на палях хадзілі з віконай, свяцілі, еслі ўжэ зжатае, дак тое свяцілі, што пасеянае, што ўзойдзе. У міне паабедаяць, еслі ад міне бяруць, і ідуць к етым, хто бярэ. Аброчныя абеды. Абед бальшы, па пяць сталоў станавілі. І сходзіліся старушкі з дзеравень другіх. І жэлаюшчыя вабшчэ. [*Забралі, абносілі скот, жыта?*] Абносілі. [*Потым неслі ў новую хату?*] У новаю хату. [*А калі жыта зжалі, што абносілі?*] Што пасеяць. Што ўжэ пасеялі к будушчаму году.

Ад п-кі з в. Гарысты Веткаўскага р. Грамыка Ганны Андрэеўны, 1925 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2006 г. у Ветцы. Сш. 64. Ар. 28.

**119.** ***“...дажчу доўга не было”***

Нанімалі службу. Папа прывожывалі. Ён маліўся Богу. У нас Свіча была. Дзве іконы. Станочык такі, як стол здзелан. Дзе Свіча стаіць, туда і папа прывожывалі. І паверыце, што і дожч пашоў. Тады дажчу доўга не было. Усе людзічкі сабраліcь. Абед наварылі. Бацюшка. Пеўчыя пелі. І пашоў дожч. Во, гаваруць, Бога німа!

Ад п-кі з в. Вераб’ёўка Веткаўскага р. Пралкінай Ульяны Емяльянаўны, 1917 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2005 г. у Ветцы. Сш. 17. Ар. 27.

**120.** ***“Не выганяй мяне! Я твой бацька!”***

Была ў нас веснавая ікона. Прыняслі яе ка мне, савершэнна маленькая. Я іздзелала кіот бальшушчы, красівы. Ну, вот яна ў мяне прастаяла адзінаццаць гадоў. Дзелала два абеды – на веснавую, што яна веснавая, і на зімавую. Патом ужэ рашыла, што забяруць яе ад мяне. Была Прачыстая, дваццаць першага сенцября, і я рашыла папрасіць жэншчын, штоб яны ад мяне яе забралі. Кагда мы селі абедаць, я папрасіла жэншчын: “Забярыце яе ад мяне. Адзінаццаць гадоў стаіць, так забярыце ў мяне”. Ну, ніхто не браў. Скандал! Тая: “Я не хачу. Мне німа куда!” І паднялі такі скандал. Ніхто не хоча браць. І лягла я вечарам спаць. Но мне кажацца, што не спала, толькі маі глаза закрыліся. І вот, перада мной старычок, увесь беленькі, адзежа беленькая, бародка беленькая, і стаў на каленях перад маёй койкай і перада мной, уродзе б стаіць на каленях і просіць, што “Не выганяй мяне! Я твой бацька!” Я хачу сказать, што я не выганяю, я забалела, у мяне нет сілы, хачу яму сказаць, но ў мяне язык не варочаецца, не магу сказаць. Он апяць паўтарыў: “Не выганяй мяне! Я твой бацька!” І ўсё. Ад крыку я праснулася. Праснулася, каля мяне ўжэ нікаго не было. Вот толькі эта мне прыдалось. І ўжэ назаўтра пашла я к этым жэншчынам і сказала, што я нікому ікону не аддам. Ніхай стаіць у мяне. Так і так мне праснілася. А патом скольки прайшло, і нашолся чалавек, і забралі ў мяне эту ікону. Кагда ікону забралі, с цех пор я забалела.

Ад ж-кі в. Старое Сяло Веткаўскага р. Кір’янавай Ганны Мартынаўны, 1931 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2003 г. Сш. 101. Ар. 17-16.

**121.** ***“Яна ні дала табе ікону, дак ён сам к табе прышоў”***

Мне так было. Я папрасіла ў Зіны [Свячу], а яна ні дала. Дак ён сам ка мне прышоў. Я Пятроўні кажу, старшая была, што маліліся: “Пятроўна, ты знаіш што? Зіна ні дала мне Свячу, дак я лягла спаць і бачу сон. Прышоў

такі дзядок, нібальшы такі дзядок, сівая галава. Ён прышоў ка мне, я думала: "Ета – старэц!" Як ішоў, дак пашоў за фіранку і стаў, дзе іконы стаяць. Дак я гавару: "А што ты тут дзелаіш? – на яго. Старэц жа! А ён гавора: "Маладзіца, нічога я ў цібе дзелаць ні буду. Толькі пастаю". Дак Пятроўна прышла, я гавару: "Пятроўна, ты знаіш што? Так і так ва сне бачыла". Дак яна кажа: "Яна ні дала табе ікону, дак ён сам к табе прышоў".

Ад ж-кі в. Глухаўка Веткаўскага р. Шынкаровай Веры Сцяпанаўны, 1931 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2009 г. Сш. 107. Ар. 5.

**122.** ***"А яна ні абпіла, ні аб'ела – ікона"***

Горя па міру многа. І ў дзірэўні многа горя бывая. І вот усе бралі дажэ падряд. Горя ніхто ні хацеў. А яна ні абпіла, ні аб'ела – ікона. Я ж вам казала, што толькі ізгатовіць адзін абед чылавеку. Чылавек бірэ радзі тога, штоб ні паяўлялася ў дварэ гора.

Ад ж-кі в. Бабічы Чачэрскага р. Радзькоўскай Наталлі Ягораўны, 1929 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2009 г. Сш. 130. Ар. 4.

**123.** ***"Німа ўжэ каму. Маладых німа..."***

Прычом тут німа за што? Атышло ўсё, атышло. Абед справілі б, дапусцім, да ўжэ ано атышло. Німа ўжэ каму. Маладых німа... Эта ціпер сталі прыкланяцца к Богу, і цэрквы... А раньшэ што было, папробуй штонібудь сказаць ці ў школі, ці дзе. Раньшэ што, хрысцілі дзіцей? Не было ж этага. Эта ціпер сталі... у каждай дзірэўні, на каждам вуглу цэркві. Музеі ў школах атеісціческіе ўсё ўрэмя былі. Счас шчадруюць на шчодрах... Ого! папробуй было б пайці пашчадраваць, на каленках скольکі будуць табе даваць, і к дзірэктару павядуць: "Што ты хадзіў міласціні прасіць?!"

Ад ж-ак в. Капань Рэчыцкага р. Філончык Таццяны Мікалаеўны, 1940 г. н., Вярэнка Яўгеніі Сямёнаўны, 1938 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Архіў аўтара.

**124.** ***"А людзі ў нас пенсіанеры, німа за што здзелаць..."***

Самой мне не прыхадзілася відзіць такое. Эта па расказам нашых радзіцелей. Эта ікона каждыгод перанасілася на Міхайлу, хто жэлае забраць к сібе, туда і перанасілі. Преждзе, чэм эту ікону перенесці, нужна была здзелаць вічэру. Усё село сабіралася. І ўсе людзі шлі за этай іконай, і перанеслі ў другую хату. Там тожы дзелалі ўстрэчны абед. Эта ікона ў нашай

дзірэўні есць. Ана находзіцца... нікуда ніхто не берёт. Патаму шта преждзе чэм забраць ікону, нужна здзелаць вічэру. А людзі ў нас пенсіанеры, німа за што здзелаць.

Ад ж-кі в. Капань Рэчыцкага р. Вярэнка Яўгеніі Сямёнаўны, 1938 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Архіў аўтара.

**125.** ***"Людзі пабагацелі, пагардзіліся, ні сталі ікону браць..."***

Ету ікону дзве старушкі прынěслі з Чыстых Луж. Хадзілі ў Чыстыя Лужы і прынěслі, і здзелалі ківот, такі, як станок − ён называіцца *ківот*. І насілі з хаты ў хату. Послі вайны. Раньшы бралі: з хаты ў хату хадзіла ікона. Я тут ні жыла, но я так гавару, як я слышала. А патом людзі пабагацелі, пагардзіліся, ні сталі ікону браць, асталась ікона ў Лубачкінай Ульяны. Яна ўжэ ўмерла, ей была дзівяноста лет. І кагда ана была ішчо жывая, ана забрала ету ікону (ніхто ні браў у адной жэншчыны) і дзве жэншчыны забралі іё к етай Ульяні. Ані пеўчыя, адпраўлялі. А патом ніхто ні браў у етай Ульляны ікону. Ана ў іё прастаяла трынаццаць лет. А патом задумала я ўзяць ікону ету. Я жыла ў Хальчы. І раньшы ў Хальчы была Пітро − дзвінаццатага іюля, дваццаць первага наябра − Міхайла. Мы былі дзіўчонкамі, і дзевачкі насілі тада іконы. І мы насілі ікону з хаты ў хату. А мы ў сорак дзівятым гаду пагарэлі, хата згарэла наша, маленькая хатка была ў нас, некуда браць, і я дала сібе слова такоя: што кагда я буду жыць і жыва, і будзя ў міне бальшая хата, я вазьму ікону. Патом я замуж вышла ў Станкі, і ўзяла ў етай Улляны ікону. Усё ж я сваё слова здзіржала. Дзеці павучыліс, прыпуціла, асталіс мы з дзедушкам жыць, і я рашыла: слова дала − клятву сваю ісполніць: і ўзяла ету ікону. Ана ўжо ў міне стаіць пітнаццаты год. Ужо ніхто тожа ні бірот. Патаму шта ўжо людзей німа, старычкі, старычкі. Но ана ж мне ні лішняя. Я к ней Богу малюсь.

Ад ж-кі п. Станкі Веткаўскага р. Леўшуновай Валянціны Васільеўны, 1938 г. н., у 2008 г. зап. Лапацін Г.І. Сш. 128. Ар. 1.

**126.** ***"Цяпер уткнуцца хто ў целівізар, хто куды..."***

Цяпер уткнуцца хто ў целівізар, хто куды, а тада не, управіліс, пазаўтракалі, папярадзяваліся ў чысцінькая: "Пойдам к іконі!" К іконі прыдуць, пасядзят там. І ў васкрасенне хадзілі, і які празнік прыдзя, вот, сёдня, тамака скажаць: "Сёдня − Іван. Работаць нельзя. Давайця пойдам к "Свячэ". Так казалі. Пойдуць, пасядзяць, пагамонят там, памоляцца, папрашчаюцца с іконай, пашлі дамоў.

Ад ж-кі в. Капань Рэчыцкага р. Каюковай Макрэны Савелаўны, 1914 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Архіў аўтара.

**127.** ***“Бабушка, не аддавай нікому Отчэ Ніколу...”***

І летась ацец Сергій быў, мы яго правадзілі, Люба вышла, ён гаворыць: “Любоў, мамка ўжэ пажылая, да і с кастылёчыкам. Можа, мы кудынебудзь, старушку якую-небудзь нашлі, да можа ікону хто ўзяў?” Дак Люба гаворыць: “Ацец Сергій, вы знаіця што? Еслі не палучыцца ў нашай жызні ў хаці жыць, чытыры ж унукі, можа, які пажэніцца, можа, хто прыдзя к бабе жыці, мы нікому не аддадзім. Сколька мамка будзя жыць, еслі ў нас нічога ў сім’е не палучыцца, ніхай стаіць у нас”. Дак ён: “Ох, Любоў, какія слава пріятныя паслухаць!” – “Ніхай стаіць. У нас жа адна мамка. Прыдзем памагаім”. Унук адзін ё – Андрэй, ён ужэ адзінаццаць класаў кончыў, дак ён кажа: “Бабушка, не аддавай нікому Сваціцеля Отчэ Ніколу. Ніхай стаіць у нас”. Дак я гавару: “Андрушка, будзя стаяць у нас, пакуль мая сілачка будзя браць”.

Ад ж-кі в. Старое Сяло Веткаўскага р. Быльковай Раісы Кандрацьеўны, 1926 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 101. Ар. 22.

**128.** ***“...мы забралі іе дамоў”***

Бацька мой расказываў, што бацька яго абрякнуўся купіць ету ікону. Ён купіў, і яна сушчэствавала. І хадзіла ета ікона па людзях: з аднаго дома ў другі дом, кагда падыходжыя ета ўрэмя. Церяз год. Напрымер, яна стаіць год у міне ілі ішчэ ў каго, стаіць год, патом другі чылавек заказывая, а патом следушчы. Так іна хадзіла з двара ў двор. А тады ўжо ніхто ні стаў абрашчацца, ніхто браць ні стаў, дак у саседкі была ікона ета, мы забралі іе дамоў. Бацька сказаў: “Еслі ніхто ні бярэ, то забіром на места. Пусць у етым домі стаіць”. [*Па якой прычыне яе завялі?*] Ён што-та храмаў на нагу, што там стала, ні знаю. Ён проста абрякнуўся і купіў ету ікону. [*Калі гэта было?*] Бацька мой з чатырнацтага, яму лет пітнаццаць была, як купілі ету ікону. [*Яна хадзіла па адным краі?*] Па ўсяму Янову. [*Апошні раз калі пераносілі?*] Ацец умер лет шэсць, і да атца... Лет дзевяць-дзесяць назад мы ад саседкі забралі. Мы самі спраўляім проста. Дзеці прыязжаюць на еты празнік. Богу памолімся возлі яе. Утрам за сталом пасядзім, успомнім. Сідзьмога чысла.

Ад ж-ра в. Янова Веткаўскага р. Казакова Пятра Дзмітрыевіча, 1954 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2008 г. Сш. 100. Ар. 23.

**129.** ***“...молімся, нас людзей мала саўсім”***

У нас вот, напрымер, мы ў уваскрысенне молімся, нас людзей мала саўсім. Ета нас пяць чылавек пеўчых, шэсць, чатыры ўжэ асталіся. А ета

мы маладых прынімаім трохі пабочных, штоб вучыліся, штоб прадалжэніе ішло. А так чылавек на дзесяць-дзвенаццаць. Болей не ходзяць. [*Маладыя не ходзяць?*] Ета вот етыя, што пажылыя ходзяць, і ўсё. Яны: "Еслі б у нас цэрква была, мы б хадзілі. А што мы па хатах будзім хадзіці?" Ну, якая разніца? Служба ж адна ідзе.

Ад ж-кі в. Старое Сяло Веткаўскага р. Дзярбеевай Валянціны Міхайлаўны, 1939 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2007 г. Сш. 101. Ар. 25.

**130.** ***"Она хранит нас..."***

Когда я еще была маленькая, у нас была икона "Казанской Божьей Матери". Эта икона переходила из дома в дом. Всегда к празднику шилась обновка. Она одевалась в новый наряд. А все одежки, что были, они передавались. Люди брали, потом что-то стиралось, одевалось. То поколение, что раньше было, они росли в немножко другом социуме и по другим понятиям. Год же не просто так, он проходит какие-то этапы, есть какие-то уставы церковные. Они их выполняли. Если был пост – одевались более тёмные одежды. Если был праздник – более светлые. Это было. Тогда были тканые длинные рулоны, с них полотенца делали, стелили, и по нему несли. Ничего не было. Материалу взять не было где. И собрать тот стол. С чего его собрать? Было сложно и трудно. Но люди брали по другим соображениям. Брали по соображениям того, что это нужно сделать, и это будет какая-то помощь, и это принесет благословение в этот дом, на этот род, на деток. Я помню, в нашей деревне было очень много молодых людей и в каждой семье было много деток. И каждый родитель старался уберечь нас, как-то направить нас. И поэтому тогда Свечу забирали. А сейчас миром правят деньги. С годами стали меньше забирать. Последнее время, не меньше десяти лет, забирала моя мама. Она у нас была, и никто не изъявлял желания забирать. И всегда была служба, только вечерней у нас не было, а дневная всегда была. И мамы уже нет три года, но икона у нас, приглашаем, чтоб к нам приходили. К нам приходят, и мы празднуем. И икона нам помогает, она хранит нас: нашу семью, род.

Ад ж-кі Гомеля Дрозд Тамары Ігнацьеўны, 1952 г. н., родам з п. Пабеда Хальчанскага с/с Веткаўскага р., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Сш. 97. Ар. 123.

**131.** ***"Ідзець чэраз пакаленіе..."***

Вот, напрымер, хай маць жывёт, еслі ўжо маць умрёт, я забяру ікону Свячу. Ідзець чэраз пакаленіе.

Ад ж-кі в. Вялікія Нямкі Веткаўскага р. Кавальковай Ніны Міхайлаўны, 1958 г. н., зап. Лапацін Г. І. у 2007 г. Сш. 125. Ар. 3.

**132.** ***“Сваё ішчо бірот рода...”***

Я і тут Міколу − Мікольшчыну дзелаю. Абед здзелаім − сёдні Мікола-святы угодзец! Па-калісясняму ж. Усё-такі цягнецца ішчэ. Сваё ішчо бірот рода. Сваёй сямьёй.

Ад п-кі з в. Барталамееўка Веткаўскага р. Гапеевай Наталлі Трафімаўны, 1930 г. н., зап. Лапацін Г.І. у Ветцы у 2008 г. Сш. 119. Ар. 12.

**133.** ***“Яна даўжна быць у нашай дзірэўні пажызніна...”***

Наша дзірэўня абраклісь, што еслі стаіць “Нікола” ў міне, яна даўжна быць у нашай дзірэўні пажызніна**.** Яна была і да вайны, і послі вайны... штоб яна стаяла ў нашым сіле. Нікуда іе ні нада. Ну, еслі, када ўйдут такія боліе-меніе людзі богуверушчыя, еслі ні захочаць маладзёж, нікуда – тольκі ў цэркву!

Ад ж-кі в. Асаўцы Гомельскага р. Яўдохавай Яўгеніі Фадзееўны, 1943. г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2010 г. Сш. 4. Ар. 28.

**134.** ***“Наша радзіна з Антонаўкі...”***

Я сам нарадзіўся у Свердлаўске.

[*Бабуля адкуль?*]

Аны перасяленцы з Беларусії былі ў Цюменскаю вобласць. Там цэлыя вёскі стаяць.

[*Калі яны перасяліліся?*]

У тысяча васімсот дзевяностам гаду перясяляліся ў Сібір.

[*З якой вёскі?*]

Наша радзіна з Антонаўкі, а другая з Балсуноў Казацкіх.

Бабуля, у Ермаках ана жыла. Эта ў Сібіры. Цюменская вобласць. А нарадзілася ана ў вёскі Ялоўка. А замуж пашла ў Ермакі.

[*Ялоўка ў Сібіры?*]

Ялоўка ў нас. І там Ялоўка. Так жэ. Людзі, як перасялялісь, так і назвалі, у памяць.

У нас жывуць у Асінаўкі... Там у ніх такі звычай. У іх нейкі дзядзька некалі ікону зрабіў па абычаю, па свойму звычаю. Так сказаць, хатаю... Такая хатка робіцца, і ікона ў ёй... І гэту хатку... ана качуя із года ў год... на Ражыство носят іё па сялу. Трусят саломаю... эта па вуліцы... чатыры жанчыны бярут носілкі. На носілкі ставят эту хатку з іконаю Богородзіцы, і нісут. А людзі ўсе схіляюцца, наўскленкі становяцца, штобы носілкі з хаткаю, з этай Богородзіцаю, прашлі над імі. А вот, калі хто хворы,

то яны просят, штоб таго чылавека прыціснулі эцімі носілкамі, штобы хвароба атышла, штобы Царыца Нібесная дапамагала. І вот, яны нясут іе. Но гэтая хатка з этай Богородзіцаю... ана качуіт із года ў год па хатам. У гэтым годзе ана стаіт у міне ў хаце, у Красным углу. На другі год ана будзіт у маіго суседа. На трэцці год – далей. Яна так па ўсяму сялу качуя із года ў год. Па хатам. Эта такой звычай.

Свячу красют, такую ставят...

[*Што значыць: свячу "красют"?*]

Сукают свячу сваю... з воску робят эту свячу. Яё гарна ўпрыгожываают. І яна стаіт кала гэтай Богуродзіцы. Кожны год свяча новая. Вот, ана ў міне пабыла, другі бірэ, он ужэ іе ўпрыгожывае, а патом следушчы. І так кожны. Як аны кажут, еслі зробіш гарнаю, так сказаць, свячу, значыт, будзя ў цібе ўсё добра, і Царыца будзя памагаць будзя табе.

[*Што значыць гарнаю?*]

Гарнаю. Прыгожаю. Чым красівей... і цібе спагада, што людзі будут дзівіцца: "Ой, які Мікалай, дапусцім, гарнаю якую зрабілі свячу Царыцы Нябеснай!" Ад гэтага ана і дапамагая патом.

[*Чым яна гарная?*]

Хто стужкамі ўкрашая, хвартушкі, хвартух – па-нашаму, а кто робіць ішчэ як... вот барвінак, он ведь вечна зялёны. Некалі дажэ вяселля калі рабілі... Зімой... А нічога ведзь німа, дак вот, кала хаты барвінкі былі, пад снегам яны... Іх выкопывалі і рабілі...

[*Патом адзёжкі не бралі... на лекі?*]

Іх спалівалі. Другая хата будзя сваё рабіць.

Гэта ў Асінаўцы было.

Ад ж-ра Свярдлоўска Басякова Міхася Іванавіча, 1965 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2011 г. Сш. 67. Ар. 13-14.

**135. *"...ета наша ікона... Забяры ікону"***

Увечары прыходзілі бабкі. Тады бацюшкі прыязжалі. Бацюшкам запрышчалі, так самі старыкі сабіраліся. У нас дзідок быў, ён памёр ужэ, он усягда спраўляў. Прыязжалі жэншчыны з Веткі, прыходзілі і з Бесядзі, і з Вераб'ёўкі прыходзілі, сабіраліся, маліліся, вічэрню служылі ўвечары, патом была вячэра, патом вутрам сабіраліся на ўтряняю. Тада пераносілі ў другую хату. У другой хаце маліліся, абед быў. Так кажды год. Пака ўсё эта прэкраціласяся. Старыя людзі сталі атміраць, маладыя этым не занімаліся. Так усё атышло. "Прачыстаю" здалі ў храм у Ветку. "Раздзіство" мая дваюрадная сістра, у ніх астанавілась эта ікона, матка іе памерла, ана са-

ма на Ўкраіні, у Крывом Рагу, завезла туды ікону. Бацька мой, када пам іраў, гаварыў нівесткі нашай, братавай жонцы: "Тонька, забяры ікону. Эта наша ікона". Ну, іна завезла. Так там асталась. Усё прыкрацілась.

[*Што значыць "наша ікона"?*]

Бацькі майго бацькі была ікона. Наверна, іны іе дзелалі, што ён сказаў, шта "ета наша ікона... Забяры ікону".

Ад п-кі з в. Ляскі Веткаўскага р. Вашчанка Марыі Кузьмінічны, 1930 г. н., зап. Лапацін Г.І. у Ветцы у 2009 г. Сш. 2. Ар. 17.

**136. *"Эта жэ – празнік..."***

Эта жэ – празнік. У нас бы відзілі, што дзелалась на дваццаць перваrа наября после вайны. З работы ідзеш, дзень малы, і дзірэўня шуміт! Шуміт дзірэўня – такі празнік быў. А патом пасціпенна, пасціпенна, как-то ано пала.

Ад ж-ра в. Капань Рэчыцкага р. Маеўскага Міколы Рыгоравіча, 1927 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. Архіў аўтара.

**137. *"І яна ў іх была, пакудава Чырнобаль..."***

У тысча дзевяцьсот сорак сідмом гаду гарэла дзірэўня Барталамееўка. А патом пажар унічтожыў две ўліцы. І кагда дашоў пажар да цэркві, цэркаў асталася нетронутая пажаром, і перакінула на ўтарую старану ўліцы, гдзе не была цэркві, і дагарэла да канца ўліца. А эта старана, гдзе цэркаў была, асталася нетронутая. У нас, у дзірэўні, быў святы Мікола Чудатворэц, яго пачыталі, і быў прыстольны празнік, усягда празнаваўся – у маі – дваццаць утарога, і дзівятнаццатага дзікабра. А кагда ўжэ цэркаў разбурылі, здзелалі з цэрквы клуб, людзі сталі маліцца ў дамах, сталі перанасіць ікону "Міколу Чудатворца", хто пажалае з жыцілей дзірэўні. І ўстраівалі абед, маліліс Богу. Пачыталі святога Мікалая Чудатворца. Патом ікона асталась у Шэвялевай Ганны. І яна ў іх была, пакудава Чырнобаль.

Ад п-кі з в. Барталамееўка Самахвалавай Надзеі Пятроўны, 1947 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2007 г. у Добрушы. Сш. 119. Ар. 9.

**138. *"...ні хат німа, нічога. А калісь хадзілі"***

Святы Юрый-Пабеданосяц. Дзелалі "Свячу", маліліся па ём, па Юрыю. На нісімкавіцкай Сычаўкі. Дак ужо ўбралі – ні хат німа, нічога. А калісь хадзілі.

Ад ж-кі в. Рудня-Нісімкавіцкая Чачэрскага р. Пракапенка Паліны Сцяпанаўны, 1922 г.н., зап. Лапацін Г.І., Раманава у 2002 г. Сш.75. Ар.167.

Дадатак 3

# Малюнкі па абраду "Свяча".

## Па матэрыялах экспедыцый Веткаўскага музея стараабраднiцтва i беларускiх традыцый iмя Ф.Р. Шклярава

1. Смаленская в., Ершычскі р., в. Ціхань. Малюнак зрабіла н.с. Мазейка Л.М. у 1998 г. Сш. 80. Ар.1.

2. Малюнак зроблены ж-кай Веткі Кандраценка Таццянай Рыгораўнай, 1958 г. н., родам з в. Малінаўка Веткаўскага р., у 2007 г. Сш. 68. Ар. 9.

2. Малюнак зроблены ж-кай в. Радуга Веткаўскага р. Цейкінай Марыяй Яфімаўнай, 1934 г. н., у 2007 г. Сш. 123. Ар. 19.

4. Кармянскі р., в. Кароцькі. Малюнак зрабіла н.с. Ананьева Т.А. у 1999 г. Сш. 92. Ар. 9.

5. Магілёўская в., Хоцімскі р., в. Малуноўка. Малюнак зрабіла н.с. Новікава Л.А. у 1998 г.

6. Веткаўскі р, в. Вялікія Нямкі. Малюнак зрабіла н.с. Лабацкая Г.А. у 1995 г. Сш. 58. Ар. 2.

7. Веткаўскі р., в. Данілавічы. Малюнак зрабіла н.с. Лабацкая Г.А. у 1995 г. Сш. 58. Ар. 8.

8. Веткаўскі р., в. Янова. Малюнак зрабіла н.с. Лабацкая Г.А. у 1995 г. Сш. 58. Ар. 11.

9. Веткаўскі р., в. Янова. Малюнак зрабіла н.с. Лабацкая Г.А. у 1995 г. Сш. Ар. 10.

10. Паводле аповеду п-аў з в. Пацёсы Веткаўскага р. Булановіча Віктара Аляксеевіча, 1932 г. н., Булановіч Аляксандры Аўрамаўны, 1931 г. н., малюнак зрабіла н.с. Лабацкая Г.А. у 1995 г. Сш. 59. Ар. 4.

11. Паводле аповеду ж-кі в. Юркавічы Веткаўскага р. Аўсяйковай Марыі Фёдараўны, 1936 г. н., у 2001 г. рэканструявалі Л.Д. Раманава і Л.Л. Галафаеў. (Экспазіцыя Веткаўскага музея стараабраднiцтва і беларускіх традыцый ім. Ф.Р. Шклярава.)

12. Паводле аповеду п-кі з в. Амяльное Веткаўскага р. Грэцкай Варвары Аляксандраўны, 1925 г.н., у 2001 г. рэканструявалі Л.Д. Раманава і Л.Л. Галафаеў. (Экспазіцыя Веткаўскага музея стараабраднiцтва і беларускіх традыцый ім. Ф.Р. Шклярава.)

13. Паводле аповеду ж-кі в. Красная Буда Добрушскага р. Зубаравай Таццяны Нікіфараўны, 1941г. н., у 2001 г. рэканструявалі Л.Д. Раманава і Л.Л. Галафаеў. (Экспазіцыя Веткаўскага музея стараабраднiцтва і беларускіх традыцый ім. Ф.Р. Шклярава.)

14. Чачэрскі р., в. Красніца. Паводле відэазапісу. У 2001 г. рэканструявалі Л.Д. Раманава і Л.Л. Галафаеў. (Экспазіцыя Веткаўскага музея стараабраднiцтва і беларускіх традыцый ім. Ф.Р. Шклярава.)

15. Паводле аповеду ж-кі в. Заляддзе Веткаўскага р. Фяськовай Алены Кандратаўны, 1914 г. н., у 2001 г. рэканструявалі Л.Д. Раманава і Л.Л. Галафаеў. (Экспазіцыя Веткаўскага музея стараабраднiцтва і беларускіх традыцый ім. Ф.Р. Шклярава.)

16. Веткаўскі р., в. Гарадок. Малюнак зрабіла н.с. Мазейка Л.М. у 2001 г. Сш. 73. Ар. 38.

17. Веткаўскі р., в. Залаты Рог. Малюнак зрабіў н.с. Скідан А.В. у 2008 г. Сш. 123. Ар. 38.



Дадатак 4

# Бібліяграфія абраду "Свяча"


1.

Афанасьев, А.Н. Поэтические воззрения славян на природу. В трёх томах / А.Н. Афанасьев. − Москва: Современный писатель, 1995. − Т.2. − 400 с.

Братчина святителя Николая при витебской Иліинской церкви // Полоцкие епархиальные ведомости. Отдел неофициальный. − 1875. − № 24. − С. 880−884.

Викул, П.Ф. Братские свечи: Исторический очерк / П.Ф. Викул // Подольские епархиальные ведомости. − 1904. − № 22−23.

Викул, П. Братские свечи: исторический очерк / П. Викул // Полтавские епархиальные ведомости. – 1924. − № 24. – С. 526 –540; № 25. – С. 545 –552; № 26. − С. 579–591.

Грузинский, А.Е. Из этнографических наблюдений в Речицком уезде Минской губернии / А.Е. Грузинский // Этнографическое обозрение. − 1891. − № 7. − С. 142−156.

Добровольский, В. Значение народного праздника "Свечи" / В. Добровольский // Этнографическое обозрение. − 1900. − № 4. − С. 35−51.

Жудро, Ф. Свеча − белорусский церковно-бытовой праздник / Ф. Жудро // Могилёвские епархиальные ведомости. − 1893. − № 13. − С. 232−236.

Зеленин, Д. К. Восточнославянская этнография / Д.К. Зеленин. − Москва: Наука, 1991. − С. 386−387.

Лисицин, М. Обряд "сечения" свечи и как к этому относиться? / М. Лисицин // Смоленские епархиальные ведомости. − 1898. − С. 272.

Описание церквей и приходов Минской епархии. Вып. II. Борисовский уезд. − 1879. − С. 192.

Опытъ описания Могилёвской губернии в трёхъ книгахъ. Составленъ по программе и под редакцію А. С. Дембовецкого. Книга 1. − Могилёвъ-на-Днепре, 1882. − С. 494, 520, 630, 634.

Праздник "Света" у белорусов // Русский паломник. − 1891. − № 6. − С. 93, 95.

Смоленскій областной словарь / Составилъ В.Н. Добровольский. − Смоленск: Типографія П. А. Силина. 1914. − С. 39, 40, 410, 820.

По поводу белорусского праздника Свечи / Труды Девятого археологического съезда в Вильне. В 1893 г. / Под ред. граф. Уваровой и С.С. Слуцкого. − Москва, 1897. − Т. 2. − С. 114.

Шейн, П.В. Матеріалы для изученія быта и языка русскаго населенія Северо-Западного края. Собранные и приведенные въ порядок П.В. Шейномъ. Т. III / Сборникъ отдъленія русскаго языка и словесности. − Т. LXXII, 4. СПб.: Типография Императорской Академіи наукъ,1902. − С. 173–185.

2.

Андреевец, Г.Н. Две Родины / Г.Н. Андреевец. − Москва: Филиал ФГУП "Военное издательство", 2009. − С. 230−231.

Бялявіна, В.М., Гурко, А.У., Кухаронак, Т.І., Ракава, Л.В. Святы / В.М. Бялявіна, А.У. Гурко, Т.І. Кухаронак, Л.В. Ракава // Беларусы. Т. 6. Грамадскія традыцыі. В.Ф. Бацяеў, В.М. Бялявіна, А.У. Гурко і інш. Рэдкал.: В.М. Бялявіна і інш. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі. − Мінск: Беларуская навука, 2002. − С. 348−349.

Богушев, А.Н., Фёдоров, Р.Ю. Принципы расселения и этнокультурные процессы в среде белорусских переселенцев Урала и Западной Сибири // А.Н. Богушев, Р.Ю. Фёдоров // Вестник археологии, антропологии и этнографии. − Тюмень: Издательство ИПОС СО РАН, 2010. − № 2 (13). − С.157−162.

Громыко, М.М. Мир русской деревни / М.М. Громыко − Москва: Молодая гвардия, 1991. − С. 368−371.

Катовіч, А., Крук, Я. Аброчная свечка святой Варвары / А. Катовіч, Я. Крук // Звязда. − 2010. − 15 верасня. − С. 6.

Катовіч, А., Крук, Я. Веснавыя святы: нарысы: у 2 кн. Кн. 1 / А. Катовіч, Я. Крук. − Мінск: Мастацкая літаратура, 2005. − С. 326−327.

Лабачэўская, Вольга. Абрад "гуляць ікону" як праява народнага хрысціянства на беларуска-расійскім памежжы / В. Лабачэўская // Pogranicza Białorusi w perspektywie bnerdyscplinarney. Redacya naukova Elžbieta Smłkowa I Anna Engeling. − Warszawa, 2007. − С. 403 – 430.

Листова, Т.А. Братский праздник "Свеча" на белорусско-русском пограничье. Ареал распространения и локальные особенности / Т. Листова // Пытанні мастацтвазнаўства і фалькларыстыкі. Вып. 3, ч. 2. Матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай 50-гадоваму юбілею ІМЭФ імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі "Мастацтвазнаўства, фальклор, этнічныя традыцыі ў выражэнні актуальных задач сучаснай культуры", Мінск, 7−8 чэрвеня 2007г. − Мінск: ВТАА "Права і эканоміка", 2007. − С. 145−151.

Лобачевская, О.А., Фёдоров, Р.Ю. "Свеча" в Сибири: этнографический и культуро-антропологический аспекты бытования обряда у белорусских

переселенцев / О.А. Лобачевская, Р.Ю. Фёдоров // Вестник археологии, антропологии и этнографии. − Тюмень: Издательство ИПОС СО РАН. − 2012. − №1 (16). − С. 72−82.

Лозка, А.Ю. Беларускі народны каляндар / А.Ю. Лозка. − Мінск: Полымя, 2002. − С. 228−230.

Мельников, А.А. Путь печален. Исторические свидетельства о святости Белой Руси / А.А. Мельников. − Издание Белорусской православной церкви Московского Патриархата, 1992. − С. 239.

Перепелюк, А. "Михайловская свеча": самобытный обряд / А. Перепелюк // Адзінства. Барысаўская гарадская газета. − 2009. − 25 лістапада. − С. 23.

Пономарьов, А.П., Артюх, А.Ф., Косміна, Т.В. Українська минувшина: Ілюстрований етнографічний довіднік /А.П. Пономарьов, А.Ф. Артюх, Т.В. Косміна − Київ: Либідь,1994. − С. 162.

Фёдоров, Р.Ю. Обряд "Свеча" у белорусских переселенцев в Западной Сибири / Р.Ю. Фёдоров // Пытанні мастацтвазнаўства, этналогіі і фалькларыстыкі. Вып. 10. / Навук. рэд. А.І. Лакотка. − Мінск: Права і эканоміка, 2011. − С. 465–469.

3.

Лапацін, Г.І. Абрад "Свяча" ў вёсцы Капань Рэчыцкага раёна / Г.І. Лапацін // "Шостыя навуковыя Доўнараўскія чытанні", Міжнародная навуковая канферэнцыя, 14−15 лістапада 2007 г. : у 2 ч. Ч. 2: Рэчыца ў часе і прасторы: 795 год заснавання горада / В.М. Лебедзева (адк. рэд.) [і інш.]. − Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2008. − С. 24−29.

Лапацін, Г.І. Абрад "свячы" ва Ўсходнім Палессі / Г.І. Лапацін // Аўтэнтычны фальклор: праблемы бытавання, выхавання, пераймання: матэрыялы навук.-метад. канф. (15−16 сакавіка 2007 г.) / Рэдак. кал. М.Л. Кузьмініч (адк. рэд.) [і інш.] − Мінск: Бел. дзярж. ун-т культуры і мастацтваў, 2007. − С. 84−89.

Лапацін, Г.І. Абрад "свяча" ў вёсцы Неглюбка Веткаўскага раёна. Агульнае і адметнае / Г.І. Лапацін // Аўтэнтычны фальклор: праблемы бытавання, выхавання, пераймання: Зборнік навуковых прац удзельнікаў II Рэспубліканскай навукова-метадычнай канферэнцыі (Мінск, 27−28 сакавіка 2008 г.) / БДУКМ; Рэдкал.: Мажэйка М.А. (адк. рэд.) [і інш.]. − Мінск: БДУКМ, 2009. − С. 20−22.

Лапацін, Г.І. Божая адзёжка. Аб уплыве кананічных тэкстаў на народнае хрысціянства на прыкладзе абраду Свяча / Г.І. Лапацін // Аўтэнтычны

фальклор: праблемы захавання, вывучэння, успрымання: зборнік навуковых прац удзельнікаў V Міжнароднай канферэнцыі (Мінск, 29–30 красавіка – 1 мая 2011 г.) БДУ КМ; рэдкал.: Мажэйка М.А. (адказ. рэд.) [і інш.]. – Мінск: БДУ КМ, 2011. – С. 93–97.

Лапацін, Г. Дзесятуха ў Шарсціне / Г. Лапацін // Голас Веткаўшчыны. – 2008. – 11 кастрычніка. – С. 7.

Лапацін, Г.І. “Зайсці на агеньчык”. Этымалогія і міфалогія фразеалагізма / Г.І. Лапацін // Материалы XIV Международной научно-практической конференции “Традиционная культура на территории российско-белорусского пограничья: историко-этнографический и лингвокультурологический аспекты” (г. Новозыбков, Брянская область, 14–15 ноября 2012 г. ) / Под ред. С.Н. Стародубец и др. – Брянск: БГУ, 2012 . – С. 248–256.

Лапацін, Г.І. З вопыту вывучэння дыялектнай фразеалогіі. Фразеалагізмы з кампанентам “свяча” / Г.І. Лапацін // Материалы V Международной конференции “Славянская фразеология в ареальном, историческом и этнокультурном аспекте” / Редкол.: В. И. Коваль (отв. ред.) [и др.] – Гомель: ГГУ им. Ф. Скорины, 2007. – С. 124–129.

Лапацін, Генадзь. Легенды і паданні Белай Дубровы і Белага Каменя / Генадзь Лапацін // Літаратура і мастацтва. – 2001. – 5 кастр. – С. 16.

Лапацін, Г. Як на Пакроў Свячу насілі / Г. Лапацін // Алеся. – Мінск.– 2008. – № 10. – С. 22– 23.

Лапацін, Г. Называюць адзін аднаго “свацейкі” / Г. Лапацін // Голас Веткаўшчыны. – 2008. – 20 снежня. – С. 7.

Лапацін, Г.І. “Свяча” як боства, якое памірае і ўваскрасае / Г.І. Лапацін // “Скарына і наш час”, V Міжнародная навуковая канф. (2011, Гомель), Міжнародная навуковая канферэнцыя “Скарына і наш час”, 14–15 кастрычніка 2011 г. [Матэрыялы] / Рэдкал.: А.А. Станкевіч (гал. рэд.) [і інш.]; М-ва адукацыі РБ, Гомельскі дзярж ун-т імя Ф. Скарыны. – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2011. – С. 216–227.

Лапацін, Г. Улюбёнае свята / Г. Лапацін // Голас Веткаўшчыны. – 2008. – 3 ліпеня. – С. 3.

Лопатин, Г.И. “Если Свеча в доме…” / Г.И. Лопатин // Голоса ушедших деревень / Г.Г. Нечаева [и др. ]; под общ. ред. Г.Г. Нечаевой. – Минск: Белорус. наука, 2008. – С. 270 – 275.

Лопатин, Г.И. “Ікона звалась свячой...” Из опыта изучения обряда “Свечи” в Восточном Полесье / Г.И. Лопатин. – Антропологический форум. Санкт-Петербург, 2008. – № 8. – С. 402–416.

Лопатин, Г.И. Легенды и предания деревни Верхличи / Г.И. Лопатин // Живая старина. − 2003. − № 4. Текст 2.

Лапацін, Г.І. (у сааўтарстве). Свяча, братчына, канун / Г.І. Лапацін // Міфалогія беларусаў: Энцыкл. слоўн. / Склад. І. Клімковіч, В. Аўтушка. − Мн.: Беларусь, 2011. − С. 437−439.

Лопатин, Г.И. Из опыта изучения обряда “Свеча”. Опыт опросника по сбору этнографического материала /Г.И. Лопатин // Материалы Международной научно-практической конференции “Российско-белорусско-украинское пограничье: провинция как социокультурный феномен”. Новозыбков. Брянская обл., 22−23 октября 2009 г. / Ред. кол.: В.Н. Пустовойтов, С.Н. Стародубец, А.В. Шлома. − Брянск: БГУ, 2008. − С. 164−168.

Лопатин, Геннадий. Фольклорно-этнографический репертуар личности: Варвара Александровна Грецкая (II. Записи 2005 − 2011 гг.) / Геннадий Лопатин // Palaeoslavica Vol. XIX, №1. − Cambridg, Mass, 2011. − Pp. 222−276.

Лопатин, Геннадий. Фольклорно-этнографический репертуар личности: Варвара Александровна Грецкая (III. Записи 2010 − 2012 гг.) / Геннадий Лопатин // Palaeoslavica. Vol. XX, №1. − Cambridg, Mass, 2012. − Pp. 207−243.

Раманава, Л.Д. “Ахвяра як аснова стварэння новага часу. Ахвярапрынашэнні ў абрадах “свяча”, “ваджэнне і пахаванне “Стралы” / Л.Д. Раманава // Традыцыі матэрыяльнай і духоўнай культуры Палесся // Матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі (Гомель, 20–21 мая 2004 г.): у 2 ч. Ч.1. / Гал. рэдактар А.А. Станкевіч. − Гомель: УА “ГДУ імя Ф. Скарыны, 2004. − С. 183−192.

Раманава, Ларыса “Свяча ці народам, ці Богам суджана” / Л. Раманава // Роднае слова. − 2004. − № 3. − С. 104−106.

Скідан, А.В. Богаслужбовы чын абраду “Свяча” на прыкладзе малітоўнай практыкі адной сельскай абшчыны / А.В. Скідан // Православие на Гомельщине: историко-культурное наследие и современность: сборник научных статей. Г.А. Алексейченко (ответств. ред.) [и др.]; М-во образования РБ, Гомельский госуниверситет им. Ф. Скорины. − Гомель: ГГУ им. Ф. Скорины. − С. 187−192.

# Змест

Навукова-папулярнае выданне

**Лапацін** Генадзь Ісаакавіч

**“Ікона звалась Свячой...”**
Абрад “Свяча” ў прасторы
традыцыйнай культуры Гомельшчыны

Рэдактар М.А. Беразоўская
Карэктар М.Л. Краўчанка
Тэхнічнае рэдагаванне
і вёрстка В.М. Сакуновай
Афармленне вокладкі К.П. Чындаравай
Фотаздымкі А.В. Скідана

Падпісана ў друк 20.03.2013 г. Фармат $60 \times 84^{1/16}$.
Папера афсетная. Друк афсетны. Гарнітура “Times”.
Ум. друк. арк. 6,28. Ул.-выд. арк. 5,37. Тыраж 200. Заказ № 415.

Выдавецкае і паліграфічнае выкананне ТДА “Барк”.
ЛИ № 02330/0549485 от 14.05.2009 г.
ЛП № 02330/0494249 от 25.04.2009 г.
246050, г. Гомель, пр. Леніна, 3.
Тэл. (0232) 74-34-08, 74-35-41